# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 123 December 2005 Сьнежань Год выд. 13.


## *Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага 2006-га году*

жадае ўсім чытачам газэты — выдавец і рэдактар.





***Нараджэньне Тваё, Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом розуму. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю-ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе слава Табе!***



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць погляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЯК ГЭТА БЫЛО

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «У Белавежскай пушчы мы не пілі, а працавалі...»

Наша газета ўжо раней паведамляла, што падчас прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў Аляксандр Лукашэнка добра "прайшоўся" па былым старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу. Маўляў, той "не быў прэзідэнтам Беларусі і не меў права падпісваць Белавежскія пагадненні", сам Лукашэнка "быў супраць крушэння і развалу Саюза", а кампанія Ельцына, Краўчука і Шушкевіча і ўвогуле "апаганілі такое месца, якое зараз з'яўляецца рэзідэнцыяй прэзідэнта".

Аб тым, як было на самай справе, аб падзеях 14-гадовай даўніны расказвае сам Станіслаў ШУШКЕВІЧ.

— Станіслаў Станіслававіч, Белавежскія пагадненні былі падпісаны 8 снежня 1991 года…

—...Пасля цэлай ночы работы аб'яднанай каманды расіян, беларусаў і ўкраінцаў. Адзіны сказ, які мы прынялі 7-га і з якім вусна пагадзіліся, гэта быў наступны сказ: "СССР як геапалітычная рэальнасць і суб'ект міжнароднага права спыняе сваё існаванне". І калі мы ўсе ўтрох — Барыс Ельцын, Леанід Краўчук і я — далі згоду на падпісанне гэтага сказу... Зрэшты, цяпер ёсць спрэчкі наконт таго, хто ж яго першым прапанаваў, хоць я дакладна ведаю — хто...

— Вы?

— Не я... І вось, калі мы пагадзіліся на прапанову, тады адразу стала зразумела, што трэба азначыць усе аспекты і трэба зрабіць Пагадненне, каб былі адказы на пытанні, якія паўстануць пасля яго падпісання. Пагадненне атрымалася з 14 пунктаў, кожны з якіх быў прыняты кансенсусам шасцярых чалавек. Акрамя мяне, Барыса Ельцына і Леаніда Краўчука, у гэтай нарадзе бралі ўдзел беларускі прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, украінскі — Вітольд Фокін і ад Расіі — Генадзь Бурбуліс. Я яшчэ раз падкрэслю — ні па адным пункце не было разыходжанняў.

— Вы збіраліся "ўціхую, ноччу"?

— Мы збіраліся не ўціхую, усе пра гэта ведалі... 7 снежня прыляцелі на ваенную базу, якая непадалёку ад Белавежскай пушчы. У кожнай дэлегацыі была свая вялікая каманда. У нашай быў Вячаслаў Кебіч, яго намеснік Міхаіл Мясніковіч, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, было даволі многа юрыстаў і кампетэнтных людзей. Мы збіраліся весці эканамічныя перамовы, а таму былі там і эканамісты. Ельцын прыляцеў спачатку ў Мінск, а ж, калі сустрэў у Мінску Леаніда Краўчука, палічыў, што будзе мэтазгодным, каб не губляць час, паляцець разам з Краўчуком. Кебіч з усімі астатнімі паляцелі беларускім урадавым самалётам без мяне. Мы, дарэчы, запрашалі туды яшчэ і Нурсултана Назарбаева, з ім была размова, і ён абяцаў прыляцець, аднак зрабіў выгляд, што па тэхнічных прычынах яго самалёт не змог вылецець.

— У колькі Вы прыехалі ва ўрадавую рэзідэнцыю ў Белавежскую пушчу?

— Было яшчэ светла, і напачатку размясціліся. Для Ельцына адвялі самыя лепшыя апартаменты, Краўчук таксама пасяліўся амаль у такіх жа, а я выпрашыў спыніцца ў паляўнічым дамку. Вакол размясціліся дэлегацыі, усе астатнія пасяліліся ў гасцініцы ў паўкіламетра ад рэзідэнцыі. 7-га прыехалі, паабедалі, затым павячэралі... На наступны дзень пасля сняданку цэлы дзень працавалі над дакументам. Харчаваннем займалася ўрадавая служба забеспячэння, бяспекай — тагачасны старшыня КДБ Эдуард Іванавіч Шыдлоўскі.

— Вялікая была ахова?

— Ахова была моцная! Сабраліся ж кіраўнікі трох дзяржаў... Я не ведаю ў дэталях, хто нас ахоўваў, аднак некалькі разоў пытаў у Шыдлоўскага: "Ці можам мы адчуваць сябе спакойна?" Той адказаў: "Усё нармальна! Мы цесна ўзаемадзейнічаем з расійскімі спецслужбамі, ніякіх эксцэсаў не будзе". Адным словам, ніхто працаваць нам не перашка-джаў, і раніцай 8-га была падрыхтавана "балванка" дакумента. Пэўныя карэкцыі, калі нехта не пагаджаўся, мы ўносілі самі ўшасцярых, а пэўныя змяненні адсылалі з пажаданнямі на дапрацоўку. Гэта была праца! Звычайна ж такія Пагадненні рыхтуюцца спецыяльнымі службамі ці аддзеламі каля месяца, а мы падрыхтавалі яго за дзень і да гэтага часу да дакумента няма ніводнай абгрунтаванай юрыдычнай заўвагі.

— Калі Вы ляцелі туды, то яшчэ не ведалі, што падпішаце Пагадненне?

— Ні ў якім разе! Ніхто не думаў... Увогуле, я таму і паляцеў разам з Краўчуком, бо галоўным было абмеркаванне паліўнага пытання, каб пазбавіць Беларусь ад халоднай зімы. У Расіі пачынаў працаваць рынак, а нам разам з эканамічнымі давялося вырашыць і палітычныя пытанні.

— У колькі падпісалі Пагадненне?

— Падпісалі публічна падчас прэс-канферэнцыі 8 снежня каля 16.00. Перад гэтым ноччу працавалі нашы каманды і ішлі перамовы ў "гарызантальных" групах.

— А чым напярэдадні займаліся Вы, Ельцын і Краўчук?

— Увечары, гадзін у 10—11, мы пайшлі ў лазню.

— Спіртное піцё ўжывалі?

— Спіртнога ў рэзідэнцыі было, хоць заліся... Але шчыра вам скажу — я некалькі разоў бачыў Барыса Ельцына, як пісаў Высоцкі, у стане анабіёзу, аднак у Белавежскай пушчы ён не быў напапітку. Краўчук таксама не піў... Асабіста ж я лічыў, што піць напярэдадні падпісання такога лёсавырашальнага дакумента — гэта было б злачынствам. У той сітуацыі гэта было б неразумна. Пасля падпісання кожнага пункта мы прыкладваліся да чарак з каньяком, аднак так гэтыя чаркі і засталіся напалову поўнымі. Паўтаруся, было не да гэтага. Я ўсведамляў, што, калі Вярхоўны Савет не пацвердзіць тое, што я падпісаў, значыцца, маёй кар'еры на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савета прыйшоў канец. Для мяне ж падпісанне гэтага Пагаднення было актам прызнання Расіяй незалежнасці Беларусі.

— Аднак Аляксандр Лукашэнка заявіў, што "Шушкевіч не меў паўнамоцтваў на падпісанне Белавежскіх пагадненняў" і "Шушкевіч павінен быў атрымаць дазвол на падпісанне дакументаў ад беларускага парламента"...

— Гэта поўнае глупства! Па-першае, я меў усе паўнамоцтвы для падпісання любога міжнароднага пагаднення. Яно адразу ж уступала ў сілу згодна з нашай тагачаснай Канстытуцыяй. Але я быў абавязаны неадкладна пасля гэтага паставіць пытанне аб ратыфікацыі Пагаднення перад парламентам. Я падпісаў Белавежскае пагадненне і паставіў пытанне аб яго ратыфікацыі, што парламентарыі амаль аднагалосна і зрабілі. Адзіны чалавек, які выказаў сумненне ў мэтазгоднасці Пагаднення, — гэта быў Валерый Ціхіня. Згодна з пратаколам, прозвішча тагачаснага дэпутата Вярхоўнага Савета Аляксандра Лукашэнкі ў пратаколах галасавання сярод тых, хто галасаваў супраць Пагаднення, няма. Вось гэта — стопрацэнтная праўда! І нават калі ў галасаванні ён, магчыма, і не ўдзельнічаў, то чаму ж тады не выйшаў на трыбуну і не сказаў свае слова супраць Белавежскіх пагадненняў? Вось аб чым трэба было спытацца ў яго расійскім журналістам.

Алесь СІВЫ. /Н. В./

************************************************

# С.Шушкевіч: "Альтэрнатывай Віскулям была грамадзянская вайна"

Чатырнаццаць гадоў таму былі падпісаныя Віскулёўскія пагадненьні, якія канстатавалі канец СССР. Адным з тых, хто паставіў свой подпіс, быў Старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Станіслаў Шушкевіч.

(Цыганкоў:) Давайце яшчэ ўзгадаем сытуацыю ў 1991 годзе, людзям уласьціва вельмі хутка забываць гісторыю, і часам маляваць яе ружовымі фарбамі. Я нагадаю, што ў 1991 годзе рэспублікі ўжо не плацілі падаткі ў агульнасаюзны бюджэт, ва Украіне прайшоў рэфэрэндум, на якім 90 працэнтаў насельніцтва прагаласавалі за сувэрэнітэт. новую саюзную дамову не ўдавалася заключыць. У Расеі рэальная ўлада пераходзіла ад саюзных да расейскіх органаў. Так што ці магла быць нейкая альтэрнатыва белавескім пагадненьням?

(Шушкевіч:) "Ведаеце, альтэрнатыва магла быць адна -- гэта бойка, пусканьне крыві і паход бедных на багатых, адных рэгіёнаў на іншыя. Магла быць грамадзянская вайна. Я думаю, тое, што мы гэтага пазьбеглі -- прызнае ўвесь сьвет. Гэта нават здольны ўцяміць і Лукашэнка, хаця яму цяжкавата гэта зрабіць, бо ў яго шоры калгасна-саўгасныя на вачах даўно. І тое, што ён, прабачце, гаворыць цяпер расейскім журналістам, што нехта там пужаў расіянаў -- гэта ня мае ніякай падставы. Разумны чалавек гэтага б не сказаў".

"Пад час сустрэчы з расейскімі журналістамі Лукашэнка казаў, што нібыта ў часы, калі ва ўладзе былі, як ён выказаўся, "нацыяналісты і Шушкевіч", руськія "сядзелі на чамаданах"...

Гэта -- глупства. Ні адзін рускі ня зьехаў з Беларусі, нікому нічога не пагражала. Ну а паколькі цяпер няма што сказаць добрага, што Беларусь нечага дасягнула, што далей за нас пайшлі ўсе іншыя былыя рэспублікі, якія пайшлі па іншым шляху, у прыватнасьці прыбалтыйскія. далей нас, маючы горшыя стартавыя ўмовы, пайшла Польшча. Далей нас пойдзе ў бліжэйшы час Украіна, бо там ідзе дэмакратычная рэформа. А тут - калгаснае, саўгаснае, ды з карэйцамі і кубінцамі, а цяпер яшчэ і венэсуэльскі кантакт. Глупства гэта! Беларусь -- эўрапейская краіна, і можа разьвівацца па эўрапейскім шляху, і дасягнуць ня горшага, чым эўрапейскія краіны. Але дзеля гэтага трэба мець нейкае іншае разуменьне, а не арыентавацца на вершы нейкага Быкава, якога наогул не існуе.

Былы прэм'ер Вячаслаў Кебіч яшчэ падчас прэзыдэнцкай кампаніі 1994 году "пакаяўся" за свой удзел у развале СССР, такім чынам спадзяючыся выйграць выбары. А ці былі тады, у 1991 годзе, нейкія разыходжаньні ў пазыцыі беларускай дэлегацыі?

"Ня тое што разыходжаньняў не было -- але ўсе, падкрэсьліваю, усе пытаньні ня толькі ў беларускай дэлегацыі, але і на нарадзе самага вышэйшага рангу прымаліся толькі кансэнсусам. Усе фармулёўкі былі даведзеныя да таго, што ні аднаго супраць не было. І больш нідзе. І ў Вярхоўным Савеце 12 скліканьня супраць быў толькі адзін дэпутат, Ціхіня. Бо яму было крыўдна, ён дасягнуў пазыцыі сакратара ЦК КПБ, а тут усё трацiцца. ўсе астатнія падтрымалі. ія пазьней цытаваў выступы людзей - ведаеце, яны былі ў захапленьні, што мы ідзем па шляху , што ня трэба здаваць падаткі ў Маску, што ўсе пытаньні можна вырашаць тут, у Менску. А з Расеяй трэба сябраваць.

Некаторыя прыхільнікі захаваньня СССР часам пытаюцца, чаму тагачасны прэзыдэнт СССР Міхаіл Гарбачоў не накіраваў роту дэсантнікаў, якая б арыштавалі беларускіх змоўшчыкаў. Ці было такое магчыма нават тэарэтычна? Ці падпарадкоўвалася хоць што-небудзь тады Гарбачову.

"Ведаеце, я дапускаю, што можна было знайсьці нейкую хеўру галаварэзаў, але трэба аддаць належнае Гарбачову -- ён ужо не абапіраўся на КГБ. Былі ўжо і Вільня, і Тбілісі. Ён ужо разумеў, што такога быць ня можа. Такія ўчынкі рабіць нельга. Зьезд народных дэпутатаў асудзіў такія ўчынкі, і ўтойваць гэта было б ужо немагчыма. Акрамя таго, мы вельмі клапаціліся аб тым, каб забясьпечыць бясьпеку кіраўнікоў двух суседніх дзяржаў, і расейскія спэцслужбы таксама ахоўвалі Ельцына і дапамагалі Шыркоўскаму, нашаму кіраўніку КГБ. Так што я думаю, з аднаго боку Гарбачоў бы на гэта не пайшоў (я ведаю ягоны характар). а з другога боку -- было прадугледжана, каб такое было немагчыма".

Рэакцыя на Віскулі сёньня -- з чым вы часьцей сустракаецеся, з якой рэакцыяй, напрыклад, на вуліцах Менску, бо зразумела ж, што вас пазнаюць..

"Я ўжо апошнім часам ведаю толькі аднаго - двух чалавек у Менску, якім гэта не падабаецца. Што да астатніх, дык акрамя пахвалы ў свой адрас, нічога ня чую. А што да Масквы, да Кіеву -- нешта падобнае на мітынгі зьбіраецца. Нядаўна я быў у кнігарні на Новым Арбаце, і ведаеце, людзі беглі да мяне падпісваць кніжку ўспамінаў Ельцына, там маё прозьвішча. Казалі, расьпішыцеся, мы Вас паважаем, Вы такое зрабілі.... І гэта -- у Расеі, я ўжо не кажу пра Украіну. Усе нармальныя людзі ўсьведамляюць, што адносіны з Расеяй павінны быць як адносіны паміж ЗША і Канадай -- адкрытая мяжа, узаемадзеяньне, і гэта лёгка зрабіць. Але імпэрскія амбіцыі пэўных структур перашкаджаюць гэтаму".

************************************************

## Станіслаў Шушкевіч: Беларускія «дэпутаты» – нашчадкі тых, хто падтрымліваў рэпрэсіі ў 1937 годзе

*Паводле былога старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча, пасьля прыняцьця паправак да крымінальнага заканадаўства, якія прадугледжваюць узмацненьне адказнасьці за дзеяньні, "накіраваныя супраць чалавека і грамадзкай бясьпекі" старшыні КДБ Беларусі проста будзе лягчэй працаваць. "Паліцэйская дзяржава займаецца самаахоўай. Гэта можа быць толькі пад патранатам Расеі, што і мае месца. Хочуць узаконіць дыктатуру і каб ніхто ня мог сказаць, што гэта дыктатура, што гэта беззаконьне. Які ў нас парлямэнт? Гэта людзі, якія прызначаны для таго, каб ахоўваць прэзыдэнта. Калі слабадасьведчаны чалавек хоча панаваць, то ён зьбірае слабадасьведчаную хеўру, якая яму дапамагае ў гэтым. Гэта людзі з той пароды, якія падтрымлівалі рэпрэсіі 1937 году. Гэта якраз нашчадкі тых людзей", -- паведаміў Шушкевіч.*

Былы старшыня Вярхоўнага Савету, актывіст сацыял-дэмакратычнага руху Мечыслаў Грыб адзначае, што падобнага яшчэ ніколі ў Беларусі не было:

*"Гэта ўсё гаворыць аб тым, што ідзе вялікая зачыстка палітычнага поля перад прэзыдэнцкімі выбарамі ў 2006 годзе. Каб ніхто, нідзе, нічога ня мог сказаць, каб ніхто, нідзе, нікога ня мог ні аб чым папрасіць, таму што гэта разглядаецца як крымінальнае злачынства і за гэта людзі будуць прыцягвацца да адказнасьці."*

Вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі адзначае, што сыстэма ў Беларусі разьвіваецца сваім лягічным шляхам, такое ўжо мелася ў краінах з дыктатарскім рэжымам. Прапанаваныя папраўкі нагадваюць рэпрэсіўныя артыкулы савецкіх часоў:

*"Гэты артыкул, фактычна, завязвае рот усім крытыкам. Калі гэтыя праўкі ўсё ж будуць унесеныя ў крымінальнае заканадаўства, то рэпрэсіі супраць беларускіх грамадзкіх актывістаў, палітычных актывістаў рэзка ўзмацняцца. Мне асабіста будзе вельмі цікавай рэакцыя міжнароднай супольнасьці, бо, фактычна, унясеньне гэтых правак у беларускае крымінальнае заканадаўства адназначна ўжо пазбаўляе ўсялякіх ілюзіяў што да трансфармацыі рэжыму Лукашэнкі".*

**********************************************************************

# дальтанізм — небяспечная хвароба для палітыка...

Вядома хвароба, пры якой чалавек перастае адрозніваць чырвоны колер ад зялёнага. Яна атрымала назву "дальтанізм".

У савецкія часы дальтонік не мог спадзявацца, што зможа атрымаць правы на кіраванне аўтамабілем. Выпускаць на дарогу такую асобу лічылася небяспечным. І гэта было цалкам справядлівае рашэнне. Лепш абмежаваць правы адной асобы, чым ставіць пад удар іншых людзей.

Дальтанізм — шырока распаўсюджанае захворванне. Сустракаецца яно і ў палітыкаў. Першай прыкметай гэтай хваробы з'яўляецца тое, што палітык перастае адрозніваць рэальныя падзеі ад таго, у што ён верыць. Нядаўна гэта прадэманстраваў Юрый Варонежцаў у сваім артыкуле "Союз — единственный способ существования?", ("Народная воля", 12 кастрычніка б.г.). Паважаны палітык аналізаваў распаўсюджанае ў Беларусі меркаванне аб тым, што наша краіна не зможа выжыць без дапамогі іншых дзяржаў ці дзяржаўных аб'яднанняў. Ён разглядаў плюсы і мінусы стварэння саюзнай дзяржавы з Расіяй альбо ўступлення Беларусі ў Еўрасаюз.

Ю. Варонежцаў перакананы, што сёння для Беларусі рэальна толькі першая магчымасць, гэта значыць стварэнне саюзнай дзяржавы з Расіяй. Еўрасаюз, на яго думку, нам не падыходзіць. Па-першае, яшчэ невядома, ці чакаюць нас у Еўрасаюзе. Па-другое, а хто можа даць гарантыю таго, што з намі ў Еўрасаюзе будуць абыходзіцца нармальна. Відаць па ўсім, што Юрый Варонежцаў не надта ўпэўнены ў тым, што беларусаў будуць лічыць у Еўрасаюзе за нармальных людзей. І вось ён палохае чытачоў газеты, што чыноўнікі Еўрасаюза яшчэ страшнейшыя за маскоўскіх. Аказваецца, яны нават курэй з вёскі Глушкавічы прымусяць несці квадратныя яйкі! Таму адзіная дарога для Беларусі заключаецца ў стварэнні асобых адносін з Масквой, прыкладна такіх, як паміж Канадай і ЗША.

Асобыя адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, па меркаванні Юрыя Варонежцава, павінны грунтавацца на спецыяльных пагадненнях, якія будуць гарантаваць захаванне беларускай дзяржавы. І ў гэтым выпадку Беларусь зможа спакойна развівацца з дапамогай Расіі, а ў будучым, магчыма, нават уступіць у Еўрасаюз.

Усе гэтыя разважанні паважанага палітыка настолькі дзіўныя, што можна падумаць — ён штодзённа слухае палітычныя каментары тэлебачання Беларусі і поўнасцю падзяляе тое, што гавораць аб Еўрасаюзе непаважаныя спадары Новікаў, Леднік, Пракопаў і г.д. Справа ў тым, што меркаванні і вывады, выкладзеныя ў артыкуле "Союз — единственный способ существования?", поўнасцю паўтараюць меркаванні і высновы гэтых небезвядомых прадстаўнікоў самай старажытнай прафесіі ў свеце. Менавіта гэтыя асобы бесперапынна распаўсюджваюць самую нахабную хлусню пра Еўрасаюз і адначасова бесперапынна выхваляюць будучую саюзную дзяржаву.

Мне падаецца, што кожны дэмакратычны палітык, а Юрый Варонежцаў несумненна з'яўляецца дэмакратычным палітыкам, павінен правільна прадстаўляць надзённыя задачы, якія стаяць сёння перад нашай краінай. Няма ніякага сумнення, што ўступленне Беларусі ў Еўрасаюз дапамагло б вырашыць усе складаныя задачы Беларусі. Гэта гарантавала б хуткае эканамічнае развіццё і поўнасцю зняло б праблему захавання суверэнітэту. Гісторыя Еўрасаюза дае станоўчыя прыклады, якія пацвярджаюць маё меркаванне. Вядома, што яшчэ на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя Партугалія і Грэцыя былі найбяднейшымі краінамі Заходняй Еўропы. Тыя, хто наведваў Партугалію на пачатку 80-х гадоў, сведчылі, што ва ўсіх гарадах гэтай краіны на вуліцах было шмат жабракоў, якія прасілі ў прахожых капейку, каб купіць кавалак хлеба. Цяпер Партугалія, можна сказаць, працвітае. Тое самае і з Грэцыяй. Справа ў тым, што палітыка Еўрасаюза ў галіне эканомікі скіравана на выраўніванне даходаў грамадзян — членаў Еўрасаюза. Багатыя краіны гэтай арганізацыі дапамагаюць бедным краінам. Можна не сумнявацца, што праз нейкі час наступіць эканамічны росквіт і ў Літве, і ў Латвіі, і ў Эстоніі, і ў былых краінах "народнай дэмакратыі", якія ўжо сталі членамі Еўрасаюза альбо стануць імі ў хуткім часе. Таму любы дэмакратычны палітык павінен не запалохваць курэй у вёсцы Глушкавічы, а расказваць беларускаму насельніку, да смерці запалоханаму спадарамі зімоўскімі, пракопавымі, леднікамі, новікавымі і г.д., што ўступленне ў Еўрасаюз было б для Беларусі найвялікшай падзеяй у яго гісторыі. Адначасова трэба адкрыта гаварыць аб тым, што нас ніхто не чакае ў Еўрасаюзе, таму што ў гэтую арганізацыю прымаюць толькі тыя краіны, якія падзяляюць агульначалавечыя прынцыпы і з'яўляюцца праваабывымі дзяржавамі. Таму ў нас няма ніякіх шанцаў трапіць у Еўрасаюз. І гэта вельмі дрэнна для ўсіх нас, для грамадзян Беларусі.

Між іншым, гэта адна з многіх прычын, якія прымушаюць Беларусь падтрымліваць і развіваць узаемадзеянне з былымі рэспублікамі былога СССР. Аляксандр Лукашэнка гатоў нават на стварэнне саюзнай дзяржавы з Расійскай Федэрацыяй. Ён таксама, як і Юрый Варонежцаў, заспакойвае беларускага абывацеля сцвярджаючы, што стварэнне саюзнай дзяржавы пойдзе толькі на карысць Беларусі, што ў саюзнай дзяржаве Беларусь будзе раўнапраўнай з Расіяй. Падобныя сцвярджэнні, я лічу, не маюць пад сабой ніякай падставы. Для пацвярджэння гэтай высновы спашлюся на некалькі характэрных выпадкаў.

24 чэрвеня 2002 года ў Маскве адбылася прэс-канферэнцыя Пуціна з расійскімі і замежнымі карэспандэнтамі. Ні да гэтай канферэнцыі, ні пасля яе ў Маскву не збіралася такая вялікая колькасць замежных журналістаў. Падчас прэс-канферэнцыі ў Пуціна спыталі, што ён думае наконт стварэння Расіяй і Беларуссю саюзнай дзяржавы. Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі адказаў, што ён наогул перакананы ў тым, што ўзнікненне беларускай дзяржавы пасля распаду СССР было памылкай, і выказаў сваё цвёрдае меркаванне, што Беларусь проста павінна ўвайсці паасобнымі абласцямі ў склад Расійскай Федэрацыі. У горшым выпадку, на яго думку, Беларусь напачатку магла б увайсці ў склад расійскай дзяржавы як адзін адміністрацыйны рэгіён.

Падчас іншага выступлення Пуцін ясна заявіў, што не можа быць ніякага раўнапраўя паміж Расіяй і Беларуссю, так як валавыя нацыянальныя прадукты гэтых краін несупастаўляльныя. Менавіта яму належыць крылатая фраза аб "мухах і катлетах". Гэтае выказванне было выкарыстана прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі для тлумачэння таго, што эканоміка Беларусі мізэрная ў параўнанні з эканомікай Расіі, і таму не могуць быць раўнапраўнымі Беларусь і Расія ў ствараемай саюзнай дзяржаве.

Пасля абрання Пуціна прэзідэнтам Расіі ў другі раз Масква наогул раскрыла свае карты і адносна Беларусі, і адносна іншых краін СНД. Было аб'яўлена, што мяняюцца прыярытэты знешняй палітыкі Расіі. Калі пасля распаду СССР асноўным напрамкам знешнепалітычнай дзейнасці Расіі было ўстанаўленне добразычлівых адносін з краінамі Захаду, Азіі, Амерыкі і г.д, то пасля выбрання Пуціна на другі тэрмін асноўным накірункам расійскай палітыкі павінна стаць палітыка адносна краін СНД. Расійская прэса вітала гэтую змену знешнепалітычнай дзейнасці і расказала, якія задачы будуць вырашацца Расіяй у краінах СНД. Аказваецца, асноўнай задачай будзе задача ператварэння ўсіх краін СНД, за выключэннем Беларусі, у верных васалаў Масквы, якія будуць мець толькі знешнія прыкметы суверэнных дзяржаў. Масква збіралася правярнуць гэтую акцыю, выкарыстоўваючы долары, заробленыя на нафце і газе. З іх дапамогай яна збіралася захапіць у краінах СНД усе важнейшыя прадпрыемствы і гэтым паставіць краіны СНД у становішча сваіх васалаў. Што ж датычыцца Беларусі, то, згодна з новай палітыкай Масквы, Беларусь павінна быць проста ўключана ў склад Расійскай Федэрацыі.

Вось якія планы Масквы адкрыта абмяркоўваліся і абмяркоўваюцца на старонках расійскіх газет. Таму проста здзіўляе наіўнасць Юрыя Варонежцава, калі ён у сваім артыкуле гаворыць аб тым, што можна з дапамогай нейкіх падпісаных дакументаў гарантаваць суверэнітэт Беларусі пры стварэнні асобых адносін паміж Беларуссю і Расіяй, падобных на тыя, якія існуюць паміж Канадай і ЗША і якія абапіраюцца прыблізна на 200 дакументаў, што гарантуюць захаванне суверэнітэту канадскай дзяржавы. Ды Масква падпіша хоць тысячу розных папераак, але тое, што яна не будзе іх выконваць, дык гэта павінна быць зразумелым нават п'янаму прычэпшчыку. Масква ж зацікаўлена толькі ў адным — у інкарпарацыі Беларусі ў склад расійскай імперыі і нават не спрабуе хаваць гэтыя свае планы. Можна толькі здзіўляцца таму, што гэтага не разумее Юрый Варонежцаў. Няўжо складана зразумець, што бесперапынныя патрабаванні Пуціна да прэзідэнта Беларусі аб перадачы беларускіх прадпрыемстваў пад кантроль расійскіх алігархаў ці пастаяннае патрабаванне Масквы да Беларусі адмовіцца ад беларускіх грошай і ўвесці на тэрыторыі Беларусі расійскія грошы і азначае, што Масква бачыць нашу краіну толькі часткай Расіі і ні аб якім захаванні суверэнітэту Беларусі тут няма і намёку.

Нельга параўноўваць Расію са Злучанымі Штатамі Амерыкі. ЗША з'яўляецца паслядоўным заступнікам права нацый на самавызначэнне. Таму ні ў аднаго палітыка ЗША не можа нават у сне з'явіцца ідэя ўключэння Канады ў склад ЗША. Зусім іншае ў выпадку расійскіх палітыкаў. Яны ўсе лічаць, што гэты прынцып прыдуманы Леніным, і пастаянна яго за гэта праклінаюць, сцвярджаючы, што рэалізацыя гэтага прынцыпу пасля кастрычніцкага перавароту прывяла ў 1991 годзе да крушэння СССР. У Расіі, напэўна, толькі Валерыя Навадворская ведае, што Ленін не з'яўляецца вынаходнікам права нацый на самавызначэнне.

Добра вядома, што ўсе палітыкі Расіі незалежна ад таго, у які лагер яны сябе залічваюць, з'яўляюцца на самай справе чарнасоценцамі. Нацыяналістычная чарнасоценная ідэалогія пранікла нават у Рускую праваслаўную царкву, іерархі якой бачаць сваёй галоўнай задачай не абвяшчэнне запаветаў Ісуса Хрыста, а пабудову расійскай імперыі. Гэта можна бачыць на прыкладзе патрыярха Рускай праваслаўнай царквы, які не можа вымавіць такія словы, як "беларускі народ", "украінскі народ". Для яго існуе толькі трыадзіны рускі народ. Вядома, што патрыярх Рускай праваслаўнай царквы з'яўляецца духоўнікам Пуціна. Магчыма, ён і навучыў прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, што існаванне беларускай дзяржавы з'яўляецца памылкай і што, як ён нядаўна сказаў, беларускі і рускі народы — гэта адзін народ.

Бяда беларускага народа заключаецца ў тым, што ён не мае ніякага ўплыву на палітычныя падзеі, што вызначаюць яго лёс. Сёння ў Беларусі нельга нават адкрыта выказаць сваю пазіцыю, хаця, як вынікае з Канстытуцыі Беларусі, абарона суверэнітэту нашай краіны з'яўляецца абавязкам кожнага грамадзяніна. І менавіта такая палітыка беларускіх улад стала прычынай таго, што беларускі народ маўчыць, тады як нейкія прайдзісветы спрабуюць вырашыць яго лёс. У нашай краіне дазваляецца выказвацца толькі ў падтрымку стварэння саюзнай дзяржавы, гэта значыць у падтрымку інкарпарацыі Беларусі ў склад расійскай імперыі. А менавіта гэта і з'яўляецца асноўнай мэтай Масквы. І мэта гэта выказваецца расійскімі палітыкамі абсалютна адкрыта. Сёння яны ўпэўнены, што Беларусь будзе абавязкова ўключана ў склад расійскай імперыі. Па іх меркаванні, адзінай перашкодай для рэалізацыі гэтай задумы з'яўляюцца толькі непамерныя амбіцыі паважанага Аляксандра Рыгоравіча, які за здачу беларускай дзяржавы патрабуе дазволу на выхад на расійскую палітычную сцэну.

Вядома, што галоўнымі прычынамі цяперашняга становішча Беларусі з'яўляюцца адсутнасць нацыянальна свядомай палітычнай эліты, а таксама нізкая нацыянальная свядомасць народа. Дык адкуль яна з'явіцца, гэтая свядомасць, калі ў Беларусі закрываюцца школы з беларускай мовай навучання, калі ў Беларусі няма ніводнай беларускай вышэйшай навучальнай установы, калі няма тэлебачання на беларускай мове, калі пераследуецца беларускамоўная прэса.

Такая антыбеларуская палітыка беларускіх ўлад, зразумела, не з'яўляецца выпадковай. Гэта ідзе падрыхтоўка да ўключэння Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі. Так як просты захоп Беларусі мог бы выклікаць адмоўную рэакцыю міжнароднай супольнасці, Масква выбрала іншую стратэгію. Напачатку яна спрабуе поўнасцю знішчыць усё беларускае, каб стварыць ілюзію таго, што наогул не існуе беларускага народа, што на самай справе людзі, якія завуць сябе беларусамі, з'яўляюцца "истинно русскими". Менавіта па гэтай прычыне з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі адкрыта вядзецца палітыка русіфікацыі. Сродкі ж масавай інфармацыі нашай краіны спрабуюць унушыць насельніцтву Беларусі, што яно, гэтае насельніцтва, ужо зараз пражывае ў Расіі, а беларуская дзяржава — гэта проста нейкая фікцыя. Аб гэтым яскрава сведчыць той факт, што ўсе палітычныя каментары на тэлебачанні Беларусі прысвечаны выключна толькі тлумачэнню палітыкі Расіі і выкрыццю варожых намераў заходніх дзяржаваў супраць Расіі.

І нават у гэтых умовах у Беларусі маецца шмат свядомых лю-дзей, якія добра разумеюць, што ўваход Беларусі ў склад Расіі не можа нічога даць беларускаму народу. Беларускі народ павінен спадзявацца толькі на

сябе. Ён у стане забяспечыць сваё існаванне без усялякіх саюзных дзяржаў. Ён гэта паспяхова прадэманстраваў пасля распаду СССР. Не маючы ні нафты, ні газу, Беларусь дабілася значных поспехаў у эканоміцы. Гэта прызнаюць нават ворагі Беларусі. І гэта павінен разумець палітык, які далучае сябе да дэмакратычнага лагера. І ён павінен не толькі гэта разумець, але і тлумачыць іншым, што саюзная дзяржава, якую рыхтуе для Беларусі Масква, азначае для беларускага народа поўнае знікненне з гістарычнай сцэны, таму што Масква задумала захоп Беларусі не для таго, каб нас ашчасьлівіць, а толькі дзеля таго, каб выканаць першы этап пабудовы новай расійскай імперыі. І Масква гэтага не хавае. Яна адкрыта заяўляе, што пасля вырашэння беларускай праблемы яна распачне інкар-парацыю Украіны, а затым і іншых краін СНД.

Міхась МАЛЬКО, кандыдат фізіка-матэматычных навук. /Н.В./

***

# Толькі з роднай мовай закрыляе Беларусь!

Такую перакананасць выказалі ўдзельнікі IX з'езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», які адбыўся ў Мінску.

Чаго яны збаяліся?

З'езд адбыўся нягледзячы на тое, што, магчыма, нехта разлічваў на адваротнае. Літаральна за дзень да яго адкрыцця, калі дэлегаты ва ўсіх кутках краіны ўжо атрымалі запрашэнні з указаннем месца сустрэчы, стала вядома: наконт ранейзамоўленага памяшкання — ад варот паварот! Недвухсэнсоўная "рэкамендацыя" зверху — і нават недзяржаўныя арганізацыі самастойна ступіць не могуць.

Здавалася б, ужо і прызвычаіцца можна — ці ўпершыню такое ў краіне, дзе нібыта "дэмакратыі больш, чым у Францыі". Але немагчыма і нельга прывыкаць да здзеку са здаровага сэнсу ледзь не на кожным кроку. Вядома: грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" — масавая непалітычная арганізацыя. Навошта ж самім уладам нагнятаць і палітызаваць сітуацыю? ?

У спісе сярод запрошаных на з'езд гасцей значыліся і высокія дзяржаўныя кіроўцы: старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Рыгор Васілевіч, намеснік прэм'ер-міністра Савета міністраў Уладзімір Дражын, міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч, міністр сувязі і інфарматызацыі Уладзімір Ганчарэнка, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў, дырэктар Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Лукашанец, адказныя супрацоўнікі Міністэрства адукацыі. Як вы, напэўна, і здагадаліся, ніхто з афіцыйных службовых асоб (як, дарэчы, і на мінулым з'ездзе ТБМ два гады таму) не ашчасьліву форум рупліўцаў роднага слова сваёй прысутнасцю. Ці то свайго выхаднога дня пашкадавалі, ці падумалі "дык жа нічога не будзе"? Ці, даведаўшыся, што гэтых ўпартых тэбэмаўцаў ад сваёй сядзібы па вул.Румянцава пашыбавалі не назад на вакзал, а ў сядзібу Партыі БНФ на вул.Варвашэні (цяпер ужо Машэрава), збаяліся: а раптам там, у невялікім маленькім зальчыку, месца ўсім не хопіць?

Гадаць не варта, варта пашкадаваць: нашы дзяржаўныя мужы разам з крытыкай у свой бок маглі б пачуць на свой адрас і добрыя словы за добрыя справы, калі яны робяцца. Ды і з выдатнымі людзьмі краіны сустрэцца твар у твар было б не грэх.

...У цесным зальчыку і сапраўды не было дзе яблыку ўпасці, некаторым давялося стаяць уздоўж сцен — мужчыны па-джэнтльмэнску давалі месцы жанчынам і шаноўным гасцям. У аднаначассе тут сабраўся цвет беларускай інтэлігенцыі, хто свой талент, працу і сэрца прысвяціў абароне роднага слова ад згубы, хто ўсімі сіламі дбае аб будучыні Бацькаўшчыны. Побач з пасланцамі рэгіёнаў, людзьмі розных прафесій — знаныя нашы навукоўцы і творцы: акадэмік Радзім Гарэцкі, прафесары Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс, Аляксей Пяткевіч, Мікола Савіцкі, народны паэт Ніл Гілевіч, пісьменнікі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Содаль, Эрнест Ялугін, рэжысёр Валеры Мазынскі, мастак Аляксей Марачкін і іншыя. Не абышлі ўвагай падзею і палітычныя дзеячы, прэтэндэнты на ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі-2006 — Аляксандр Мілінкевіч, Уладзімір Колас і Пётр Краўчанка. Прывітаць прыхільнікаў беларускага слова прыбылі амбасадары Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Джордж Крол і суседняй нам Польшчы Тадэвуш Паўляк.

Пабыць сярод такіх людзей, паслухаць іх, пагутарыць з імі — і гонар, і радасць, і карысць вялікая.

Скрозь церніі...

Бадай, менавіта так можна ахарактарызаваць дзейнасць ТБМ у варунках, калі ў Беларусі ідзе выцясненне і руйнаванне ўсяго беларускага. І перш за ўсё — дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі. Вось толькі некалькі лічбаў і фактаў з даклада старшыні Таварыства Алега Трусава.

Згодна з афіцыйнымі дадзенымі апошняга перапісу насельніцтва, 73,6 працэнта грамадзян краіны, нягледзячы на палітыку шалёнай русіфікацыі, лічаць роднай беларускую мову. Аднак у 1994—1995 гг. сярэднюю адукацыю па-беларуску атрымлівалі 40,7 працэнта вучняў, то зараз — толькі 23,8 працэнта. Такая тэндэнцыя — рэальная пагроза знікнення мовы. Падобная сітуацыя, паводле высноў ЮНЕСКА, узнікае ўжо пры 33 працэнтах, і гэтую мяжу мы "паспяхова" перайшлі. Ёсць чым ганарыцца перад цывілізаваным светам!

У краіне, дзе пасля згубнага рэферэндуму 1995 года абвешчана нібыта роўнасць беларускай і рускай моў, усталявалася фактычнае аднамоўе — на карысць апошняй. Родная мова, як і няцяжка было прадбачыць, аказваецца амаль незапатрабаванай у грамадстве. Высокапрафесійных спецыялістаў, таленавітых настаўнікаў, якія нясуць у сваіх сэрцах нацыянальную ідэю, любоў да Бацькаўшчыны, улады, выкарыстоўваючы кантрактную сістэму працаўладкавання, адлучаюць ад любімай справы. Так, напрыклад, толькі ў гэтым годзе былі пазбаўлены працы сябры Рады ТБМ Віталь Гарановіч і Леанід Гаравы — дырэктары буйных сярэдніх школ, Казімір Германовіч — настаўнік гісторыі сталічнага педкаледжа №1. Па-ранейшаму выгнаннікам з уласнага дому дзейнічае легендарны ўжо Беларускі гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа. Па-ранейшаму значная частка беларускай моладзі не мае магчымасці навучацца па-беларуску ў сценах ВНУ. Так і не створаны Беларускі нацыянальны універсітэт, за адкрыццё якога сябры і прыхільнікі Таварыства імя Францішка Скарыны змагаюцца ўжо не адзін год.

Гэтых балючых, ганебных "не" цэлая безліч.

І безліч усялякіх "так" са знакам "мінус".

— Шмат часу мы згубілі на тое, каб пераадолець перашкоды, якія чынілі і чыняць у адносінах да нашага аб'яднання ўладныя структуры, — зазначыў Алег Трусаў. — Таварыства то ўцягваюць у доўгую бюракратычную валакіту з мэтай пазбавіць права на арэнду сядзібы па вул.Румянцава, 13 у Мінску, то даюць папярэджанне з Міністэрства юстыцыі за тое, што шэраг структур арганізацыі мае юрыдычныя адрасы ў жылых памяшканнях. А ў нежылых паспрабуй знайсці: іх уладальнікі як па камандзе (а мо і сапраўды па камандзе) баяцца роднага слова, як чорт ладану... А то вандалы з меткай "НБП" (незарэгістраваная Нацыянал-большэвістская партыя) пэцкаюць чорнай фарбай шыльду на сядзібе Таварыства, ламаюць замок, пакідаюць гнюсныя ўлёткі, а РУУС Партызанскага раёна Мінска не знаходзіць складу злачынства для ўзбуджэння крымінальнай справы.

"Аўтараў" падобных "подзвігаў" — агрэсіўных ненавіснікаў беларускага ў Беларусі, што на працягу апошніх год не раз рабілі напад і на кватэру лідэра жодзінскіх арганізацый Таварыства Алеся Лапіцкага, ніяк не адшукае мясцовая міліцыя...

Па беларускай мове зноў страляюць.

"Страляюць" — не фігуральна, не метафарычна-перабольшана. І адбываецца гэта не ў далёкія ўжо 30-я гады, калі сталінскі рэжым фізічна вынішчаў "нацдэмаў" — прыхільнікаў беларушчыны, патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны, а ў XXI стагоддзі. Той жа Алесь ЛАПІЦКІ з Жодзіна ў сваім выступе на з'ездзе распавёў:

— Пасля публікацыі ў "Народнай волі" артыкула "Янка будзе вучыцца па-беларуску" аб тым, як мая сям'я разам з сябрамі ТБМ вяла доўгае і ўпартае змаганне за канстытуцыйныя правы для нашага сына вучыцца на роднай мове і як нарэшце на падставе Закона дамагліся свайго, мясцовыя неафашысты зноў нагадалі аб сабе. "Распісаліся" чырвона-карычневай — адпаведнай іх сутнасці — фарбай на акне кватэры. Мала таго: днямі, распаясаўшыся, бандыты папросту абстралялі кватэру.

У сваёй чарговай заяве ў міліцыю я нагадваю, што мясцовыя неафашысцкія групоўкі дзейнічаюць у вядомым не толькі ў Беларусі горадзе аўтамабілебудаўнікоў беспакарана і таму ўсё больш адкрыта, запалохваюць беларускамоўных актывістаў. Патрабую спыніць гэтае дзікунства!

Але хіба ёсць сіла, што запалохае, змусіць адступіць такіх мужных, перакананых і загартаваных патрыётаў, як сям'я Лапіцкіх, як тысячы і тысячы цудоўных людзей у нашых гарадах і вёсках? Народжаныя на гэтай зямлі, яны хочуць зрабіць яе ласкавай, роднай маці для сваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў, для ўсіх, хто жыве на ёй і будзе жыць.

Слухала шаноўнага спадара Алеся і згадвала даўні ўжо выпадак, які адбыўся аднойчы ў трамваі. Пачуўшы маю гаворку, нейкі ахламон бамжаватага выгляду зароў на ўвесь вагон: "Колхозница! Бэнээфовка! Таких, как ты, стрелять надо!" Я выйшла на патрэбным прыпынку, ён — за мной. І ўсё аголошваў вуліцу "кампліментамі" і "добрымі" пажаданнямі на мой адрас. Не выключаю, што падобны інтэлектуал мог зрабіцца шэфам-ідэолагам жодзінскай групоўкі РНАшнікаў. А што, падыдзе...

Эфект сарванай разьбы

І ўсё ж пры надзвычай складанай сітуацыі з мовай тытульнай нацыі, адзначалася на з'ездзе, нельга не заўважаць новых тэндэнцый, пэўных пазітыўных зрухаў і змен, якія паступова выспяваюць і пакуль з цяжкасцямі, але прабіваюцца ў грамадстве, псіхалогіі людзей. Гэта адчуваеш і на сабе амаль штодня, адказваючы на пытанне: "А почему вы говорите по-белорусски?" Пытаюцца ўжо не з варожасцю, а з цікаўнасцю і цікавасцю, з добразычлівасцю, а то і ўдзячнасцю, калі ўдаецца знайсці даходлівыя і простыя словы аб тым, што дорага табе самому і чалавеку любой іншай нацыі на Зямлі, які паважае сябе, шануе свой род і не хоча яго знікнення ў нябыцце.

Хто не ведае побытавую з'яву: калі занадта перакруціш шрубку, можа сарвацца разьба. Ціск і гвалт з боку ўлад у адносінах да святога — роднай мовы, асновы духоўнасці і адметнасці, самасвядомасці і самапавагі нацыі, падобна, вядзе да такога эфекту. Пакрысе мяняецца стаўленне да беларускай мовы, лепшая частка моладзі цягнецца да яе — такой багатай, выразнай, прыгожай, любай. Гэта ж факт: большасць пры тэставанні аддае перавагу беларускай мове — пры тым, што навучаецца ў асноўным у рускамоўных школах!

Нават кароткі перыяд беларускага Адраджэння пачатку 90-х даў невыкараняльны, жывы плён. Цяпер у нашай мовы складваецца новы імідж. Яе носьбітамі бачацца ўжо не толькі вясковыя дзядулі і бабулі, а перш за ўсё высокаадукаваная эліта нацыі, творчая інтэлігенцыя, нацыянальна свядомыя грамадзяне. Карыстацца беларускай мовай робіцца модна!

Рэжысёр Валеры МАЗЫНСКІ надзвычай ўсхвалявана дзяліўся ўражаннямі ад нядаўняй сустрэчы ў Палацы культуры МАЗа.

— Там ладзілі свята Рэфармацыі маладыя вернікі пратэстанцкай царквы. Прызнаюся, адгукнуўся я на запрашэнне не надта з вялікай ахвотай — я ж не спецыяліст у гэтай рэлігійнай плыні. Але, апынуўшыся ў новай для мяне аўдыторыі, у новым асяродку, быў уражаны: вакол гучыць жывая, натуральная, чароўная родная мова, віруе непадробнае натхненне. У кожным слове — любоў да Беларусі, яе духоўных скарбаў. Я ўбачыў юнакоў і дзяўчат новага пакалення, для якіх мова наша стала рэлігіяй! Значыць, у яе ёсць будучыня і ніхто яе не зачыніць!

Разам з тым вядомы дзеяч сцэнічнага мастацтва выказаў шкадаванне і непрыняцце таго, што ягоныя калегі — мастакі савет Тэатра юнага гледача — нядаўна зрабілі "важкі ўнёсак" у адлучэнне нашай дзятвы ад роднага слова, прынялі рашэнне аб пераходзе сваёй творчай працы на рускую мову.

— Лічу гэта праявай чарговага гвалту і цемрашальства ў сценах, дзе павінны адкрываць юным скарбы нацыянальнага мастацтва, узвышаць душу будучага грамадзяніна краіны.

Не змагла ўтрымаць эмоцый і намеснік старшыні ТБМ Алена АНІСІМ, згадваючы нядаўнюю паездку на юбілей сельскай школы на Стаўбцоўшчыне, дзе калісьці вучылася сама і дзе зноў убачыла самаадданых, з глыбокай любоўю да роднай мовы "аксакалаў" настаўніцкай справы і маладое педагагічнае папаўненне. Яны адчуваюць сябе годнымі гаспадарамі і захавальнікамі духоўных скарбаў сваёй зямлі, а роднае слова — выказнікам самага лепшага, святога, што ёсць у чалавека. І выціскаюць з сябе прыніжанасць і страх, звязваюць у адно росквіт нашай мовы і лепшую будучыню... Падобна, новая хваля беларусізацыі ўжо пачалася, яна ідзе з самага нізу народных глыбінь.

"Ах, какой вы националист"

— Уявіце сабе, так усклікнула з абурэннем настаўніца гісторыі беларускамоўнай сельскай школы ў адказ на маё пытанне, чаму свой прадмет яна выкладае на іншай мове.

Аб гэтым, здавалася б, не вартым асаблівай увагі выпадку распавёў актывіст ТБМ з Дзятлаўскага раёна Мікола СПРЫНЧАН, убачыўшы за ім вялікую праблему. Яшчэ многія нашыя інтэлігенты, паклікаіныя сеяць разумнае, добрае, вечнае, знаходзяцца ў палоне махровых стэрэатыпаў колішняй камуністычнай, ды і сённяшняй афіцыёзнай прапаганды. У разуменні такіх "нацыяналіст" — як і ў часы савецкай улады — ледзь не вораг народа, а беларуская мова — усяго толькі "дыялект рускай"... Каму, як не шматлікаму атраду працаўнікоў на ніве нацыянальнай адукацыі і культуры, бурыць застарэлыя ілжывыя міфы і асабістым прыкладам, стваральнай працай запальваць у душах людзей агеньчык сыноўскай любові і пяшчоты да ўсяго роднага — бацькоўскага кута, сваёй краіны з тысячагадовай дзяржаўнасцю, гераічнай гісторыі, радзіннага слова.

Вось гэта ўсё якраз і ёсць нацыяналізм у сапраўдным, цывілізаваным значэнні гэтага паняцця. Яго сэнс роўны слову патрыятызм, які, пры ўсёй адданасці сваёй Бацькаўшчыне, спалучаецца з глыбокай павагай да іншых народаў і іх культур, з шырокім кругаглядам і ўспрыманнем сябе арганічнай часцінкай агульначалавечай супольнасці.

Менавіта стваральная, карпатлівая асветніцкая праца, сцвярджае першы намеснік старшыні ТБМ Людміла ДЗІЦЭВІЧ, выходзяць на першы план і складае галоўны сэнс усёй дзейнасці грамадскага аб'яднання.

— Не, мы не заплюшчваем вочы на сённяшняе становішча нашай мовы, баронім яе ад вынішчэння і знявагі. Але замыкацца на ляманце аб тым не збіраемся, робім сваю справу з аптымізмам і гарачай верай. Інакш плёну не будзе. Таму імкнёмся ладзіць творчыя сувязі з шырокай грамадскасцю, знаходзіць паразуменне і падтрымку з боку разумных, дальнабачных і ўплывовых прадстаўнікоў кіруючых структур, а таксама тавараавытворцаў у Мінску і рэгіёнах. Адчувальную падтрымку бачым ад некаторых службоўцаў на чыноўніцкіх пасадах, якія не сталі манкуртамі, не страцілі духоўнай повязі з роднай зямлёй. Шчыры дзякуй ім за гэта!

З глыбокай удзячнасцю і пашанай гаварылі ўдзельнікі форуму аб вядомых у краіне майстрах літаратуры і мастацтва, навукоўцах (частка з іх была на з'ездзе), якія лічаць сваім асабістым доўгам спалучаць творчасць з нястомным асветніцтвам у народзе. Яны ахвотна ўдзельнічаюць у занятках штогадовага гістарычнага семінара на цэнтральнай сядзібе Таварыства, дзеляцца з моладдзю багатымі ведамі, з радасцю едуць у глыбінку на сустрэчы ў бібліятэках, клубах, школах, студэнцкіх аўдыторыях. Нясуць людзям светлую, нязводную красу роднага слова, багацце нашай старажытнай культуры, гордасць за ўнёсак свайго таленавітага народа ў сусветную духоўную скарбніцу.

«Добрыдзень!»

А ці можна пераацаніць той (не пабаюся гэтага слова) подзвіг — штодзённы, часам незаўважны, але жыццёва неабходны для сённяшніх і заўтрашніх пакаленняў, які робяць нашы сціплыя, бескарыслівыя, рупныя асветнікі-скарынічы ў розных кутках краіны? Яны ідуць да землякоў з кнігай у руцэ і святлом у сэрцы.

Сярод такіх — і дзве цудоўныя жанчыны, з якімі я пазнаёмілася на з'ездзе. Розныя ўзростам, жыццёвым і прафесійным досведам, яны жывуць у розных мясцінах і незнаёмыя між сабой. А быццам сёстры! Маладая настаўніца Сняжана КАСЯК вядзе ўрокі працы з дзеткамі Жарскай базавай школы на Ушаччыне, сваёй радзіме. Прыехала сюды з універсітэцкім дыпломам і прагай разам з выхаванцамі як мага глыбей спазнаць свой легендарны край —калыску вялікіх творцаў Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Петруся Броўкі. Цікавыя літаратурныя святы, вандроўкі па адметных мясцінах адкрываюць ім цэлы свет, акрыляюць паэтычным натхненнем, якое часта наведвае і Сняжану...

Сёння грамадскаму аб'яднанню пад знакам вялікага асветніка Скарыны даводзіцца супрацьстаяць парушэнню канстытуцыйных правоў грамадзян на атрыманне інфармацыі і адукацыі на роднай мове, гвалтоўнай русіфікацыі, адкуль бы яна ні зыходзіла — ад тутэйшых ворагаў беларушчыны ці звонку. Цягам двух гадоў Таварыства дамагаецца змен у "Законе аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", распрацавала і даслала ў заканатворчыя органы свае прапановы на гэты конт. Удзельнікі з'езда выказалі шчырае прызнанне Канстытуцыйнаму суду Рэспублікі Беларусь, які паўторна накіраваў свой ліст у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу са сваім рашэннем аб неабходнасці ўдасканалення вышэйзгаданага Закона. Але зрухаў пакуль няма. Папраўкі парламентарыямі не разгледжаны, забеспячэнне рэальнай роўнасці беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця дагэтуль не рэалізавана...

Сябры Таварыства надзвычай актыўна рэагуюць на праявы парушэння заканадаўства адносна роднай мовы. Сотні, а то і тысячы лістоў-зваротаў накіроўваюць яны ў адпаведныя ўладныя структуры і замежным адрасатам. Мусілі звярнуць увагу Міністэрства адукацыі на тое, што ім жа прынятая яшчэ ў 2001 годзе "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" застаецца на паперы. Разам адстойвалі сваю сядзібу ў Мінску... Дабіваліся — і дабіліся! — таго, што беларуская мова загучала ў вагонах электрычак, у метро, з'явілася на этыкетках новых тавараў — напрыклад, запатрабаваных у пакупнікоў лепшых гатункаў беларускага хлеба "Нарачанскі", "Траецкі", "Віленскі", "Радзівілаўскі", "Мальва". І нават на таварах для Беларусі, якія выпускаюць некаторыя прадпрыемствы суседняй Расіі...

Зараз сябры ТБМ нястомна вяюць за змену моўнай палітыкі Еўрапейскай камісіі пры вяшчанні на Беларусь, патрабуюць, каб "Нямецкая хваля" гаварыла з беларусамі па-беларуску, а не далучалася да русіфікацыі нашай краіны.

Але ці па сілах грамадскай арганізацыі, хай і даволі масавай і дзейснай, уласнымі намаганнямі выправіць скасабочаную моўную сітуацыю ў краіне? Нарэшце праблемы "знізу ці зверху?" цікава было паслухаць грамадскіх і палітычных дзеячаў, якія бралі слова на з'ездзе.

Моцнае слова — "абараню"

Не, нічога "палітычна-выбарчага" яны не казалі, агітацыю не разводзілі, "правільна" галасаваць не заклікалі. Іх, не падобных у многім асоб — магчымых саапернікаў пры магчымым удзеле ў прэзідэнцкіх выбарах — прывёў на з'езд адзін клопат: аб лёсе мовы тытульнай нацыі, яе ролі ў станаўленні дэмакратычнага грамадства і абавязку дзяржавы перад ёю. Вось кароткія фрагменты з гэтых прамоў.

Пётр КРАЎЧАНКА:

— Ведаю і бачу зараз у зале шмат выдатных, самаахвярных, апантаных людзей, якія прысвяцілі сябе беларушчыне, ці, як сёння гаварылася, беларусізацыі знізу. Гэта цудоўна, я схіляюся перад імі! Але ўпэўнены: без беларусізацыі зверху, з боку дзяржавы моўны генацыд не спыніць. Трэба, каб дзве гэтыя плыні ішлі насустрач, злучыліся, каб народная любоў да мовы была падтрымана ўладнай мудрасцю і клопатам, а не здзекам. Каб усе мы — і наверсе, і ўнізе — памяталі палымяны запавет вялікай Ларысы Геніюш:

Слова "кахаю" — слабае слова.

Моцнае слова — "абараню"!

Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ:

— Так, трэба не толькі любіць, а і мужна абараняць тое, што любіш. За польскім часам мой дзед сядзеў у турме за стварэнне беларускіх школ, за Саветамі народ змусілі русіфікавацца. Удушэнне роднай мовы працягваецца і сёння. Але хто мы без яе, без уласнай душы, без веры ў саміх сябе? Мы знойдзем і мужнасць, і веру адстаяць сваю мову, запаліць святло на сваёй зямлі!

Уладзімір КОЛАС:

— Яркая праява мужнасці нашых дзяцей, іх бацькоў і выкладчыкаў у тым, што зачынены ўладамі Нацыянальны гуманітарны ліцэй, насуперак усяму, не загінуў. Больш за тое, ён робіць сваю справу са знакам якасці! Дарэмна цвердзяць некаторыя нават "дэмакратычныя" вяшчальнікі: маўляў, беларускі народ свой выбар ужо зрабіў, і ён — на карысць рускай мовы, цяпер нічога не паробіш... Хлусня! Пра які выбар размова, хіба ён быў? Выбар — годны, прыгожы, патрыятычны — зрабілі нашы ліцэісты і шмат маладых беларусаў, якія імкнуцца вучыцца ў нас. Іх многа па ўсёй Беларусі, а будзе яшчэ больш.

Варта згадаць і выступ старшыні Партыі БНФ, актыўнага сябра ТБМ Вінцука ВЯЧОРКІ, які, у прыватнасці, сказаў:

— Мы стаім за вяртанне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай у беларускай дзяржаве. Спасылка на неіснуючае "дзвюхмоўе" цалкам хцівая і непрымальная. Наша жыццё, наша самабытнае аблічча ў свеце залежыць ад таго, наколькі мы самі разумеем: родная мова, нацыянальная ідэя — наш бастыён, наш сцяг і незалежная, годная, дэмакратычная будучыня.

А як не прывесці прывітальныя словы ўсім прыхільнікам беларушчыны ад Пасла Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Джорджа КРОЛА, які ўсяго за некалькі месяцаў здолеў вывучыць нашу мову і свабодна карыстацца ёю без усяляких паперак. (Дарэчы, і напярэдадні, пры наведванні разам з пасламі краін Еўрасаюза Народнага мемарыяла ў Курапатах, ён цудоўна размаўляў з усімі па-беларуску):

— Вы робіце свой народ пісьменным у шырокім сэнсе, а значыць — і годным, і вольным. Хай жа высока на небасхіле зззяе нязгасная зорка такой мілагучнай, музычнай і прыгожай мовы, стваральнік якой — народ — варты самай шчаснай долі .

Дзякуй за разуменне і добрыя зычанні, шаноўны госць нашай зямлі! Спадзяемся, яны спраўдзяцца — калі не будзем сядзець склаўшы рукі. Тады адродзіцца і закрыляе Беларусь.

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА / Н.В./

*******************************************************

## Алесь Аркуш: «Я не чакаў, што Бураўкін, Законьнікаў і Вярцінскі стануць у жорсткую апазыцыю»

*"Ведаеце, апошнім часам у мяне тут зьявіўся аптымізм. Я не чакаў, што старыя нашы літаратары, якія выхоўваліся ў машэраўскай намэнклятуры – Законьнікаў, Вярцінскі, Бураўкін і іншыя – могуць стаць у жорсткую апазыцыю. Але гэта адбылося, і для мяне гэта нечаканасьць... Насамрэч людзі, чые вершы мы вывучалі, гэта сур'ёзныя людзі, якімі мае ганарыцца наша нацыя. Яны паказалі, што беларуская літаратура – не прыкарытная, як казалі "Тутэйшыя" пра яе", – заявіў полацкі паэт, Старшыня таварыства вольных літаратараў Алесь Аркуш.*

***"Алесь, як бы Вы ахарактарызавалі апошнія падзеі – стварэньне альтэрнатыўнага Саюзу пісьменьнікаў і папраўкі ў Крымінальны кодэкс, я маю на ўвазе новы артыкул "Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь?"***

"Адносна Саюзу пісьменьнікаў я ўжо выказваўся ў газэце "Наша Ніва". Адносна гэтага ўчынку ўладаў і тых людзей, што на гэта пайшлі, мне цяжка падабраць словы. Відавочна, што мэта новага Саюзу проста падмяніць ранейшы Саюз, які быў неляяльны да рэжыму. Гэта была апошняя творчая арганізацыя, якая выказвала сваю апазыцыйнасьць. Прычым, выказвала ня як арганізацыя, але кожны сябар асобна. Ясна, што была пастаўлена задача, гэтую апазыцыйнасьць ліквідаваць".

***"У Беларусі вельмі малая колькасьць літаратурных часопісаў, няма шырокай практыкі сустрэчы пісьменьнікаў з чытачамі, дык які сэнс ліквідоўваць творчы саюз?"***

"А сэнсу, па вялікім рахунку, няма ні ў чым, што адбываецца апошнім часам. Ну навошта трэба было ліквідоўваць значную частку грамадзкіх арганізацыяў, якія проста займаліся дабрачыннасьцю. Які сэнс было зьнішчаць Саюз палякаў? Які сэнс было зьнішчаць пратэстанцкія цэрквы? Няма ніякага сэнсу. Сэнс у тым, што насоўваюцца прэзыдэнцкія выбары. Каб нават не было ніводнага апазыцыйнага асяродку, які б мог калектыўна выказацца супраць. Саюз пісьменьнікаў, тэарэтычна, мог прыняць заяву з падтрымкай нейкага кандыдата. Вось гэтую магчымасьць і трэба было ліквідаваць".

***"А што Вы думаеце пра папраўкі ў Крымінальны кодэк?"***

"Гэта падзея з таго самага ланцуга. Трэба стварыць юрыдычныя падставы, каб любога чалавека можна было адправіць за краты. Я ўяўляю, як раней судзьдзям ставілі задачу засудзіць чалавека – за што было судзіць, калі ён проста стаяў у пікеце, ня кажучы ні слова? А цяпер створаныя ўмовы, каб кожнага можна было пасадзіць. Сказалі вы нешта замежнаму карэспандэнту – за краты..."

***"Наколькі, на Вашую думку, беларуская нацыянальная інтэлігенцыя хоча і можа ўплываць на палітычныя дзеяньні апазыцыі?"***

"Ведаеце, апошнім часам у мяне тут зьявіўся аптымізм. Я не чакаў, што старыя нашы літаратары, якія выхоўваліся ў машэраўскай намэнклятуры – Законьнікаў, Вярцінскі, Бураўкін і іншыя – могуць стаць у жорсткую апазыцыю. Але гэта адбылося, і для мяне гэта нечаканасьць. Калі ў 1993 годзе мы стварылі Таварыства вольных літаратараў, мы таксама былі ў жорсткай апазыцыі да Саюза пісьменьнікаў, мы лічылі яго згніваючым калгасам, які абавязкова будзе дагаджаць любой уладзе і будзе пець песьні, якія яму загадаюць. Але насамрэч людзі, чые вершы мы вывучалі, гэта сур'ёзныя людзі, якімі мае ганарыцца наша нацыя. Яны паказалі, што беларуская літаратура – не прыкарытная, як казалі "Тутэйшыя" пра яе. Іншая справа, што гэтыя людзі пазбаўленыя выхаду да свайго народу, адціснутыя ад сродкаў масавай інфармацыі. Іх камэнтароў да палітычных падзеяў ніхто не спытаецца, іх ніхто не запросіць на прамы этэр тэлебачаньня ці радыё. Іх не відаць. Мы зрэдку чуем іх галасы ў апазыцыйных газэтах і на Радыё Свабода".

***"Каго б Вы назвалі новай яркай зьявай у літаратуры апошніх гадоў?"***

"Безумоўна, найбольш яркая зьява – Андрэй Хадановіч. Гэта чалавек, які здолеў стварыць свой уласны паэтычны вобраз творцы – такога пострамантычнага і постмадэрнісцкага адначасова. У ім ёсьць нешта бурлескавае і няма занудства, якое звычайна характэрнае для большасьці старэйшых пісьменьнікаў. Яго палюбіла моладзь. Я сам бачыў, як ён выступаў у Полацкім унівэрсытэце, яго сустракалі на "ўра" і пляскалі ў ладкі. Кожны яго верш знаходзіў у аўдыторыі водгук. Іншая рэч, як мне падаецца, Андрэй Хадановіч пачаў спаўзаць у поп-культуру. Мы нават паспрачаліся зь ім аб гэтым на літаратурнай канфэрэнцыі ў Полацку. Я таксама лічу, што ў беларускай літаратуры ёсьць розныя нішы, і, напрыклад, паэзія Ігара Бабкова – гэта зусім элітарная паэзія, ці паэзія Баярына. Ёсьць таксама паэзія больш разьняволеная, вясёлая, больш бурлескная. Мне яшчэ падабаецца паэзія Віктара Жыбуля. Хоць таксама ён, скажам так, несур'ёзны паэт, але яго дакладнае слова, яго гарадзкі фальклёр – гэта вельмі прафэсійна. Нядаўна рэдактарка газэты "Беларускае слова" з Таронта зьвярнулася да мяне з просьбай дапамагчы знайсьці некалькі акравершаў – яна пісала артыкул пра палітычныя акравершы ў Беларусі. Дык вось адзіны чалавек, які дакладна валодае гэтай тэмай – гэта Віктар Жыбуль".

***"На Вашую думку, хто ў Беларусі стварыў найлепшы вобраз жанчыны ў літаратуры?"***

"Мне адразу ў галаву прыходзіць імя Дранька-Майсюка. Яго вершы да таямнічай А., яго рамантызм і мушкетэрства – бадай што гэта найбольш адметна".

***"Што Вы апошнім часам прачыталі з сусьветнай літаратуры?"***

"Я апошнім часам чытаю беларускую літаратуру. Я сутыкнуўся з тым, што маладыя літаратары, палемізуючы ў інтэрнэце, абсалютна ня ведаюць беларускай літаратуры, маўляў, усё гэта старое і непатрэбнае. Але ўсё трэба ведаць. Перш чым сказаць, ацаніць, трэба ведаць".

***"Што ў Вас выклікае пачуцьцё дыскамфорту ў сучаснай Беларусі, калі такое ёсьць?"***

"У мяне – вельмі шмат. Напрыклад, пэсымізм у грамадзтве. Калі людзі зьяжджаюць у эміграцыю, кажучы, што тут няма чаго рабіць, няма як. Але ж тут усё магчыма рабіць. Магчыма выдаваць часопісы, магчыма пісаць, магчыма сустракацца. Вось днямі была сустрэча з Уладзімерам Арловым у Полацку, было шмат людзей, шмат моладзі, і Арлоў выказваўся, так бы мовіць, не алегорычна. Усё магчыма рабіць. Канечне, складана, але ж у 30-я гады было складаней. І вось гэты пэсымізм у грамадзтве, нібыта, людзі чакалі вельмі хуткага выніку, а вельмі хуткага выніку ня будзе, і трэба плянаваць сваё жыцьцё на 50-100 гадоў".

*******************************************************

*Калі выйшаў зборнік паэзіі „Рунь", то на сустрэчы са мной сабралася ў Кленіках можа дзвесце або дзвесце пяцьдзесят чалавек. Лямпы на сцэнах гаслі з-за няхваткі кіслароду...*

# Я быў і буду беларусам

**Размова з прафесарам Аляксандрам БАРШЧЭЎСКІМ (Алесем БАРСКІМ), вядомым беларускім паэтам, грамадскім дзеячам, шматгадовым загадчыкам Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.**



Фота АЛЯКСЕЯ МАРОЗА

***— 2 лістапада Вы адзначылі юбілей 75-годдзя з дня нараджэння, з якім шчыра Вас віншуем. У сваім жыцці Вы дабіліся поспехаў на літаратурнай ніве. Многа Вы працавалі ў карысць развіцця беларускай культуры. Ваш жыццёвы выбар кружыцца вакол беларускіх спраў.***

— Мае бацькі ніколі моцна не зашчаплялі ўва мне беларускасці, але ніколі ў маёй роднай хаце ў Бандарах не было іншай атмасферы, чым беларуская. Дома ўсе мы размаўлялі толькі па-беларуску і ўсе мае сёстры былі названы тыповымі праваслаўнымі імёнамі — Люба, Марыя, Насця і Надзя. Я быў і буду ўсё жыццё беларусам.

***— Спачатку Вы хацелі заняцца земляробствам.***

— У 1947 годзе пачаў я вучыцца ў Сельскагаспадарчай школе ў Бельску-Падляшскім. Тады мне здавалася, што я павінен пайсці вучыцца ў напрамку сельскай гаспадаркі і пасля займацца апрацоўкай зямлі і жыць як мае продкі. Аднак пасля жыццё склалася інакш і я паступіў на рускую філалогію Лодзінскага ўніверсітэта, якую закончыў у 1955 годзе.

***— Аднак пасля такой адукацыі Вы пачалі навукова займацца беларускай літаратурай, фальклорам, шмат гадоў кіравалі Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.***

— Па-беларуску вучыўся я толькі ў Пачатковай школе ў Рыбаках з 1939 па 1941 год, а пасля год вучыўся ва ўмовах, дзе беларуская мова выкладалася ў вузкіх рамках. У сярэдняй і вышэйшай школах я не вучыўся беларускай мове. Аднак, калі я закончыў вышэйшую адукацыю, адазваліся ўва мне адвечны сум і туга па беларускасці і я рашыўся пісаць доктарскую дысертацыю пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, якую абараніў у 1966 годзе ў Варшаўскім універсітэце. Габілітацыйную дысертацыю пісаў я па беларускім фальклоры і кніжка па гэтай працы выйшла пад загалоўкам „Беларуская абрадавасць і фальклор усходняй Беласточчыны". У прафесарскай кніжцы напісаў я аб беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Апошнім часам штораз больш цікаўлюся беларускай эміграцыйнай літаратурай і выдаў ужо першую частку трохтомнай манаграфіі „Беларуская эміграцыйная пісьмовасць".

***— Амаль усе настаўнікі, якія вучаць беларускай мове ў школах Беласточчыны, гэта былыя студэнты беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і многія з іх былі Вашымі магістрантамі.***

— Настаўнікі беларускай мовы дарагія для мяне людзі, бо іх праца і дзейнасць нялёгкая і не заўсёды ўласціва ацэньваецца ўладамі і нашым насельніцтвам, што таксама спрычыняецца да нашай нацыянальнай драмы. Дзякуючы працы настаўнікаў, іншых асоб і, між іншым, маім ініцыятывам ужо 12 гадоў праводзіцца ў Польшчы Алімпіяда беларускай мовы.

***— Які быў Ваш шлях у паэзію?***

— Пачаў я пісаць у 1956 або 1957 годзе, калі пачуў унутраную патрэбу выяўляць сябе ў паэзіі. Тады я адбываў навуковую стажыроўку ў Мінску і рэгулярна чытаў „Ніву". Першыя вершы я выслаў у рэдакцыю нашага беларускага тыднёвіка падпісаныя псеўданімам Алесь Барскі, бо баяўся кампраметацыі. Псеўданім гэты астаўся па сённяшні дзень, а пасля я пачаў пісаць штораз часцей. У хуткім часе я выдаў першы паэтычны зборнік „Белавежскія матывы", а пасля выходзілі чарговыя зборнікі вершаў. Зараз няма такога энтузіязму да пісання вершаў, але і няма такога масавага зацікаўлення беларускай паэзіяй, якое было ў мінулым. Калі выйшаў зборнік паэзіі „Рунь", то на сустрэчы са мной сабралася ў Кленіках можа дзвесце або дзвесце пяцьдзесят чалавек. Лямпы на сцэнах гаслі з-за няхваткі кіслароду.

***— Ці плануеце выдаць новы зборнік вершаў?***

— Я падрыхтаваў ужо зборнік паэзіі, які мела выдаць мінскае выдавецтва „Мастацкая літаратура". Аднак мая кніжка была забракаваная ўладамі па палітычных прычынах. Яшчэ не шукаў я для зборніка выдаўца ў Польшчы, але пастараюся гэта зрабіць.

***— Што адметнага ў Вашай новай паэзіі?***

— Закранаю я ў вершах гэтага зборніка тэму сэнсу жыцця, матывы кахання і пашаны чалавека ў адносінах да іншага чалавека. Вяртаюся таксама да роднай прыроды.

***— Ці вяртанне да роднага адбываецца таксама ў рэальнасці?***

*— Зараз я мадэрнізую бацькоўскую хату ў Бандарах, якая знаходзіцца ў невялікай адлегласці ад ракі Нарвы. Дабудаваў я ў гэтым доме другі паверх і там ёсць акно з відам на раку. Я мару, каб у апошнія дні майго жыцця мог я сядзець пры гэтым акне і глядзець на нарвянскую даліну. Паэзія, якая зараз узнікае, сядзіць сваімі каранямі ў роднай зямлі, лузе і дрэвах, пасаджаных маім дзедам, бацькам і мною.*

## *Беластоцкі край*

*Мой Беластоцкі край — мая Айчына!*
*З табою звязаны мой лёс і доля.*
*Люблю лясы твае, люблю даліны,*
*Кахаю шчыра бацькаўскае поле.*

*Калышашся ў напевах песні роднай,*
*І мыеш твар у промнях залацістых,*
*І толькі тут я поўнасцю свабодны,*
*І толькі тут душой заўсёды чысты.*

*Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,*
*Саколка ціхая, зялёная Дуброва,*
*Любой да вас — мая адвечная павіннасць*
*І вернасць матчынай спрадвечнай мове.*

*Шасціць калоссе ў палях шырокіх,*
*Бурліць крыніца песняю адвечнай,*
*Звініць нядзельны звон з царквы далёкай,*
*На роднай Беласточчыне я вечны.*

*Зямля мая, мой беларускі краю,*
*Над Нарваю, над Бугам задуменным*
*Я вольны тут, душой адпачываю,*
*Мой краю вечны, краю незаменны.*

Алесь Барскі



***— Зараз на Беласточчыне маланкава ідзе працэс паланізацыі маладога пакалення і мінулі часы, калі маладыя людзі з вёсак масава прыходзілі на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі.***

— Цяжка будзе захаваць беларускую нацыянальную свядомасць на Беласточчыне, бо за плячыма не адчуваем подыху беларускай нацыянальнай, суверэннай дзяржавы. На Беласточчыне маем мы дачыненне з павольным адміраннем беларускасці. Аднак, думаю, іскры беларускасці захаваліся яшчэ ў глыбі душы нашага грамадства. Беларускія арганізацыі і школы, у якіх навучаецца беларуская мова, служаць ідэі захавання нацыянальнай свядомасці беларусаў. Само існаванне праваслаўя на Беласточчыне садзейнічае захаванню нацыянальнай свядомасці беларусаў. Кожны чалавек, які гэтай ідэі служыць, гэта мой родны брат, або родная сястра.

***— Вы сказалі пра адмоўныя працэсы ў Беларусі.***

— Тое, што адбываецца ў Беларусі, гэта мая асабістая драма. Калі мы карыстаемся беларускай мовай у Беларусі, часта нас абражаюць. Замест падтрымкі з боку сваёй бацькаўшчыны маем аплёўванне беларускасці. Зараз Беларусь з'яўляецца краінай ізаляванай у свеце. Аднак я наіўна веру і буду верыць, што ў канцы будзе беларуская нацыянальная дзяржава з пачуццём беларускай нацыянальнай годнасці і тоеснасці. Да канца свайго жыцця буду працаваць дзеля здзяйснення гэтай ідэі.

***— Вы многа часу дзейнічалі ў БГКТ і былі яго старшынёй. Як Вы зараз успамінаеце перыяд грамадскай дзейнасці на Беласточчыне і ў Варшаве?***

— Гэты час успамінаю з рамантызмам. Галоўнымі стваральнікамі БГКТ былі Станкевіч і Туронак, якім я аддаю вялікую пашану. Я ўступіў у Таварыства і атрымаў членскі білет з нумарам трэцім або чацвёртым. Быў я старшынёй Варшаўскага аддзела БГКТ і на працягу двух тэрмінаў быў старшынёй усёй арганізацыі. Пасля я заўважыў, што ў праўленні БГКТ ёсць людзі, якія з культам адносяцца да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, хаця было вядома, што ён вядзе антынацыянальную палітыку. Я пачаў акцэнтаваць сваю непрыхільнасць да дзейнасці прэзідэнта Беларусі і тады ўзнік моцны канфлікт паміж мною і іншымі дзеячамі БГКТ. На апошні з'езд я ўжо не паехаў, але даслаў ліст з маім поглядам на дзейнасць БГКТ, які быў апублікаваны на старонках „Нівы". Хаця я адышоў з Таварыства, то яшчэ афіцыйна належу да яго. Я за тым, каб дзейнічалі розныя беларускія арганізацыі ў Польшчы, якія павінны размаўляць з сабой.

***— Калі б можна было выбіраць жыццёвую дарогу нанова?***

— Калі сёння гляджу на сваё мінулае жыццё, па сутнасці нічога не шкадую. Калі б сёння пачынаў жыццё нанова, пайшоў бы па гэтым самым нялёгкім шляху.

***— Дзякую за размову і жадаю поспехаў у далейшым жыцці.***

Гутарыў Аляксей Мароз

# Рэйтынг Мілінкевіча: прагноз Алега Манаева

Дырэктар Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (Вільня) прафэсар Алег Манаеў адказаў на пытаньні карэспандэнта «НН»: «Дынаміка рэйтынгу залежыць ад здольнасьці Мілінкевіча спадабацца беспартыйным».

Пяць чыньнікаў перамогі

«НН»: Якая можа быць дынаміка рэйтынгу адзінага кандыдата ад апазыцыі?

Алег Манаеў: Дынаміка рэйтынгу кандыдата залежыць ад пяці фактараў. Першае — высілкі, якія прыкладае сам кандыдат. Другое — намаганьні, якія робяць яго каманда й саюзьнікі. Трэцяе — праца канкурэнтаў па апазыцыйным лягеры. Чацьвёртае — вонкавыя чыньнікі — Усход і Захад. Пяты, нарэшце, чыньнік — контравысілкі, якія прадпрымаюць улады. І любы чыньнік можа вырашыць яго лёс.

Самае важнае — вядомасьць і інфармаванасьць беларускага электарату. Наўрад ці да сярэдзіны красавіка — афіцыйнага старту прэзыдэнцкай кампаніі — сытуацыя ў гэтым кірунку зьменіцца. Пашырэньне станоўчага стаўленьня залежыць ад магчымасьці данесьці інфармацыю да людзей, асабістых сустрэч. Але прыгадаем практыку мінулых выбараў, калі ўлады рабілі розныя захады, каб сарваць сустрэчы апазыцыйных кандыдатаў з выбарцамі. Спадабацца Расеі

«НН»: Наколькі важна ў выбарах стаўленьне Расеі й Захаду?

АМ: Захад і Эўропа ўжо вызначыліся з адзіным кандыдатам. А вось чыньнік Расеі для Мілінкевіча будзе цяжкім. Мілінкевіч неаднаразова заяўляў у сваіх прамовах пра гатоўнасьць улічваць геапалітычныя інтарэсы Масквы. Але словы словамі, а ёсьць вобраз.

Чатыры гады таму Домаш таксама шмат езьдзіў у Маскву. Але ніводная зь ягоных дамоўленасьцяў не спрацавала, не была выканана Расеяй. Домашу не паверылі.

«НН»: З таго часу нешта зьмянілася?

АМ: Я спадзяюся, што Мілінкевічу ўдасца дасягнуць посьпехаў на ўсходнім накірунку, бо сам Алесь — чалавек вельмі разумны, і сілы, зь ім зьвязаныя, таксама разумныя. Выконваць абяцаньні

«НН»: А што чакаць ад саюзьнікаў і канкурэнтаў?

АМ: Важна, што сп.Мілінкевіч заручыўся падтрымкай асноўных супернікаў па дэмакратычным лягеры. Кансалідацыя ёсьць. Ці будзе надалей нарошчвацца гэты патэнцыял, залежыць ад дзьвюх рэчаў. Першая — яго асабістыя здольнасьці: палітычныя й псыхалягічныя. Гаварыць зь людзьмі, выконваць свае абяцаньні, дабівацца, каб тыя, хто даваў абяцаньні яму, таксама іх выконвалі — Мілінкевіч можа гэта рабіць. Другі нюанс — ці здольны ён будзе пашырыць і зрабіць больш гнуткім свой палітычны імідж? Ягоны палітычны партрэт моцна афарбаваны ў нацыянальна-дэмакратычныя тоны. Важна, каб ён гэты вобраз пашырыў — каб уключыў у сябе элемэнты профілю сацыял-дэмакрата, лібэрала, наагул беспартыйных людзей, якія прагнуць зьмен, але ні зь якімі структурамі ня зьвязаны.

«НН»: Наколькі ўдасца гэта зрабіць?

АМ: Усё залежыць таксама і ад дзеяньняў партыйных і непартыйных структур, якія яго падтрымліваюць. Некаторыя («прагматыкі») лічаць, што перамагчы ў 2006 г. ня ўдасца, і таму трэба працаваць на раскрутку сваёй ідэалёгіі, структур, людзей, то бок рабіць працу на будучыню. Маўляў, пасьля 2006 г. жыцьцё ня скончыцца. Таму гэтыя сілы зусім не зацікаўленыя ў тым, каб іх кандыдат неяк пашыраў, паглыбляў вобраз. Наадварот, яны зацікаўленыя ў як мага больш вузкім пазыцыянаваньні сваіх каштоўнасьцяў і мэтаў, каб аддзяліць сябе ад усіх іншых.

Другі варыянт — каманда. Тут пакуль усё нармальна. Каманда ёсьць, і яна гатова дзейнічаць. Але тут важна, каб ня толькі фігуры, але й структуры далучаліся да агульнага працэсу. Калі выбаршчык, які чакае перамен (а такіх 45%, што супастаўна з тымі адсоткамі, якія гатовы галасаваць за прэзыдэнта), убачыць перад сабой разьдзяленьне твараў, гэта ня будзе спрыяць павышэньню рэйтынгу нікога зь іх. З боку ўлады, хутчэй за ўсё, будзе ісьці татальная дыскрэдытацыя любога адзінага і неадзінага. Гэта будзе мець істотнае значэньне для рэйтынгу, бо тыя шляхі, каб дайсьці да выбаршчыкаў, несупастаўныя зь велізарнай інфармацыйна-прапагандысцкай машынай уладаў, у якую ўключаны ня толькі дзяржаўныя СМІ, але й інфармацыйна-ідэалягічная сыстэма ў школах і на прадпрыемствах. Шанец «іншага»

«НН»: Калі і пры якіх умовах ён можа дасягнуць 10%, 20%, зраўнавацца з рэйтынгам Лукашэнкі?

АМ: Згодна з апытаньнем апошняга нашага дасьледаваньня: «Як вы думаеце, А.Лукашэнка настолькі добра спраўляўся з абавязкамі прэзыдэнта, каб ізноў быць выбраным на гэтую пасаду, ці вы лічыце, што прыйшла пара даць шанец каму-небудзь іншаму выконваць гэтыя абавязкі?», зафіксаваныя наступныя лічбы: ізноў выбраць — 44,3%, даць шанец іншаму — 44,8%. Лічбы прыкладна аднолькавыя. Вось і зьяўляецца нейкая «столь» для кандыдата — 45%.

Амаль палова электарату ў прынцыпе хацела б і магла б даць шанец новаму чалавеку. На пытаньне «Калі Лукашэнка будзе зноў вылучаць сваю кандыдатуру на выбарах і яго супернікам будзе прадстаўнік дэмапазыцыі, за каго вы аддасьцё голас?» прагаласуюць за Лукашэнку 47,5% (што супадае зь яго рэйтынгам), за прадстаўніка дэмакратычнай апазыцыі — 25,5%. І пакуль гэтая лічба (25,5%) на 20% меншая, чым проста «даць шанц новаму». Бо 44,8% — гэта наагул пра кагосьці новага — і з атачэньня самога прэзыдэнта, і з апазыцыі.

На аснове ўсяго гэтага магу выказаць меркаваньне, што за гэтыя паўгоду да прэзыдэнцкай кампаніі Мілінкевічаў рэйтынг у любым выпадку павысіцца — і рэйтынг пазнавальнасьці, і рэйтынг стаўленьня, то бок гатоўнасьці за яго галасаваць.

«НН»: Павысіцца да якога ўзроўню?

АМ: Да 16 красавіка, моманту абвяшчэньня прэзыдэнцкай кампаніі, ён будзе 17—18%, магчыма 20%, максымум 25%. Бо рэйтынг любога кандыдата ад дэмакратычнай апазыцыі — гэта ня болей за 25%. Наступную вышыню — выйсьці на ўзровень паміж 25% і 45% — можна ўзяць толькі тады, калі ўдасца асабіста яму і яго паплечнікам пазыцыянаваць гэтага кандыдата не як кандыдата ад дэмакратычнай апазыцыі, а больш шырока, як альтэрнатыву. Глядзець праз акуляры электарату

«НН»: Што дзеля гэтага трэба?

АМ: Яго людзі, што прыйдуць у кватэры да простых людзей, павінны пазыцыянаваць сябе куды шырэй, чым як прадстаўнікі ад дэмакратычнай апазыцыі. Чалавек, які прыйшоў у кватэру, не павінен пазыцыянаваць сябе як сябра партыі, недзяржаўнай арганізацыі, а казаць: «Я — настаўнік», «Я — бізнэсмэн», «Я — студэнт», «Я — пэнсіянэр»…

«НН»: Ці ўдасца яму знайсьці такіх людзей і рэкрутаваць іх у свае шырокія групы?

АМ: Я не выключаю такой магчымасьці, але ў цяперашні момант яе ня бачу. З разьвіцьцём прэзыдэнцкай кампаніі шанцы на павелічэньне рэйтынгу ўзрастаюць. І з 16 красавіка да 16 ліпеня рэйтынг можа быць ужо паміж 25% і 45%. Я сказаў «можа», бо аналітыкі невысока ацэньваюць узровень паліттэхналягічнасьці дэмакратычных сілаў Беларусі. Ці ўдасца Мілінкевічу й яго камандзе гэты рэсурс павялічыць? Ня ведаю. Але бяз гэтага рашыць тую задачу, пра якую мы з вамі гаворым, вельмі складана.

********************************************

# З роднай мовай у душы і на вуснах мы —непераможныя!

Усёй душой падтрымліваю пазіцыю слыннага сына Беларусі народнага паэта Ніла Гілевіча, які, як мала хто з сучасных інтэлігентаў, бароніць родную мову ад згубы. У сваім артыкуле "За што змагаемся?" ён у каторы ўжо раз пераканаўча даводзіць, што ўратаваць беларускі народ ад вымірання можа перш за ўсё ягоная мова — голас яго душы. Таму ўсе сілы, усе намаганні, увесь розум і здольнасці нам трэба скіраваць на вяртанне тытульнай нацыі дзяржавы адпаведнага, годнага становішча беларускага слова ва ўсіх сферах жыцця.

Нездарма выдатны беларускі паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч звяртаўся да землякоў з наказам: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!". Але ў выніку трохсотгадовага нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту беларусаў расійскім царызмам, а потым савецкай камуністычнай сістэмай з іх шавіністычна-імперскай палітыкай русіфікацыі мы былі пазбаўлены — разам са сваім родным словам — уласнай дзяржаўнасці і годнасці, гістарычнай памяці і культуры. У той час мы нават і не чулі, што ў беларускай сярэдневяковай дзяржаве Вялікае княства Літоўскае (заснавана ў XIV стагоддзі) дзяржаўнай мовай была беларуская! Ёю карысталася насельніцтва, на ёй пісаліся афіцыйныя акты і летапісы, вяліся дыпламатычныя справы. І напрыканцы XVIII стагоддзя, калі Беларусь была далучана да Расіі, наша шляхта доўгі час не ўспрымала суцэльнае насаджэнне ўсяго рускага. Галоўным жа захавальнікам і носьбітам роднага слова быў просты люд. Гэтае слова было ў яго душы і на вуснах і таму жыло, нягледзячы ні на якія ўціск. Нават калі на пачатку XX стагоддзя большая частка шляхты ўсё-такі аказалася зрусіфікаванай, сяляне, рамеснікі не здрадзілі роднай мове, звычаям, традыцыям і культуры сваіх продкаў.

Працэс адраджэння беларускай нацыі нельга было спыніць! Многія паэты і пісьменнікі сталі пісаць свае творы па-беларуску, нават калі раней карысталіся іншымі мовамі, імкнуліся развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову свайго народа. Па гэтым шляху пайшоў з агнявістай сваёй паходняй наш неўміручы геній Купала, з ім і за ім — яго выдатныя паплечнікі і прадаўжальнікі.

Пасля аднаўлення беларускай дзяржаўнасці 25 сакавіка 1918 года — з абвяшчэннем Беларускай Народнай Рэспублікі, а затым і ў першыя гады пасля ўтварэння БССР наша мова на кароткі час зноў вярнулася ў сваю хату! Аднак ужо з канца 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага веку пайшоў жорсткі пераслед нацыянальнай інтэлігенцыі, носьбітаў і прыхільнікаў беларускай мовы і культуры. Многія з іх былі знішчаны ў шматлікіх Курапатах, кінуты ў ГУЛАГ, абылганы, апляваны. І толькі ў наш час вяртаюцца з небыцця іх светлыя, высакародныя постаці (што зусім не да густу сённяшнім дзяржаўным уладарам). Кіруючы ўжо суверэннай беларускай дзяржавай, у новых гістарычных варунках нашы высокія чыноўнікі ўпарта, мэтанакіравана і апантана працягваюць сапраўдную вайну на знішчэнне ўсяго беларускага, дамагаюцца, каб яно знікла назаўсёды. Дамарослыя манкурты, забыўшыся, з якога яны роду-племені, робяць чорную справу супраць сваёй Бацькаўшчыны. А гэта значыць, што мы, нармальныя беларускія грамадзяне, не маем права марудзіць з адраджэннем беларускай духоўнасці і самасвядомасці.

Зразумела, на гэтае зараз здольныя далёка не ўсе, многія, нават шануючы сваю мову, нярэдка не адважваюцца на ёй размаўляць. Дарэмна! Гэта так важна, каб кожны пранікся разуменнем менавіта ад яго: пазіцыі, адданасці Беларусі залежыць добры ўплыў на блізкіх, родных, сяброў, знаёмых, на стварэнне атмасферы любасці да ўсяго роднага (пры гэтым павага і цікавасць да моў і культур іншых народаў ні ў якім разе не выключаюцца).

Дапаможам пераадолець гэтую нясмеласць і зрабіць рашучы крок да роднай мовы хоць аднаму чалавеку — гэта ўжо будзе вялікай справай! Бо ўсё вялікае пачынаецца з малога, з адной кропелькі. Без любові да маці-Беларусі не будзе яе незалежнасці, годнай, вольнай будучыні. Яна залежыць ад кожнага з нас. Без усведамлення гэтай простай ісціны перамагчы наш сённяшні страх, няўпэўненасць у свае сілы, жаданне самім ствараць сваё жыццё на сваёй зямлі — няма надзеі.

А мы павінны перамагчы, калі хочам захаваць свой старажытны род і ўдзячную памяць нашчадкаў. Павінны, нягледзячы на ўціск і пагрозы, стаяць за праўду і справядлівасць, пазбаўляцца здрадніцкай боязі. Павінны верыць у свае сілы, адчуваць маральную перавагу над тымі, хто лічыць сістэму нацыянальнай зняваги вечнай і непарушнай. Мы павінны не здавацца, як гэта робіць наша любімая, мужная і па-сапраўднаму чэсная "Народная воля", са старонак якой набатам гучаць галасы лепшых людзей сучаснай Беларусі. Сярод іх — і шматпаважаны Паэт і Грамадзянін Ніл Сымонавіч Гілевіч, многія іншыя патрыёты Бацькаўшчыны — выдатныя працаўнікі, таленавітыя творцы, простыя людзі самых розных узростаў і схільнасцяў.

Мне вельмі дорага, што на нядаўнім Кангрэсе дэмакратычных сіл была прынята адмысловая рэзалюцыя па беларускай мове. Што абраны на Кангрэсе адзіны прадстаўнік ад дэмсіл для ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі-2006 Аляксандр Мілінкевіч з глыбокай павагай ставіцца да ўсяго беларускага і сам цудоўна гаворыць па-беларуску.

З любоўю да Беларусі, да роднай мовы мы дойдзем да шчаслівай будучыні!

Алесь ЗАРАНОК, /Н.В./

# З'езд ТБМ адбыўся

Забарона з боку кіраўніцтва справамі прэзідэнта на арэнду Дома літаратараў дзеля правядзення з'езду Таварыства беларускай мовы ўсё ж не перашкодзіла ТБМ для справаздачна-выбарчага сходу. 29 кастрычніка з'езд адбыўся, хаця ягоныя арганізатары да апошняга трымалі ў сакрэце месца ягонага правядзення. Праводзіць сход давялося ў даволі цеснай сядзібе Партыі БНФ, асабліва калі ўлічыць, што ў працы з'езду прымалі ўдзел 128 дэлегатаў са 153 абраных.

Старшыня Таварыства Алег Трусаў, адкрываючы з'езд, сказаў, што забарона на памяшканне ёсць прызнанне моцы беларушчыны і ейнага ўплыву на грамадства.

– На першага кастрычніка ў шэрагах ТБМ афіцыйна зарэгістравана 7 тысяч жыхароў Беларусі і каля трохсот замежных грамадзян. У краіне дзейнічае 109 рэгіянальных арганізацыяў, 60 з якіх стаяць на дзяржаўным уліку у мясцовых органах улады. Суполкі ТБМ існуюць у Літве, Латвіі, Расеі, Украіне, Польшчы, Нямеччыне, ЗША, Англіі, Канадзе і іншых краінах свету, – падкрэсліў у справаздачным дакладзе старшыня ТБМ.

– Мы змаглі ў складаны для нашай мовы час застацца дзеяздольнымі, не патануць у галашэнні па тых беларусах, якія ніяк не выбіраюць родную мову ў жыцці. У таварыстве запанавала новае пазітыўнае мысленне, і мы цяпер можам шклянку бачыць больш напалову поўнай, чым напалову пустой. Гэта вельмі важная тэхналогія для нашай свядомасці, – зазначыла ў сваім выступе намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч.

З'езд прыняў рэзалюцыю аб сучасным стане і перспектывах развіцця беларускай мовы, а таксама некалькі зваротаў – да ўдзельнікаў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2006 года, аб становішчы беларускай мовы ў тэлевізійным вяшчанні, аб адкрыцці Нацыянальнага ўнівэрсітэта і аб адносінах камісіі Еўразвяза да мовы трансляцыі на Беларусь.

Як і чакалася, чарговы раз старшынём Таварыства абраны Алег Трусаў, які кіруе ТБМ з 1999 года.

– Праца будзе ўлічваць спецыфіку наступнага года: гэта выбары прэзідэнта, і мы сёння прынялі адпаведны зварот. Некаторыя кандыдаты ў прэзідэнты – сябры ТБМ, і мы будзем браць актыўны ўдзел у незалежным назіранні. Таксама будзем працаваць актыўна з уладамі, са спадарыняй Ярмошынай. Дарэчы, мы з ёй працуем вельмі плённа, і я думаю, што на гэты раз усе бюлетэні для выбараў будуць па-беларуску, – так лаканічна Алег Трусаў абазначыў планы Таварыства на бліжэйшы перыяд.

****************************************

# Ці стане Масква шукаць «іншую жонку Леніна»?

Асобныя палітыкі ды эксперты лічаць, што апазіцыя памылілася, абраўшы адзіным прэтэндэнтам занадта "нацыяналістычную" ды "празаходнюю" асобу. Маўляў, на такога Крэмль і не падумае рабіць стаўку. А вось каб была фігура лагоднейшая да Масквы...

Апаненты рашуча пярэчаць. Можна, кажуць яны, спрачацца наконт персаналій, але несумненна, што для расійскай кіроўнай эліты любы вылучэнец аб'яднанай апазіцыі — гэта апрыёры крэатура Захаду. І наіўна меркаваць, што Крэмль ухапіўся б за іншага лідэра, абранага дэмакратамі на ролю "беларускага Каштуніцы" (ці, калі хочаце, "беларускага Ючанкі").

Крамлю не патрэбныя рэвалюцыі ніякага колеру на тым абсягу, які ў Расіі лічаць зонай сваіх законных інтарэсаў. А Беларусь для тамтэйшых стратэгаў (якія яшчэ і добра зрасліся з буйным бізнесам) — найважнейшы плацдарм.

Між тым еўрапейскія інстытуцыі раз-пораз апелююць да расійскага кіраўніцтва з заклікам паспрыяць дэмакратызацыі Беларусі, дзе, паводле іх пераканання, пануе апошняя на кантыненце дыктатура. Адпаведны заклік, напрыклад, з рэзалюцыі ў рэзалюцыю фактычна капіруе Еўрапарламент.

Падчас нядаўняй вандроўкі ў Брусель аўтар гэтых радкоў раз-пораз задаваў еўрапейскім палітыкам пытанне пра тое, як яны ацэньваюць ролю Масквы ў беларускім пытанні. Ці сапраўды вераць у дэмакратычны ўплыў на нашу сітуацыю з боку Крамля?

У кулуарах Еўрапарламента адбыўся дыялог са старшынёй Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Рэнэ ван дэр Ліндэнам.

"На мой погляд, у Расіі важная роля ў тым, каб адчыніць беларусам Еўропу, бо з боку Расіі ўплыў на вашу краіну мацнейшы", — зазначыў суразмоўца.

Я спытаўся: ці верыце вы, што Крэмль здольны спрыяць дэмакратызацыі Беларусі, калі шмат хто кажа пра збліжэнне рэжымаў Пуціна і Лукашэнкі?

Высветлілася, што старшыня ПАСЕ не зусім згодны. Так, сказаў ён, у Масквы ёсць праблемы са свабодай СМІ, правамі чалавека і гэтак далей. Але з іншага боку, нагадаў спадар ван дэр Ліндэн, калі ў чэрвені Рада Еўропы абмяркоўвала даклад пра выкананне Масквой сваіх абавязкаў перад гэтай інстытуцыяй, дык жа сябры расійскай дэлегацыі канструктыўна ўспрынялі шмат якія крытычныя заўвагі! Таму, маўляў, у сэнсе дэмакратыі гэтыя хлопцы не безнадзейныя.

Суразмоўца спяшаўся, і я не паспеў згадаць пра пэўныя пікантныя рэчы. Тады, у чэрвені, прыляцеўшы са Страсбурга ў Маскву, кіраўнік расійскай дэлегацыі, старшыня думскага камітэта ў міжнародных справах Канстанцін Касачоў паспяшаўся заявіць, што... Расіі варта скараціць свой унёсак ў бюджэт ПАСЕ...

Асабліва ж абураўся думскі дзеяч з тае нагоды, што ПАСЕ параіла Маскве будаваць дачыненні з Мінскам залежна ад хады дэмакратычных рэформ у Беларусі. Гэты пасаж спадара Касачова варты цытавання: "Мы лічым рэкамендацыю Расіі, як будаваць свае стасункі з трэцяй краінай, што не ёсць сябрам Рады Еўропы і не звязаная з ёй аніякімі абавязкамі, абсалютна недарэчнай. Гэтая рэкамендацыя ёсць каласальная палітычная памылка ПАСЕ".

Заўважце, тая акалічнасць, што Беларусь з-за ўціску правоў чалавека засталася адзінай на кантыненце дзяржавай па-за межамі Рады Еўропы, падаецца, можна сказаць, як вялікая вартасць!

Мо, у Страсбургу ды Брусэлі не чыталі справаздач пра тую прэсавую канферэнцыю, на якой Касачоў прамаўляў ужо без дыпламатычных эківокаў? Мо, у заходніх сталіцах не чулі заяў расійскага МЗС, які раз-пораз выступае адвакатам афіцыйнага Мінска?

Ва ўсялякім разе, у рэзалюцыях Еўрапарламента працягвае гучаць той самы рэфрэн — "падняць пытанне Беларусі на перамовах з расійскімі ўладамі".

Што прапіша Беларусі доктар Ватсан?

"Ёсць дзве мадэлі змены рэжыму — умоўна кажучы, амерыканская і еўрапейская. Я, натуральна, прыхільнік еўрапейскай мадэлі". Так заявіў, адказваючы на маё пытанне, брытанец Грэхэм Уотсан (у англійскай транскрыпцыі, дарэчы, поўны цёзка па прозвішчы славутага доктара Ватсана). Ён кіруе трэцяй паводле значнасці ў Еўрапарламенце фракцыяй "Альянс лібералаў і дэмакратаў дзеля Еўропы". Пытанне ж палягала у тым, ці мае Брусель нейкія рэальныя рычагі ўздзеяння на беларускую сітуацыю.

"Мы не збіраемся пасылаць войскі, каб змяніць рэжым у Беларусі", — усміхнуўся Уотсан. Ён зазначыў, што ЕС можа ўздзейнічаць пры дапамозе трох інструментаў. Гэта — эканамічны ўплыў, дыпламатыя і падтрымка дэмакратычных сіл у краіне.

Трэба адзначыць, што прадстаўнікі "Альянсу лібералаў і дэмакратаў дзеля Еўропы" выступаюць за болей актыўны падыход інстытуцый Старога Свету да пытання дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі. У прыватнасці, сябры фракцыі прасоўваюць праект незалежнага радыёвяшчання з-за мяжы.

І нашыя рэаліі яны вывучаюць не толькі з Брусэля ды Страсбурга. Так, сёлета напачатку ліпеня Уотсан і віцэ-спікер Еўрапарламента паляк Януш Анышкевіч (дарэчы, таксама сябар гэтай фракцыі) наведалі Мінск, каб лепей вывучыць сітуацыю ды ўсталяваць кантакты з тутэйшымі палітыкамі. У прыватнасці, еўрадэпутаты сустракаліся з будучым адзіным прэтэндэнтам Аляксандрам Мілінкевічам.

"У маім разуменні Беларусь з'яўляецца часткай Еўропы", — паліткарэктна падкрэсліў Уотсан. Разам з тым ён згодны, што далёка не ўсе ў Еўрасаюзе гэта адчуваюць: "Большыня людзей у нашых краінах заклапочаныя ўласнымі праблемамі".

Суразмоўца прызнаў, што заявы Еўрапейскага парламента маюць пераважна дэкларацыйны характар. І дадаў: "Мы ў Еўрапарламенце спрабуем неяк націскаць на іншыя інстытуты Еўрасаюза".

Грэхэм Уотсан зазначыў, што ў Радзе ЕС ўзмацняецца ўвага да выпрацоўкі агульнай замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі. Кіраўнік уплывовай фракцыі спадзяецца, што неўзабаве можна будзе убачыць плён болей скаардынаванай і моцнай палітыкі Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі.

Паляк Януш Анышкевіч, асоба на дзіва каларытная (прафесар матэматыкі, альпініст і былы палітвязень), выказаўся болей экспрэсіўна: "Бюракратычная машына Еўракамісіі вельмі павольная, інертная, але мы яе пакрысе разварушым".

Філасофія Лаўрова.

Між тым Масква сапраўды цісне на беларускі рэжым. Але, як адзначаюць незалежныя эксперты, цісне зусім не таму, што да гэтага заклікае Захад. І зусім не дзеля таго, каб змусіць да дэмакратычных зрухаў. Яна цісне, каб улагодзіць уласныя геапалітычныя ды эканамічныя амбіцыі.

Цяпер, у прыватнасці, Крэмль фарсіруе падрыхтоўку канстытуцыйнага акта так званай саюзнай дзяржавы. Але ўжо зразумела, што ніякага інтэграцыйнага прарыву не будзе, зазначаюць аналітыкі. Мінск усяляк адкараскваецца ад адзінай валюты і выказваецца за тое, каб саюзнай дзяржавай па-ранейшаму кіраваў Дзяржсавет. Інакш кажучы, не хоча ўводзіць пасаду саюзнага прэзідэнта (што магло б стаць адным з варыянтам рашэння "праблемы-2008" для Пуціна, але пагражае абмежаваннем паўнамоцтваў ягонаму беларускаму калегу).

"У беларускага афіцыйнага лідэра пакуль што няма падстаў саступаць ціску Масквы, — сказаў у інтэрв'ю для "Народнай волі" мінскі палітолаг Андрэй Фёдараў. — Так што канстытуцыйны акт найхутчэй будзе перапевам, рымейкам дамовы аб стварэнні саюзнай дзяржавы ад 1999 года".

Тым часам кіраўнік расійскай дыпламатыі Сяргей Лаўроў зрабіў рэзанансавую заяву пра тое, што ягоная краіна хоча "ўсталяваць сусветныя кошты на энерганосьбіты з усімі сваімі партнёрамі".

На думку незалежнага эканаміста Яраслава Раманчука, "гэта быў бы наймагутнейшы ўдар пад дыхаўку беларускай эканомікі". У такім разе ўрон можа дасягнуць паўмільярда долараў. Разам з тым, лічыць Раманчук, Масква найхутчэй блефуе, дамагаючыся ад Аляксандра Лукашэнкі саступак напярэдадні ліста-падаўскага саміта.

Паказальна, што той самы Лаўроў нядаўна ў Парыжы зноў заступіўся за афіцыйны Мінск, філасафічна зазначыўшы наконт прэтэнзій Захаду да беларускіх улад, што ўсё пазнаецца праз параўнанне.

Пэўна ж, калі зірнуць на цэнтральнаазіяцкія рэаліі, дык нашы і сапраўды яшчэ не самыя жахлівыя. Напрыклад, паводле ступені свабоды прэсы "Рэпарцёры без межаў" паставілі Туркменістан на 165-е месца з 167. А вось наша сінявокая заняла пачэснае 152-е!

Расійскі МЗС рэгулярна дае адлуп спробам Захаду экспартаваць дэмакратыю на пастсавецкі абсяг. А Еўропа ў дыялогу з Крамлём усё ніяк не наважыцца зняць ружовыя акуляры. Магчыма, ёй так проста зручней, лічыць шэраг палітолагаў. Нашто сварыцца з вялікай еўразійскай краінай, што спраўна пампуе ў Стары Свет газ ды нафту? Тым болей — сварыцца з-за лапіка зямлі пад назвай Беларусь...

Рыгор Яўлінскі, лідэр расійскай партыі "Яблоко" (ён акурат прыязджаў у Брусель, каб расчыніць еўрадэпутатам вочы на антыдэмакратычны дрэйф Крамля), адказаў мне так: Еўропа "проста не ведае, што рабіць" у беларускім пытанні.

Што то ж да расійскіх кіраўнікоў, то яны, на думку Яўлінскага, найперш "хочуць трымаць Беларусь пры сабе". З цяперашнім афіцыйным лідэрам ці з якім іншым — гэта ўжо справа другая.

Як мяркуе лідэр "Яблока", лёс Беларусі шмат у чым залежыць ад таго, што будзе з Расіяй.

Цікава, што падобную думку, толькі ў болей рэзкай ды метафарычнай форме, выказаў нядаўна ветэран змагання супраць расійскага імперыялізму Зянон Пазьняк. Ён параўнаў рэжымы ў Маскве і Мінску з парай нецвярозых, што крочаць у абдымку.

Віцэ-спікер Еўрапарламента Януш Анышкевіч, адказваючы на маё пытанне, адзначыў, што рэжымы Пуціна і Лукашэнкі сапраўды збліжаюцца. На думку палітыка, Крэмль падтрымлівае цяперашнюю ўладу ў Мінску таму, што пасля сваёй паразы ва Украіне "не можа дазволіць сабе падобны сцэнарый у Беларусі".

Разам з тым, дадаў Анышкевіч, "у пэўнай сітуацыі Маскве можа стаць нявыгадна, каб у яе былі такі ізаляваны ад усяго свету партнёр", і тады магчымая стаўка на іншага лідэра.

У звязку з гэтым суразмоўца згадаў вядомы сюжэт — ці то легенду, ці то быль — пра тое, як аднойчы Сталін, раззлаваўшыся за нешта на Крупскую, прыгразіў, што "мы можам знайсці і іншую жонку Леніна".

На думку віцэ-спікера, дзеля таго каб у Беларусі абышлося "без румынскага варыянта", варта дамагацца змены менталітэту прадстаўнікоў уладнага апарату. "У Польшчы гэта ўдалося, і замест рэвалюцыі адбыўся "круглы стол", — падкрэсліў Анышкевіч, адзін з заснавальнікаў легендарнай "Салідарнасці".

Ён меў на ўвазе наладжаныя прыканцы 1980-х гадоў перамовы паміж урадам Ярузельскага і апазіцыяй, што паклалі пачатак дэмакратычнай трансфармацыі ў Польшчы.

Але такога дыялогу трэба было дамагчыся. Бо раней было ўведзенае тым самым генералам Ярузельскім ваеннае становішча, былі масавыя рэпрэсіі супраць апазіцыянераў.

Януш Анышкевіч згадаў красамоўны выпадак з уласнай біяграфіі палітычнага вязня. Калі яго закавалі ў кайданкі, афіцэр службы бяспекі сам-насам прызнаўся: маўляў, мы, службоўцы, часта абмяркоўваем між сабой: а што ж вы з намі зробіце, як прыйдзеце да ўлады? ?

Служкі камуністычнага рэжыму ў Польшчы тады ўжо адчувалі ягоную хісткасць.

На думку Анышкевіча, у Беларусі барацьбітам за грамадскія перамены варта паказаць сваю моц ды з'яднанасць. І тады людзі з дзяржаўнага апарату таксама мусяць адчуць, што цяперашняя ўлада — не вечная.

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, адмыслова для "Народнай волі".

*******************************************

# Моладзь БНФ пачынае кампанію прапаганды нацыянальнай сімволікі сярод моладзі

Чарговае паседжанне аргкамітэту Моладзі БНФ першага лістапада ўхваліла правядзенне агульна-нацыянальнай кампаніі прапаганды нацыянальных сімвалаў – бел-чырвона-белага сцягу і гербу "Пагоня" – сярод малады людзей, – паведамляе прэс-група Моладзі БНФ.

Кампанія мае доўжыцца да канца навучальнага года і складацца з розных акцыяў ды імпрэзаў. Мяркуецца, што пачнецца яна ў лістападзе школьным конкурсам "Я і мае сімвалы". У лістападзе-снежні будуць разыграныя прызы сярод аўтараў найлепшых фатаздымкаў, прысвечаных нацыянальнай сімволіцы. Цягам кампаніі плануецца зладзіць некалькі вулічных пэрформансаў, зрабіць фота- і мастацкую выставы.

Мэта акцыі – прыцягнуць увагу маладых людзей да нацыянальных каштоўнасцяў, сімвалаў. Маладыя франтаўцы ўпэўненыя, што важна, каб сімвалы, хоць фактычна забароненыя, былі светачам барацьбы за свабоду для мільёнаў маладых. На іх думку, сімволіка павінна яднаць аднадумцаў, гуртаваць іх дзеля супольнае працы і перамогі. "Важна, каб моладзь усвядоміла нацыянальную і эстэтычную значнасць нашых сцяга і герба, каб яна ведала іх шматвяковую гісторыю, верыла ў іх духоўную моц", – зазначыў кіраўнік аддзелу сувязяў з грамадскасцю Моладзі БНФ Макар Ваўчок.

*******************************************



**Цімафей Ліякумовіч** *(Чыкага)*

# Адданы сын Беларусі

"На Беларусі Бог жыве", -- сцвярджаў Уладзімір Караткевіч (1930-1984) і пацвярджаў гэта тым, што "няма нідзе вярнейшых сяброў і прыгажэйшых жанчын". У імя гэтых людзей ён узнаўляў гістарычную праўду мінулага, каб у новым часе пазбавіцца ад усяго, што было непрыдатнага для жыцця, каб перадаць новым пакаленням тое добрае, што было выпакутавана папярэднікамі і вытрымала праверку на жыццёвасць.

Караткевіч жыў і дыхаў любоўю да роднай зямлі, да яе гісторыі. Сівыя хвалі Дняпра размаўлялі з ім з дзяцінства, навявалі думы аб мінулых стагоддзях, векавечныя дубы на яго ных берагах шапталі аб подзвігах продкаў, пра тое ж нагадвалі ўзгоркі курганаў, а іх дапаўнялі народныя паданні, казкі і песні. Сыноўняя ўлюблёнасць у Беларусь, зачараванне яе зялёнымі нівамі і лясамі, блакітнымі рэкамі і азёрамі, павага да сародзічаў з іх пявуча-звонкай мовай натхнялі яго на творчыя пошукі. Пісьменнік прызнаваўся: "Я ўраджэнец той часткі Беларусі, якая ляжыць на Дняпры. Люблю беларускае Палессе і казачна мяккую Наваградчыну, і адзіную ў свеце Белавежу, і суровую прыгажосць паўночнага азёрнага краю. Іх нельга аддзяліць ад мяне, але ў Прыдняпроўі мне неяк больш прытульна".

Пісьменніка таксама хвалявала, што на берагах Дняпра жылі ягоныя продкі, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі гістарычных падзей, у якіх вырашаўся лёс Бацькаўшчыны.

Да таго ж яшчэ хлопчыкам яму давялося зведаць ліха вайны, з яе ахвярамі, бамбёжкамі і разбурэннямі. Некалькі разоў імкнуўся збегчы на фронт, але кожны раз яго затрымоўвалі і вярталі ў інтэрнат. Юнаком на зруйнаванай зямлі пазнаў і голад, і такі холад, што часам хацелася памерці, абы толькі пахавалі ў цёплай печцы. Сутыкненне з людскім горам, з людскімі мукамі выклікала ў Караткевіча спачуванне да нявінных ахвяр, прымусіла задумацца над тым, у чым прычыны чалавечых пакут і ці ёсць магчымасць пазбегнуць іх у далейшым. Каб знайсці адказ на гэтыя балючыя пытанні, неабходна было зірнуць у глыбіні стагоддзяў.

Падагравалі цікавасць да мінуўшчыны гады вучобы ў Кіеўскім універсітэце імя Т.Шаўчэнкі, пазней павышэнне кваліфікацыі на літаратурных і сцэнарных курсах у Маскве, якія не толькі пашырылі ягоныя даляглядаы, а далі магчымасць пазнаваць праўду з першых рук – паводле архіўных дакументаў.

Нягледзячы на тое, што Беларусь была галоўнай любоўю і песняй Караткевіча, ягоны творчы шлях не быў усыпаны ружамі. Пісьменнік імкнуўся ўзнавіць у памяці людской гераічныя і трагічныя старонкі мінулага, якія адкрывалі б самім беларусам ва ўсім шматаблічны уласную душу, што не адпавядала савецкай ідэалогіі, якая тужылася весці адлік часу ад Кастрычніка 1917 года і падазрона ставілася да тых, хто абараняў правы свайго народа на ўласную гісторыю, культуру і мову. Караткевіч жа быў упэўнены, што людзі, якія не помняць мінулага, абавязкова будуць вымушаны зноў пражыць тыя ж жахі, што выпадалі на долю папярэднікаў.

Непаразуменні з уладамі пачаліся з першага рамана, напісанага празаікам, -- "Нельга забыць" (часопіс "Полымя", 1962). Аўтара папракалі ў фармалізме, другараднасці, у адарванасці герояў твора ад рэальнага жыцця, абвінавачвалі ў абыякавасці да ідэйнай накіраванасці савецкага мастацтва. Адбывалася гэта ў трывожны час, калі кіраўнік дзяржавы М.С.Хрушчоў "раздраконіў" маскоўскіх мастакоў за такія ж "грахі", у якіх абвінавачваўся пачынаючы беларускі раманіст.

Прамінула адно ліха, дык падваліла другое. Выявілася, што раман нельга выдаць і ў брэжнеўскія часы, бо ягоная аўтарская назва "Леаніды не вярнуцца да Зямлі", якую без дазволу пісьменніка змянілі ў рэдакцыі часопіса, бо па выпадковаму збегу акалічнасцей яна мела ў сябе імя новага правадыра. Нікому не было справы да таго, што размова ў творы ішла пра метэарытаў. Галоўная крамола вызначалася ў тым, што на зямлі зіхацеў сваімі зоркамі Леанід Брэжнеў. Набор набранай кнігі рассыпалі. Наглядны ўзор былога савецкага ідыятызму. І апальны раман аж 20 гадоў чакаў свайго з'яўлення ў свет асобнай кніжкай.

Найбольш буйны твор Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" – па сутнасці першы беларускі гістарычны раман з надзвычайна шырокай панарамай народнага жыцця і яе паэтызацый. Р.Барадулін сведчыць: "Цэнзары Караткевіча чыталі асабліва пільна – амаль як "Краткий курс ВКП(б)". Аўтару было прад'яўлена столькі некампетэнтных прэтэнзій, што ён у адчаі заявіў: "Гары яно ўсё гарам! Не буду я выпраўляць ні адзінага слова! Няхай ляжыць да скону свету!" Васіль Быкаў так адрэагаваў на сітуацыю, якая склалася вакол твора: "Раман – ад Бога. А рэдактар параджэнне д'ябла". І толькі дзякуючы ўгаворам і ўжываннем усякіх хітрыкаў з рэдакцыяй Караткевічавых сяброў Рыгора Барадуліна і Адама Мальдзіса ўдалося ўсё-такі раман падрыхтаваць да выдання.

Не менш блуканняў па муках прыйшлося зведаць аўтару і перакладчыцы пры падрыхтоўцы рамана на рускай мове. Выдавецтва "Советский писатель" усякімі спосабамі падстрахоўвалася, дасылала шматпакутнае тварэнне Караткевіча на ўсё новыя ўнутраныя рэцэнзіі, а калі ўсе бар'еры, здавалася, былі пераадолены, працягвала чапляцца за кожнае слова. "Друкавалі яго пасля бясконцых, часам дурных, але заўжды палітычных прыдзірак", -- абураўся Васіль Быкаў.

У рамане "Каласы пад сярпом тваім" адлюстраваны падзеі сярэдзіны XIX стагоддзя, якія маюць дачыненні да паўстання Кастуся Каліноўскага. Дзеянне разгортваецца не толькі на Беларусі, але і у Літве, Польшчы, Расіі. У жывых карцінах паўстае перад чытачом грамадская атмасфера Пецярбурга, Масквы, Варшавы і Вільні, не гаворачы ўжо аб шырокім сялянскім моры. Пісьменнік аб'ядноўвае людзей розных народаў, для якіх імкненне да свабоды з'яўлялася галоўным сэнсам жыцця. Яны пратэстуюць супраць прыгонніцтва, тыраніі, рэакцыі і знявагі чалавека. Аўтар раскрывае багаты духоўны свет людзей з народа. Твор прасякнуты патрыятычнымі пачуццямі, узнімае на высокі п'едэстал змагароў за свабоду. Раман насычаны публіцыстычнымі роздумамі. Шмат у ім паэтычных малюнкаў прыроды. Пісьменнік лічыў, што менавіта гэтым раманам ён адплаціў свой доўг Дняпру, які ўзрасціў яго, сваім продкам, вызваленчаму паўстанню 1863 года, любай Беларусі.

У рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" Караткевіч дакладна адлюстраваў драматычныя падзеі беларускага Сярэднявечча. У цэнтры твора – бадзяга, якога па волі лёсу назвалі імем Сына Божага. Па гэтай прычыне ён вымушаны тварыць цуды, а ўрэшце ўзняць паўстанне супраць царквы і караля. Пры напісанні рамана аўтар абапіраўся на факт, які меў месца ў сапраўднасці і занатаваны ў беларускіх хроніках. Дзеючыя асобы твора перажываюць самыя неверагодныя прыгоды, ім даводзіцца сутыкацца з жорсткасцю і дабрынёй, подласцю і высакародствам. Раман успрымаецца як народная драма, у якой смех перамяжоўваецца са слязамі, а персанажы знаходзяць сваё прызначэнне, калі пачынаюць жыць не толькі для сябе, але і ў імя грамадскіх інтарэсаў. Мастацкая выразнасць апісанняў падзей трымаецца на гістарычнай праўдзе, на асэнсаванні атмасферы і духу мінулага часу і ў значнай ступені на чуйнай інтуіцыі мастака. Крытыка суадносіць раман з "Гарганцюа і Пантагруэлем" Ф.Рабле, "Легендай аб Уленшпігеле" Ш. дэ Кастэра, "Кала Бруньёнам" Р.Ралана, "Майстрам і Маргарытай" М.Булгакава. Караткевіч пераканаўча паказаў, што і на беларускай нацыянальнай глебе вырастаюць тыпы ўленшпігелеўскага маштабу, у якіх праяўляецца непакорлівы дух Беларусі і стойкасць народных характараў.

У аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха", як і ў гістарычных раманах Караткевіча, разглядаюцца праблемы прызвання чалавека, сэнсу чалавечага жыцця, ухваляюцца адданасць роднаму краю і пачуцці высокага і чыстага кахання. Аповесць напоўнена містычнымі жахамі, а яе героі асуджаны расплачвацца за страшэнныя злачынствы свайго продка. Аўтар засяродзіў увагу на заканамернасці выраджэння фанабэрыстай беларускай шляхты, якая загразнула ў карыслюбстве, у прагнай сквапнасці, забылася аб спачуванні і спагадзе чалавеку працы. Нялюдская эксплуатацыя, пастаянныя здзекі над сялянамі выклікаюць народнае абурэнне і помсту за натвораныя "гаспадарамі жыцця" злыбеды. Аповесць насычана напружанай рамантыкай прыгод, у апісанні якіх творча працягваюцца традыцыі Майн Рыда і Вальтэра Скота.

Арыгінальна пабудаваны вострасюжэтны раман-дэтэктыў "Чорны замак Альшанскі", у якім падзеі трохсотгадовай даўнасці пераплятаюцца з падзеямі Другой сусветнай вайны і з наступнымі за ёю гадамі. У ім аўтар не толькі пераплятае мінулае з сучасным, але і паказвае, як справы даўняй мінуўшчыны ўздзейнічаюць на лёсы новых пакаленняў. Аўтар з любоўю піша пра людзей абавязку і гонару. Яны выкрываюць злачынствы, якія мелі месца як на пачатку XVI, так ў сярэдзіне XX стагоддзя.

Проза Караткевіча чытаецца з захапляючай цікавасцю, бо сюжэты ягоных раманаў, аповесцей і апавяданняў надзвычай дынамічныя, багатыя на мноства загадкавых і таямнічых элементаў. Рамантычнае спалучаецца ў іх з рэалістычным адлюстраваннем тэндэнцый грамадскага развіцця. Беларусы паўстаюць перад светам ў ягоных творах свабодалюбнымі і гордымі людзьмі, у адзінстве з прыгнечанымі іншых народаў вядуць барацьбу супраць рабства і несправядлівасці.

Караткевіч планаваў напісаць 15-томную серыю "Век", якая павінна была складацца з 78 кніг прозы. Сваю задуму яму не суджана было ажыццявіць, але напісанае ім настолькі значнае і высокамастацкае, што ягоную ролю ў беларускай прозе параўноўваюць з ралямі В.Скота – у англійскай, Г.Сянкевіча – у польскай літаратурах.

І афіцыйным уладам у выніку давялося лічыцца з народнай любоўю к пісьменніку. У 1983 годзе яму прысуджана Дхяржаўная прэмія імя І.Мележа, у 1984 – імя Якуба Коласа.

Творы Караткевіча атрымалі шырокую вядомасць за межамі Беларусі. Яны перакладзены на англійскую, нямецкую, польскую, рускую, французскую і многія іншыя мовы. Ягоныя кнігі працягваюць адкрываць Беларусь як для саміх беларусаў, так і для людзей іншых нацый. Для Караткевіча не існавала нецікавых народаў. Ён жыў "бяздоннай трывогай" пра тых, хто "Ў нязгодзе З рабства подлай дарогай, хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы, Паўстане нават на Бога". І людзі адказваюць яму ўзаемнай любоўю. Ён заслужана прызнаны агульнаеўрапейскім і агульначалавечым пісьменнікам.

Апрача ўсяго, вострасюжэтныя творы Караткевіча знайшлі другое жыццё на экране. Кінафільмы "Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі" і іншыя прыцягнулі ўвагу гледачоў, асабліва моладзі, вострай фабулай, выразнымі характарамі, маральнай веліччу герояў. Кінамастацтву Караткевіч удзяліў значную ўвагу, бо лічыў: "Гэта ж магутная сіла! Раман у нашых беларускіх умовах прачытае ну дзесяць, ну дваццаць тысяч чалавек. А добры фільм пагледзяць мільёны. Разумееце, якая магчымасць уздзейнічаць на народ, абуджаць яго годнасць, яго памяць".

Караткевіч увекавечыў сябе не толькі ў якасці вартага гісторыка і ўдумлівага празаіка, але і тонкім лірыкам. Яго пяру належаць самабытныя паэтычныя зборнікі "Матчына душа", "Вячэрнія ветразі", "Мая Іліяда" і (пасмяротны) "Быў. Ёсць. Буду", якія напоўнены філасофскім роздумам пра час і пра сябе, выразнай вобразнасцю, шчырым лірызмам, смелай метафарычнасцю і асацыятыўнасцю мыслення.

*Гэты край раскрытых душ і дзвярэй,*
*Гэты край –*
*Твой дом і сабор...*
*Ў нас дваццаць з лішнім тысяч рэк,*
*Адзінаццаць тысяч азёр.*
*Нам ёсць што піць,*
*З падмосткаў ліць,*
*Чым палі свае акрапіць,*
*А як давядзе, то ёсць нам дзе*
*І ворага ўтапіць.*
*І тая памяць жыве не ў царкве,*
*А ў кожнай жыве галаве:*
*"На Беларусі Бог жыве".*

Значнае месца ў творчасці Караткевіча займала драматургія. Ён аўтар п'ес "Млын на Сініх Вірах", "Званы Віцебска", "Кастусь Каліноўскі", "Калыска чатырох чараўніц", "Маці ўрагану", а таксама кінасцэнарыяў дакументальных фільмаў "Сведкі вечнасці", "Будзь шчаслівай, рака" і інш.

Не цураўся Караткевіч і публіцыстыкі. Зборнік "Зямля пад белымі крыламі" ўспрымаецца як мастацкая энцыклапедыя Беларусі, а сама ягоная назваператварылася ў сімвал беларускай зямлі.

Для дзяцей Караткевічам напісаны казкі, з якіх склаўся зборнік "Вясна восенню". Таксама з цікавасцю ўспрымаецца маладым чытачом яго займальна-пазнавальны нарыс "Белавежская пушча".

У творах Караткевіча ўваскрэсла жывая гісторыя Беларусі – ад легендарнага Машэкі да адлюстравання жыцця сучаснай яму моладзі. Караткевіч – пісьменнік высокіх ідэалаў. Пры спалучэнні мінулага з сённяшнім ён адлюстроўваў жыццё ва ўсёй яго

складанасці і шматграннасці, сцвярджаў думку аб непераможнасці людскасці, спагадлівасці, аб неабходнасці кіравацца высокімі маральнымі прынцыпамі. Высакароднасць ягоных герояў, іх гуманізм, імкненне да перамогі дабрыні і справядлівасці працягваюць верна служыць людзям, нагадваць ім аб адвечных каштоўнасцях, якія ніколі не гаснуць і ў якіх адчуваецца патрэба ў любую эпоху. Гістарычная проза Караткевіча застаецца злабадзённай і сёння, бо абуджае ў чалавеку чалавечае, бо працягвае запальваць агонь веры ў чалавечых сэрцах.

*"На Беларусі Бог жыве" –*
*І няхай да веку жыве...*

І будзе жыць да таго часу, пакуль нараджае такіх адданых сыноў, як Уладзімір Караткевіч.

*************************************




**Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага)**

*"Я імгненьне жыву, і памру на імгненьне..."*

# Пра Уладзіміра Караткевіча. Крыху роздуму і ўспамінаў.

Ён нарадзіўся 26 лістапада. Гэтая ж дата – так супала – ёсьць і дзень сьмерці вялікага сына зямлі беларускай Адама Міцкевіча, уплыў асобы і творчасьці якога Уладзімір Караткевіч адчуваў усё сваё жыцьцё. Можа таму ён так зьвяртаўся да слыннага клясіка: "Кажуць, што ў ноч на дваццаць шостага лістапада ты з'яўляешся на зямлю, якая цябе нарадзіла, і ходзіш па ёй, зазіраючы ў кожную хату, у кожную адрыну, на дно кожнага глыбокага возера... Нячутныя крокі твае, а вочы з пяшчотнасьцю нябачнай глядзяць на гэту простую і мілую зямлю..."

Гэтыя словы прыгадваюцца сёлета, напярэдадні сямідзесяціпяцігодьдзя Уладзіміра Караткевіча. Які дзіўны перагук так званых "круглых" датаў: роўна 150 гадоў таму ня стала вялікага польскага і ўсіх славянаў паэта Адама Міцкевіча, а Уладзіміру Караткевічу, выдатнейшаму беларускаму пісьменьніку, было б роўна 75... І падумалася, што тыя згаданыя словы ён мог сказаць і пра сябе самога. Бо ён заўсёды ёсьць і будзе разам з намі, дзе б мы не былі, пакуль будзе жыць наш край і яго людзі, пакуль будуць жыць беларуская мова і беларускі народ.

І яшчэ адна цытата з Уладзіміра Караткевіча не забываецца, асабліва тут, у эміграцыі:

Беларусь! Зялёная, залатая!
Край мой сьветлы, што выпію мора пакут!
Да апошняй бярозы багаслаўляю
Сьветлы дзень, калі я нарадзіўся тут!

Пражыць Уладзіміру Караткевічу давялося толькі пяцьдзесят чатыры гады. Але ён пасьпеў пакінуць нашчадкам найвыдатнейшую літаратурную спадчыну, якой сёньня ганарыцца і беларуская, і сусьветная літаратура: раманы, аповесьці і апавяданьні, п'есы, нарысы, найцікавейшая публіцыстыка і эсэістыка, сцэнары кінафільмаў і тэлевізійных праграмаў. Жыцьцё і творчасьць Уладзіміра Караткевіча – сапраўдны ўзор незвычайнай самаадданай любові да радзімы, заснаванай на высокай чалавечнасьці, на канцэпцыі Чалавека ў нашым сёньняшнім разуменьні, на сучасным падыходзе да гісторыі Беларусі, гісторыі барацьбы яе народу за свабоду і незалежнасьць. Сваёй палымянай творчасьцю, яе ідэйным зьместам, яе жанравай разнастайнасьцю і высокімі эстэтычнымі вартасьцямі Уладзімір Караткевіч працягваў і пашыраў традыцыі і славу беларускай літаратуры, што ішлі ад Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа.

...Мы з ім пазнаёміліся вельмі даўно, ці не на самым пачатку шасьцідзесятых, калі Уладзімір Караткевіч, вярнуўшыся з Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве, стаў жыць у Менску. Быў мой дзень нараджэньня; сьвяткавалі ў нашай аднапакаёвай кватэры на бульвары Шаўчэнкі. Запрасіў я тады да сябе Івана Бурсава, Міхася Стральцова ды Рыгора Барадуліна. Усе ў час сабраліся, аднаго толькі Рыгора доўга не было. Нарэшце – званок у дзверы, я адчыняю, стаіць Барадулін. "Вось табе, Ванкарэм, жывы падарунак, – гаворыць ён і робіць крок убок. За ім стаіць, сарамліва ўсьміхаючыся, высокі і хударлявы малады чалавек. – Знаёмся, гэта Уладзімір Караткевіч". Тады мы няблага пасядзелі і добра ўзялі чарку. Запозна ўсе госьці разышліся, застаўся ў нас дома начаваць адзін Валодзя Караткевіч. Раніцай, калі прачнуліся, ён папрасіў апахмяліцца. Абшукалі ўсе паліцы і ўвесь халадзільнік, але анічога не знайшлі – усё было выпіта папярэдне... Зрэшты, гэты выпадак апісаны Рыгорам Барадуліным у ягонай кнізе "Аратай, што пасьвіць аблокі", толькі Рыгор, як мне здаецца, крыху перабольшыў адмоўную рэакцыю Валодзі на адсутнасьць тады апахмелкі...

З таго часу мы з Уладзімірам Караткевічам моцна пасябравалі. Я бясконца ўдзячны яму за незвычайную чалавечую ўвагу і шчырасьць, за гатоўнасьць у любы час прыйсьці на дапамогу. Толькі адзін прыклад: праз колькі год ён сам прыйшоў на тэлебачаньне, дзе я тады працаваў, і сказаў, што напісаў рэкамендацыю, каб мяне прынялі ў Саюз пісьменьнікаў, хоць я да яго з такой просьбай раней не звяртаўся. Сказаў таксама, каб я афармляў усе неабходныя дакументы, паведаміў, што ён дамовіўся з Юркам Гаўруком і Язэпам Семяжонам – яны таксама дадуць неабходныя рэкамендацыі. Потым было многа і сустрэч, і гутарак, і сумесных вандровак; асабліва запомніліся паездкі разам з Уладзімірам Караткевічам па Карэліцкім раёне, па Навагрудчыне, дзе ён расказваў пра Адама Міцкевіча і пра многія слынныя старонкі беларускай гісторыі, а таксама было цудоўнейшае сумеснае падарожжа ў Вільню, дзе ён ведаў абсалютна ўсё пра кожную вулку, будынак, узгорак, помнік, камень...

Тады, у далёкім ужо 1966 годзе, я працаваў у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачаньня. Шукаючы нейкія новыя, уласьцівыя тэлебачаньню формы, прапанаваў кіраўніцтву стварыць серыю праграм, прысьвечаных літаратурным і культурным узаемасувязям Беларусі з іншымі народамі. Першаму расказаў пра задуму Уладзіміру Караткевічу. Ён актыўна ўхваліў ідэю, згадзіўся быць аўтарам сцэнарыя шэрагу праграмаў і сам прапанаваў распачаць гэты серыял перадачай пра нашыя ўзаемасувязі з Літвой. Помню, якія ўсхваляваныя водгукі мы атрымалі пасьля гэтай праграмы, якую вёў Уладзімір Караткевіч і якая ішла тады ў эфіры на ўсю Беларусь і Прыбалтыку. Асаблівую цікавасьць выклікаў тады расповяд аўтара пра Вільню – калыску беларускай культуры і беларускага адраджэньня. Уладзімір Караткевіч расказваў і пра славутых дзеячоў польскай, літоўскай, яўрэйскай, рускай культур, жыцьцё і дзейнасьць якіх была звязана з гэтым горадам і гэтым старадаўнім беларускім краем. І ў той праграме, як і ў многіх сваіх творах, Уладзімір Караткевіч падкрэсьліваў выключную традыцыйную талерантнасьць беларусаў, іх спрадвечную павагу да суседзяў, жаданьне жыць з імі ў міры і дружбе.

Свой верш-заклік да дружбы і братэрства розных народаў Уладзімір Караткевіч назваў сымбалічна: "Сплятайце рукі!". Працытую радкі, якія адразу запомніліся назаўжды:

Хто сказаў, што патрэбныя слёзы?
Хто сказаў, што розны наш лёс,
і таму, што насы ў нас розныя,
ты павінен разбіць мне нос?
Хай ён нюхае лепей кветкі
ці каханай сваёй галасы.
Месца хопіць для ўсіх на палетках,
і на ўсіх хопіць веснянай красы.

На ўзьнёслыя радкі выключнай мастацкай сілы Уладзіміра Караткевіча, апрача "Вільні ў дождж, як старая гравюра", Гародні і Магілёва, Мінска і Навагрудка, Воршы і Мсьціслава, Полацака і Віцебска, натхнялі і іншыя далягляды: Пячэрск у Кіеве і Домская вежа ў Старой Рызе, горы Арменіі, "што крываваяць ад ран", Чатырдаг і Чуфут-Кале ў Таўрыдзе, Марыяцкі сабор і вуліца Дэшчавая ў Кракаве, слёзы фантану Бахчысарая, "быццам расінкі вясёлак з дубоў беларускіх", "кроў Іліяды, попел Плошчы кветак, Рагнеды плач і Хірасімы прах"... У яго паэзію і прозу асацыятыўна ўрываліся рытмы і мелодыі Чайкоўскага, Шапэна, Шуберта, Бетховена, Манюшкі, Агіньскага, магутныя выяўленчыя вобразы Рафаэля, Рублёва, Босха, Брэйгеля, Дэга, Курбэ, Пікаса, Чурлёніса, Гойі, Шагала, Рушчыца, Драздовіча... У ягонай кватэры ў Мінску можна было сустрэцца і пазнаёміцца з балгарамі Георгіем Вылчавым, Сімяонам Уладзіміравым, Стэфанам Паптоневым, немцам Норбертам Рандавым, чэхам Вацлавам Жыдліцкім, славакам Душанам Слабоднікам, палякамі Фларыянам Няўважным, беларусамі з Польшчы Янам Гушчам, Алесем Баршчэўскім і многімі іншымі, хто неслі і сёньня нясуць у сьвет слова пра Беларусь, пра яе народ, пра яго культуру і духоўнасьць. Згадваецца, што мне пашчасьціла прывесьці да Караткевіча і пазнаёміць з ім Георгія Вылчава, Сімяона Уладзімірава, калі яны прыязджалі ў Мінск. Ды і Норберта Рандава, з якім да гэтага я двойчы сустракаўся на семінарах у Балгарыі і якому тады многа расказваў пра Беларусь і беларускіх пісьменьнікаў.

Сёньня асабліва хочацца падкрэсьліць, што адным з найкаштоўнейшых урокаў Уладзіміра Караткевіча ёсьць менавіта гэты: можа, нашым цяперашнім працэсам барацьбы за дэмакратыю, за суверэнітэт і за незалежнасьць, за адраджэньне роднай мовы, спадчыны і духоўнасьці не хапае часам такога шырокага інтэрнацыянальнага, скажам так, пагляду, падыходу да многіх праблемаў і пытаньняў? Пагляду Максіма Багдановіча, што гучыць у ягоных славутых словах аб тым, што "ня толькі беларускаму народу, але і ўсясьветнай культуры..." нясем мы свой дар, – словах, якія часта любіў прыгадваць Уладзімір Караткевіч? Можа, такі падыход хутчэй будзе спрыяць так патрэбнаму сёньня на Беларусі рэальнаму аб'яднаньню ўсіх нацыянальна сьвядомых сілаў, рухаў, напрамкаў і ўсіх, заклапочаных тым, каб Беларусь найхутчэй заняла "свой пачэсны пасад між народамі"?

Уладзімір Караткевіч пакінуў багатую спадчыну ва ўсіх літаратурных жанрах; паступова яна прыходзіць і да новага пакаленьня чытачоў, удзельнічаючы ў фармаваньні яго нацыянальнай самасьвядомасьці. Хацелася б толькі, каб была зьвернута належная ўвага і да яго яскравых драматургічных твораў. Думаецца, што яшчэ наперадзе іх сцэнічнае адкрыцьцё і мастацка-вобразнае ўвасабленьне ў тэатрах Беларусі і іншых краінаў. Уладзіміру Караткевічу быў уласьцівы свой, адметны падыход да драматургіі, сваё сцэнічнае бачаньне створаных ім вобразаў. Прыгадваю, як праз колькі гадоў пасьля сьмерці Валодзі мяне ўразілі рукапіс першага варыянту яго народнай драмы "Руна пра Кастуся" і своеасаблівая прадмова – зварот аўтара да тэатра і артыстаў, што я знайшоў у музэі-архіве Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы. Адразу ж зьдзівіла дакладнае веданьне Караткевічам прыроды і сутнасьці тэатру, законаў сцэнічнага мастацтва. Тады я і зрабіў сабе некаторыя выпіскі з гэтага "Звароту". Аўтар адразу просіць акцёраў "не ірваць страсьці ў шматкі". Жанр сваёй п'есы ён вызначае як "паданьне, песьня, а людзі паданьняў павінны быць значна цішэйшымі, чым жывыя, больш задушэўнымі і стрымана рамантычнымі". Цікавая заўвага Уладзіміра Караткевіча пра народныя сцэны: "За ўсім гэтым павінна цьвёрда праглядваць веліч, бо яны – звычайныя людзі – героі трагедыі, хоць самі і не разумеюць гэтага". І далей драматург удакладняе: "Нашы героі – проста людзі, выключныя людзі, вельмі страсныя, добрыя і чалавечныя. Яны робяць тысячы памылак, але з гэтай прычыны яшчэ больш дарагія нам, бо іхнія памылкі таксама ад любові... Усе ў п'есе павінны быць людзьмі. Людзі – вось што галоўнае... Людзі, скутыя адным ланцугом... Людзі, якія жылі сто год назад, але якіх мы разумеем, магчыма, лепей, чым сучасьнікаў."

Ня ўпэўнены, ці надрукаваны дагэтуль гэты "Зварот" Уладзіміра Караткевіча. Лічу, што і ён, як і многае напісанае нашым выдатным творцам, гучыць з кожным годам значна шырэй, актуальней, асабліва з пункту гледжаньня сёньняшняй сацыяльна-культурнай сітуацыі ў Беларусі.

Давайце ж сёньня, успамінаючы Уладзіміра Караткевіча, аддаючы належнае ягонай літаратурнай спадчыне, не ўяўляючы без яго нашу беларускую духоўнасьць, прыслухаемся яшчэ раз да яго ўрокаў-запаветаў. А гэта значыць, будзем рабіць усё, каб наблізіць зьдзяйсьненне яго самай запаветнай мары: "Толькі б вечнае шчасьце каханай старонцы маёй"...

*********************************************

# Ґеніюш: сучаснасьць неўміручага:

### *да выхаду музычнага дыска паводле вершаў Вялікай Паэткі*

У гэтым годзе ўсё нацыянальна-дэмакратычнае беларуская грамадзтва адзначае 95-я ўгодкі з дня народзінаў Ларысы Ґеніюш. І гэты дыск зьяўляецца першай у Беларусі, а магчыма й у Эўропе, спробай стварыць, карыстаючыся сучаснай музычнай тэрміналёгіяй, паэтычны трыб'ют, г.зн. музыкаўскае прысьвячэньне паэтцы ў знак даніны памяці той, чыя творчасьць і сёньня, нават пасьля фізычнай сьмерці, знаходзіцца ў авангардзе змаганьня за незалежнасьць і эўрапейскасьць краіны.

...Ларыса Ґеніюш (у дзявоцтве Міклашэвіч) нарадзілася ў маёнтку Жлобаўцы на Гарадзеншчыне ў 1910 годзе ў шматдзетнай сям'і заможнага селяніна-земляўласьніка. Нягледзячы на тое, што Ларыса напачатку скончыла польскую школу, а пасьля й

Ваўкавыскую польскую гімназію (1928), дзяўчына ўжо тады асэнсавала сябе сьвядомай Беларускай. Гэтаму спрыяла тое, што дзяўчына шмат чытала, у сям'і паўсюдна карысталіся роднай мовай. Бацька Ларысы Антон Міклашэвіч, які сам шмат разважаў пра будучыню роднага краю, вучыў дзяўчо "не змыляць роднай баразны", заўсёды ініцыяваў нацыянальныя развагі сваёй дачкі такімі пытаньнямі: "Полацкае Княства сёньня зрабілі непапулярным з страху, каб не сэпаравалася цераз права ад імпэрыі, але ці ты думаеш, што твая Беларусь утрымаецца эканамічна, калі б была самастойнай?" (Ларыса Геніюш "Споведзь", Мн., "Мастацкая літаратура" 1993, стар. 5). Ларыса вельмі горача, зь юнацкім максымалізмам адстойвала свае погляды на будучыню Беларусі, а тата ў гэты час паглядаў на яе "зь нейкай чуласьцю сумнай" (тамака ж). Бо ведаў, што шлях Беларуса ў той час быў сынонімам пакутніка...

Але ў жыцьці Ларысы Міклашэвіч надыходзілі ўсё ж больш радасныя пэрспэктывы: маладая й патрабавальная да свайго будучага абранніка дзяўчына ў 1935 годзе пабралася шлюбам з студэнтам-мэдыкам Янкам Геніюшам, які ў той час навучаўся ў Празе, у Карлавым унівэрсытэце. А ў 1937 годзе, пасьля нараджэньня сына Юркі, Ларыса пераехала да мужа ў Прагу ды пачала ў сваім жыцьці беларускую эміграцкую старонку.

Але шчасьце было нядоўгім, бо трагічныя весткі перавярнулі жыцьцё Ларысы Геніюш: пасьля таго, як Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь у 1939 годзе, бацька Ларысы быў расстраляны, а маці й дзьве сястры былі высланыя ў Казахстан. Гэтыя страшныя падзеі толькі падштурхнулі Ларысу да больш актыўных дзеяньняў дзеля будучыні незалежнай Беларусі. У Празе Ларыса Геніюш наладзіла сувязь з прадстаўнікамі нацыянальна-дэмакратычнай эміграцыі – В. Захаркам, К. Езавітавым, Я. Найдзюком, С. Грынкевічам, В. Русаком, Н. Арсеньневай, М. Сядлнёвым, М. Забэйдам-Суміцкім. Да таго ж у Празе Ларыса Геніюш адчула патрэбу выказаць свае пачуцьці ў вершаванай форме. Гэтаму спрыяла й тое, што суседкай сям'і Геніюшаў у чэскай сталіцы была сястра Лесі Украінкі, чыя паэзыя аказала на Ларысу вельмі вялікі ўплыў. А першыя свае вершы паэтка апублікавала ў бэрлінскай газэце беларускіх эмігрантаў "Раніца". Публікацыі твораў у гэтым ды іншых выданьнях прынесьлі немалую вядомасьць яўна таленавітай аўтарцы. У 1942 годзе ў Празе пабачыў сьвет першы зборнік лірычных твораў Л. Геніюш "Ад родных ніў", напоўнены глыбокім і шчымлівым сардэчным роздумам пра лёс свайго краю. Вершы Геніюш былі вельмі прыхільна ўспрыняты беларускімі чытачамі ўсяго сьвету. Паэтка атрымлівала лісты з розных краінаў, зь ёй імкнуліся пазнаёміцца асабіста.

У сакавіку 1943 года Ларыса Геніюш была абрана Генэральным сакратаром Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на эміграцыі. Пасада вымушала займацца ня толькі дапамогай беларускім эмігрантам і ваеннапалонным, але захаваньнем і ўпарадкаваньнем архіву БНР. Найбольш каштоўную частку архіву яна пераправіла ў недаступнае для ворганаў НКВД і МГБ мейсца. Гэты факт ейнай біяграфіі стаў лёсавызначальным для Ларысы Геніюш, бо савецкія карныя органы пазьней будуць зьверскімі мэтадамі "выбіваць" зь яе зьвесткі пра гэты архіў.

Пасьля вызваленьня Чэхіі ад фашыстаў Ларыса, ейны муж Янка ды сын Юрка жылі пад Прагай, у мястэчку Вімпэрк. Але ў 1948 годзе Ларыса й Янка Геніюшы былі арыштаваныя ворганамі МГБ. Далей іх чакалі турмы чэскіх Вімпэрку, Пісэку, дзе праз надуманыя абвінавачаньні іх пазбавілі чэскага грамадзянства. Потым – эмгэбісцкія вязьніцы Львова й Мінску. У сталіцы Савецкай Беларусі допытам Ларысы Геніюш займаўся сам міністар дзяржбясьпекі БССР Цанава, якога цікавілі менавіта архівы БНР. Калі Ларыса Геніюш адказала, што ня ведае пра іх, Цанава загадаў жорстка зьбіваць жанчыну. Але мужнасьці ёй, трывалай хрысьціянцы й Беларусцы, надавала вера ў Бога ды ў Беларусь, таму яна сьмела адказвала сваім катам проста ў вочы: "Бяз волі Божай волас мне з галавы не ўпадзе, і я не баюся вас!" (Ларыса Геніюш "Споведзь" стар. 175). У 1949 годзе Ларыса й Янка Геніюшы былі асуджаны на 25 гадоў кожны. Ніякая адвакатура не праняла савецкі суд. Вырак застаўся бяз зьменаў.

Сваё пакараньне Ларыса Геніюш адбывала ў лягерох Комі й Мардовіі. Гады, якія прайшлі там – самыя страшныя ў жыцьці паэткі, але ў той жа час гераічныя, напоўненыя стаічным духовым змаганьнем з бальшавіцкім Злом. Ларыса Антонаўна падтрымлівала сваіх землякоў, палітвязьняў іншых нацыянальнасьцяў нават ужо сваімі патрыятычнымі й лірычнымі вершамі. Саму ж паэтку за ейную неверагодную духовую моц клікалі "Маці". Нягледзячы на катаржную працу ў шахтах ды лесапавалах, на зьдзекі канваіраў (вось чым ушаноўвала Савецкая Беларусь сваіх найвыдатнейшых талентаў), Ларыса Геніюш не разгубіла сваіх лепшых чалавечых якасьцяў, але нават у зборніку эміграцыйных пісьменьнікаў "Ля чужых берагоў" (Мюнхэн, 1955) вершы Геніюш ішлі ў разьдзеле паэтаў, якія лічыліся памерлымі.

Трагічных лёс напаткаў і астатніх Міклашэвічаў: у Казахстане ад голаду памерлі маці й дзьве сястры, брат загінуў пры вызваленьні Італіі, калі служыў у арміі Андэрса, другі брат загінуў у Нямеччыне.

У 1956 годзе Ларыса й Янка Геніюшы былі часткова рэабілітаваныя, і тэрмін пакараньня ім быў зьменшаны да 8 гадоў. Пасьля вызваленьня Ларыса Антонаўна пасялілася на радзіме мужа ў Зэльве.

Усё астатняе жыцьцё Ларыса Геніюш пражыла з адзнакай у пашпарце "без грамадзянства", а ў Саюз пісьменьнікаў БССР яна прынцыпова не ўступала, ды самае галоўнае – прынцыпова не прымала грамадзянства СССР. Паэтка кідала ў вочы савецкай уладзе: "Застаюся грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі!" І за гэта ўлады помсьцілі ёй – не давалі магчымасьці ўладкавацца на працу, адмаўлялі ёй у праве бачыць сына Юрку, які жыў і рос у Беластоку.

Амаль дзесяць гадоў творчасьць Ларысы Геніюш была пад забаронай. І толькі дзякуючы руплівасьці тагачаснага Старшыні Вярхоўнага Савета БССР паэта Максіма Танка быў выдадзены першы ў Беларусі зборнік выбраных твораў Ларысы Геніюш "Невадам з Нёмана", а неўзабаве пабачылі сьвет і дзьве ейныя кніжкі зь дзіцячымі вершамі.

Тым ня менш, нягледзячы на цікаваньне з боку КДБ, дом Ларысы Геніюш у Зэльве ператвараўся ў адзін з асяродкаў вальнадумства, дэмакратызму, незалежніцкага руху краіны. Бо ў госьці да паэткі-дысідэнткі ехалі знакамітыя й маладыя пісьменьнікі, паэты, мастакі, навукоўцы й проста людзі, неабыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны. Для іх Ларыса Геніюш была жывым увасабленьнем ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Як і Рагнеда, якая зьдзейсьніла дынастычны подзьвіг – захавала для нацыі адзінага нашчадка Рагвалодавіча, – Ларыса Геніюш захавала ды ад імя афіцыйнай асобы ўраду БНР перадавала маладым Беларусам вялікія ідэалы дзяржаўнасьці краіны, спрыяла аб'яднаньню дэмакратычных і незалежніцкіх колаў Беларусі.

Памерла Ларыса Геніюш у 1983 годзе й была пахавана на могілках у мястэчку Зэльва. Помнік Л. Геніюш і Я. Геніюшу на зэльвенскіх могілках, а таксама манумэнт паэтцы каля мясцовай Траецкай царквы ды помнік у Старых Дарогах, якія ўсталяваны дзякуючы намаганьням культурна-асьветнага клюбу "Спадчына" (скульптар М. Інькоў, кіраўнік праекту А. Белы) сталі своеасаблівай Мэкай для тых, хто верыць у незалежную й дэмакратычную, а галоўнае, ня страціўшую сваю беларускую душу, краіну.

*

Вядомы пісьменьнік Барыс Сачанка заўважыў у прадмове да кнігі "Белы сон" (1990): "Моцная сувязь Ларысы Геніюш з фальклёрам. Яна ня толькі ў мэтафарах і пэрыфразах, але й ва ўсёй вобразнай структуры верша, у ладзе творчасьці й думаньня, у самім духу кожнага паэтычнага радка". Мяркую, менавіта гэтая сувязь стварае своеасаблівую мэлёдыку вершаваных радкоў паэткі, іхнюю прыдатнасьць да музычнай творчасьці. Дый сама паэтка акурат як песьні ўспрымала свае вершы:

*Ляці мая песьня, дзе нашы дзяўчаты,*
*Калінавы цьвет у вянкі зь імі ві*
*Ды чорнай разорай ідзі за аратым,*
*Тугою за воляй на Нёмне плыві.*

Акрэсьлены мэлядызм вершаў Ларысы Геніюш заўсёды прываблівалі да сутворчасьці беларускіх кампазытараў і найперш эміграцыйных (М. Куліковіча-Шчаглова, А. Карповіча, П. Карузу), якія не адчувалі на сабе прэсу ідэалягічных забаронаў, а таму шмат зрабілі для папулярызацыі ейнае паэзіі за межамі Беларусі. Вяртаньне ж Ларысы Геніюш у нацыянальны культурніцкі кантэкст на Радзіме працягвалася пасьля выхаду зборніка "На чабары настоена" (1982) ўжо з дапамогай выканаўцаў, якіх можна сьмела залучаць да прадстаўнікоў незалежнага мас-музычнага мастацтва Беларусі: бардаў, поп- і рок-музыкаў. І піянэрамі ў гэтай пачэснай справе сталі Алесь Камоцкі ды Вальжына Цярэшчанка.

Калі мой даўні прыяцель, студэнт факультэта журналістыкі БДУ Мікола Супрановіч (цяпер дырэктар вялікага дзяржаўнага выдавецтва), апублікаваў у камсамольскай "Чырвонай зьмене" свой артыкул "Сяброўка гітара", у якім дзяліўся сваімі ўражаньнямі ад песень Камоцкага на вершы Л. Геніюш, нават я, здаецца, не да канца прасякнуў глыбіню ягоных высноваў. Мікола сьцьвярджаў тады:

"У сваіх песьнях з дапамогай перакаваўчага паэтычнага слова Алесь Камоцкі прымушае задумацца кожнага, ці ня госьцем ён жыве на гэтай зямлі:

*На роднай зямельцы усе мы ня госьці –*
*Усе мы чыесьці, усе мы кагосьці.*
*І хоць спарахнелі дзядоў нашых косьці,*
*У нашай натуры ёсьць іхняе штосьці.*

Гэты ўрывак з песьні на верш Ларысы Геніюш вельмі трапна характарызуе сэнс творчасьці самога Камоцкага: паказаць сувязь часоў, сувязь сыноўскага й бацькоўскага лёсаў ды іхніх духоўных каштоўнасьцяў" ("Чырвоная зьмена" №116, 19.01.1985).

Цікава, што гэты артыкул, які рызыкоўна, але сьмела вяртаў народу слушныя ягоныя аўтарытэты, праз пэўны час передрукавала нават газэта "Беларускі ўнівэрсытэт" (№28, 24.10.1985), відавочна, каб пашырыць зьвесткі пра Ларысу Геніюш і ейны духовы подзьвіг у асяродзьдзі навуковых колаў беларускай інтэлігенцыі, занадта заклапочанай чужынскімі кумірамі.

У рацыі высноваў М. Супрановіча я, тады старшыня менскага рок-клюбу "Няміга", упэўніўся на адным з нашых мерапрыемстваў. Пасьля выхаду таго супрановіцкага артыкула ў нас зь Вітаўтам Мартыненкам, музычным аглядальнікам "ЧЗ" ды маім аднадумцам, узьнікла ідэя запрасіць Алеся Камоцкага ў рок-клюб. Алесь павінен быў выступіць у Палацы чыгуначнікаў перад канцэртам легендарнай "Бонды". Пасьля эмацыйнага й вельмі ўзрушлівага бардаўскага сэту да нас прыйшло трывалае перакананьне, што зрабіць бардаўскую ці рокавую песьню сапраўды беларускай можа, як мінімум, беларуская мова! Бо толькі яна можа разгарнуць і ажывіць той музычны генатып, які стварае нацыянальны кантэкст. Камоцкі пераканаўча дэманстраваў неверагодны ўплыў Вялікай Паэткі.

Падтрымкай гэтага адкрыцьця (і таксама ў зьвязе з паэзыяй Ларысы Геніюш) стала знаёмства з творчасьцю гамяльчанкі Вальжыны Цярэшчанкі. Ейны твор "Запяі мне песьню..." ў сярэдзіне 80-х гадоў літаральна ўскалыхнуў Беларусаў як ў мэтраполіі, гэтак і на эміграцыі, стаў сапраўдным гімнам колісь прыснулай нацыі. Гэты фэнамэнальны твор сучаснага музычнага мастацтва мне, аднак, толькі аднойчы давялося чуць "жыўцом" – на вясельлі майго сябра Вітаўта Мартыненкі. У той дзень усе, хто віншаваў яго з гэтай падзеяй, слухалі песьню-падарунак маладым ад самой Вальжыны, сяброўкі нявесты, і мы перажылі сапраўдны эстэтычны й эмацыйны катарсіс. Голас, мэлёдыя, словы Ларысы Геніюш пранікалі ў самыя патаемныя сховы беларускай душы й сьвядомасьці, а таму твор застаўся з намі на ўсё жыцьцё...

Адны выканаўцы, вяртаючы творчасьць Геніюш у сучасны кантэкст, знаходзілі ў ёй лірызм тонкай жаночай душы, другія – стаіцызм палымянай патрыёткі. Беластоцкі гурт "Белы Сон" прапанаваў у аднайменным альбоме (1997) сваё, гітовае бачаньне лірыкі Ларысы Геніюш, а музыка "Песьняроў" Аляксандр Кацікаў у альбоме "Жывем" (1998, 2003) прыадчыніў слухачам іншы зрэз ейнае паэзіі – поліфанічную расьпеўнасьць паэтычнай мовы. Дарэчы, пра тое, што ня ўсё ў гэтага музыкі адбывалася гладка ў названым праекце, сьведчыць факт, што альбом "Жывем" спачатку выдаваўся пад брэндам "Песьняры", а потым пад сольным брэндам Кацікава ў складзе цяперашніх "Беларускіх Песьняроў" з Масквы.

Кардынальна іншы бок творчасьці Ларысы Геніюш – паэзыя змаганьня – знаходзіць сваё другое прачытаньне акурат у наш час, калі родная мова й культура сталі разьменнай манэтаю для папулістаў, якія дарваліся да ўлады, каб сьвядома весьці Беларусаў шляхам нацыянальнай дэградацыі. І на такі выпадак вершы геніяльнай Беларускі маюць свой аргумэнт:

*Сёньня на пласе родная мова.*
*Вырваць жывую належыць з агню.*
*Слова "кахаю" – слабае слова,*
*Мужнае слова – "абараню".*

Гэтую цьвёрдую й нязломную танальнасьць вершаў Ларысы Геніюш падхапілі й беларускія рок-музыкі. І гэта не выпадкова, бо рок-рух заўсёды быў у апазыцыі да афіцыёзнага марнатраўства, дый сам падвяргаўся значнаму (у нас пакуль, не татальнаму, як гэта здарылася ў Чэхаславаччыне напярэдадні "аксамітнай рэвалюцыі") прэсынгу. Але й у нас канцэрты лепшых гуртоў ды буйныя фэсты забараняюць, беларускамоўную творчасьць выштурхнулі з тэлевізыйнага й радыё-этэру (як бы там хто ні змагаўся за 75%), музыкаў звальняюць зь дзяржаўных установаў (як гэта адбылося з гуртом "Палац", з А. Памідоравым)...

І ў такіх неспрыяльных для беларускай мовы й культуры варунках паэзыя Ларысы Геніюш наноў стала, як і калісьці для вязьняў сталінскага ГУЛАГу, своеасаблівай "глюкозай", што мацуе ў змаганьні наш нацыянальны арганізм...

Мо таму вядомы рок-музыка Вячка Корань ("Ulis") у апытаньні "Музыкальной газеты" цьвёрда й пераканана называе Ларысу Геніюш сваёй улюбёнай паэткай. А ўдзельнікі музычнага праекту "Я люблю ліцэй" нязломнага Беларускага гуманітарнага ліцэю імя Я. Коласа менавіта ў радках гэтай паэткі бачаць заклік да мужнага супрацьстаяньня дэструкцыі з боку антыбеларускіх сілаў у адносінах да іхняй навучальнай установы...

Мо й ня ўсім рок-музыкам шанцуе ў паразуменьні з геніяльнай паэзыяй Ларысы Геніюш, але ёсьць сапраўдныя шэдэўры, вартыя памяці Паэткі. Напрыклад, кампазыцыя "Беларуска" гурту "Kriwi" з супольнага праекту "Я нарадзіўся тут" (2000). Ці вось яшчэ гурт "Deadmarsh", які вядомы сваімі "цяжкімі" кампазыцыямі, таксама ж зьвяртаецца да творчасьці паэткі-змагаркі. І хоць нехта можа паціснуць плячыма: маўляў, ці варта сумяшчаць лірыку Геніюш з

мэталічным рокам? Каб знайсьці адказ на гэтыя сумненьні, зьвернемся да развагаў прыдаганага тут Вітаўта Мартыненкі, які ў рэцэнзіі на альбом "Грані" (2003) слушна заўважае: "Здаецца, тонкая лірыка Л. Ґеніюш больш прыдатная "Песьнярам", чым для мэталю "Deadmarsh". Але калі ўзгадаем "Родны кут" зь "песьняроўскага" альбому "Жывем", а пасьля параўнаем з "Родным кутом" гурта "Deadmarsh", дык зьдзівімся тонкаму нэрву й глыбіні акурат мэталічнай вэрсыі твора". ("Музыкальная газета" №17, 2.09.2003).

Мо сапраўды цяжкое канцэртовае гучаньне не зусім у духу Ларысы Ґеніюш, якая ўсё ж цягнулася да песень "не зь вялікіх сцэнаў і эстрад…" Але я ўпэўнены: калі б яна дажыла да нашых часоў, дык зразумела б вытокі сёньняшняй нацыянальнай здрады й дабраславіла выканаўцаў на адстойваньне правоў роднай мовы ўсімі магчымымі сучаснымі музычнымі сродкамі!

Новай старонкай у стварэньні музычнай Ґеніюшыяны стаў і бардаўскі альбом знанага фальклёрнага выканаўцы й майстра Алеся Лася "Сьпяваная паэзыя. Ларыса Ґеніюш" (2003), лепшы трэк зь якога таксама трапіў у гэты трыб'ют – дыск да 95-х угодкаў з дня нараджэньня паэткі. Тут зьмешчаны рознастылёвыя кампазыцыі, што адлюстроўваюць якраз новае прачытаньне вершаў Ларысы Ґеніюш, але апошняя старонка гэтай нацыянальнай скарбонкі далёка не перагорнутая…

У 1999 годзе Беларускі Хэльсынскі камітэт зьвярнуўся ў Пракуратуру Беларусі з хадайніцтвам аб адмене несправядлівага прысуду ў адносінах да Ларысы й Янкі Ґеніюшаў. Пракуратура пераадрасавала зварот у Вярхоўны суд, адкуль зноў прыйшоў адказ-вырок, што лепшая беларуская Паэтка "абгрунтавана прызнана не падлягаючай рэабілітацыі". А прычынаў адмовы ніхто так і не даведаўся, бо паводле ліста зь Вярхоўнага суда "яны могуць быць паведамленыя толькі самой рэпрэсаванай" (Ларыса Антонаўна, нагадаю, памерла ў 1983 годзе).

Такія ўжо яны – чыноўніцкія хітрыкі, як і словы прадстаўніка Мінкульта цяперашняй Беларусі адносна забаронаў канцэртаў і фэстаў лепшых беларускіх рок-зорак (так званыя "чорныя сьпісы"): "Няхай выступаюць!" ("Тузін Гітоў" 4.07.2005). Ці не заканамерная гістарычная паралель? Бо кожны разумее, што ў Беларусі менавіта самыя таленавітыя "абгрунтавана прызнаны не падлягаючымі рэабілітацыі". Такая ўжо рэальнасьць, якая нават у юбілей Паэткі падкрэсьлівае сувязь пакаленьняў: на роднай зямельцы усе мы ня госьці, таму застаецца толькі памятаць, што мы чыесьці і кагосьці…

*Анатоль МЯЛЬГУЙ,*

*музычны крытык, аналітык.*

************************************************

## Алесь Разанаў: найлепшыя нашы прэзыдэнты — Купала, Багдановіч, Колас

**Паэт Алесь Разанаў даў першае пасьля вяртаньня зь Нямеччыны інтэрвію — месячніку беларусаў у Польшчы "Czasopis".**

— Тое, што апошнія чатыры гады я пастаянна жыў у Нямеччыне і Аўстрыі, не было эміграцыяй. Я ня быў уцекачом і не прасіў прытулку, бо знаходзіўся ў Заходняй Эўропе на творчыя запрашэньні.

**— У Менску ўвесь час гаварылася і пісалася, што Вы падаліся ў эміграцыю.**

— У наш час усё, што беларускае, многія хочуць завастрыць ды ідэалягізаваць. Я ж хачу заставацца творцам, і я быў творцам у Гановэры і ў Боне, як стыпэндыят гэтых гарадоў, а пасьля — у аўстрыйскім Грацы. За гэты час выйшлі тры кнігі вершаў, праз месяц выйдзе яшчэ адна, пятая ўжо на нямецкай мове. Больш таго — я ўвайшоў на поле нямецкамоўнай паэзіі і пачаў пісаць па-нямецку. Хаця не зусім дакладна па-нямецку. Я пачаў маляваць нямецкімі словамі. Дзеля гэтага прыдумаў новы жанр, які назваў "worddychte". Гэта новае слова нават для нямецкай мовы і літаратуры.

**— Як успрынялі Вашы спробы нямецкія творцы?**

— Яны згодна сказалі, што такога ў іх яшчэ не было. Хоць я ні ў якім разе не спаборнічаю з нямецкімі паэтамі. Гэта было б бессэнсоўна. Яны сваю мову ведаюць дасканала, як мы сваю, у нюансах. Таму я прапанаваў сваю гульню. А зь Беларусі я прыехаў не адзін, бо ўзяў з сабою кавалак беларускага поля. Яго прызямліў у Нямеччыне і на ім пачаў вырошчваць новыя рэчы, якія сталі новыя і для нямецкай паэзіі.

**— Значыць, Ваш выезд за мяжу быў таксама прамоцыяй беларускай паэзіі ў Эўропе?**

— Безумоўна. Асабліва дзьве кніжкі, якія выйшлі ў Гановэры. Яны на дзьвюх мовах — беларускай і нямецкай. Дзякуючы гэтаму беларуская мова жыўцом увайшла ў кантэкст нямецкамоўнай паэзіі. Я гэта зрабіў, каб падняць статус нашай мовы, літаратуры і паэзіі. Літаратурны цэнтар, які даўней быў у Расеі, цяпер перамясьціўся ў Заходнюю Эўропу. Такую ролю, прынамсі, бярэ на сябе Германія. Раней там сустракаліся эўрапейскія літаратуры, а цяпер усё больш сустракаюцца і постсавецкія. Мае "worddychte" прымусілі нямецкіх творцаў задумацца, як гэта можа быць, што нейкі беларускі паэт прыходзіць у іхняе поле, ублытваецца ў іхнія правілы гульні, парушае іх, робіць нешта, чаго самі яны не змаглі зрабіць.

**— У падобнай сытуацыі доўгія гады былі, здаецца, і беларускія літаратары ў Польшчы, Сакрат Яновіч. Палякі доўгі час не маглі зразумець, што нехта непаляк можа літаратурна пісаць па-польску.**

— Палова французскай літаратуры створана нефранцузамі. Таму нічога дзіўнага, што і нямецкую літаратуру могуць узбагачаць ня толькі немцы. У вас у Польшчы беларусы ўваходзяць у гэта проста натуральна.

Менск зьмяніўся ў лепшы бок

**— Як гэта сталася, што Вы нядаўна вярнуліся ў Беларусь?**

— Я вярнуўся б раней, але выйшла, што, калі канчаўся тэрмін стыпэндыі ў адным творчым доме, запрашаў іншы. Пасьля "Віла Ладбэрту" каля Мюнхена мяне запрасіў дом творчасьці пад Бэрлінам. У Менску бываў толькі кароткімі наездамі, а ў мяне ж сям'я — жонка, дзеці…

**— Як Ваша вяртаньне было ўспрынята афіцыйна — хтосьці гэта заўважыў?**

— Найперш адрэагавала літаратурнае асяродзьдзе. У Менску я доўга не друкаваўся, цяпер трэба кампэнсаваць творчую адсутнасьць у Беларусі. Я ўжо пачаў паказвацца трохі ў пэрыёдыцы і рыхтую ў друк новы том вершаў. Супрацоўнічаю з выдавецтвамі і рэдакцыямі, якія больш-менш не залежаць ад афіцыйнага апарату.

**— Што ў Менску памянялася за той час, як Вы былі ў Нямеччыне і Аўстрыі?**

— Відавочна, Менск зьмяніўся ў лепшы бок. Стаў больш упарадкаваны. Цяпер я не адрозьніваю яго ад эўрапейскіх гарадоў. Менск нават у нечым больш дасканалы ад нямецкіх гарадоў. У нас большая чысьціня і парадак. Сталіца актыўна разбудоўваецца. Людзі, калі іх параўнаць з рэкамі і ручаямі, раней ня мелі выразнага кірунку, куды плысьці. Сплываліся на плошчы, на мітынгі, каб дэманстрацыі далі ім кірунак, куды ўсім цячы далей. На жаль, нічога такога не накрэсьлілі. Але цяпер гэтыя "рэчкі і ручаіны" цякуць сваімі прыватнымі шляхамі. Куды і як цякуць — іншая гаворка. Жыцьцё людзей стала таксама больш упарадкаванае, спакойнае.

**— Чуючы гэта, хтосьці можа сказаць, што Вы хваліце лукашэнкаўскія ўлады.**

— Хачу быць аб'ектыўны. Ёсьць за што пахваліць. За тое, што для простага чалавека. Не для мяне, які ў іншых сфэрах лётае і мае іншыя крытэры ды патрабаваньні. Аднак для звычайнага чалавека рэчаіснасьць стала больш упарадкаваная.

**— А для культуры і беларускасьці?**

— На жаль, тут няма за што хваліць. Найбольшы мінус рэжыму, які пераважвае ўсё станоўчае, — гэта статус Беларусі. Што рэжым прынізіў Беларусь у параўнаньні з іншымі краінамі рэгіёну, гэта ўсюды відаць. Калі ў Вене мне ўручалі літаратурную прэмію, сабраліся паслы ўсіх краін, адкуль былі ляўрэаты. А зь беларускага пасольства прыбыў толькі нейкі маргінальны чыноўнік. Іншыя зьдзіўляліся, не разумелі чаму. Былі таксама надта зьдзіўлены, чаму ўсе паслы гавораць на сваіх мовах, а беларускі чыноўнік — не. Гэта ня робіць гонару лукашэнкаўскай палітыцы ў дачыненьні да моўнага пытаньня, якое самае відавочнае і самае балючае. На ім трымаецца ўсё, ліпіць. Я ўжо даўно сказаў і цяпер паўтараю, што найбольшыя нашы прэзыдэнты — гэта тыя, якія былі калісьці: Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас. Вось яны і ёсьць нашы найлепшыя прэзыдэнты, якія цяпер знаходзяцца ў "эміграцыі". Але яны вяртаюцца і будуць вяртацца. І калісь вернуцца назусім.

Лукашэнкаўская палітыка — яўнае парушэньне прынцыпаў нармальнага жыцьця. Усімі гэта адчуваецца, але не хапае моцы ні адвагі, каб гэтую нязгоду кансалідаваць у патэнцыял, сілу, якая адвярнула б існуючы стан рэчаў.

**— Але тыя, што хочуць тое зрабіць, відавочна, ня ведаюць як.**

— Так. Яны звычайна па інэрцыі ідуць у нейкія арганізацыі, якія, аднак, замест таго каб зьдзяйсьняць самае галоўнае, пачалі проста прыстасоўвацца да акалічнасьцяў.

**— Ці ёсьць у паўсюдна расейскамоўнай сёньняшняй беларускай краіне хаця б адзін літаратар, які па-расейску добра піша?**

— Ведаю многіх літаратараў, якія дзесяцігодзьдзямі пісалі па-расейску. Некаторыя нанава пачынаюць так пісаць. Але які з гэтага набытак, цяжка мне сказаць. А тыя, што пішуць па-беларуску, таксама занадта падзяліліся на нейкія выспачкі, кладкі, кавалачкі. Ёсьць пісьменьнікі, якія друкуюцца ў "Полымі". Іншыя нават не хацелі б там друкавацца, таму што гэта нібыта пад дахам рэжымнага холдынгу. Але дзе ім друкавацца? Я лічу, што беларускае слова павінна гучаць усюды там, дзе яно можа. Адзінае — каб без цэнзуры. Калі ёсьць такая магчымасьць, не глядзіце, што гэта левыя там ці правыя, бел-чырвона-белыя ці зялёна-чырвоныя. Друкуйцеся. Беларуская літаратура больш старажытная і важкая, чым гэтыя распадзелы, якія ў нечым умоўныя.

**— Над чым цяпер працуеце?**

— Спадзяюся, што да канца году выйдуць дзьве мае кніжкі, у якія ўвайшлі неапублікаваныя творы папярэдніх гадоў.

**— Выйдуць у холдынгу?**

— Не, у незалежным выдавецтве. За час нямецка-аўстрыйскай вандроўкі шмат назьбіралася ў мяне нататак, якіх таксама хачу зьвесьці ў асобны літаратурны твор.

**— Ці бачыце Вы надзейных маладых беларускіх літаратараў?**

— Я бачу многа маладых, якія пішуць. Важна, што многія пішуць па-беларуску. Нягледзячы на прэсінг расейскай мовы, якая запоўніла ўсе шчыліны і гучыць з усіх чыноўніцкіх вуснаў. Веру, што яны — тая сіла, якая здольная супрацьстаяць гэтай плыні.

**— У сёньняшняй Беларусі існуе парадокс. Народ гаворыць на адной мове, літаратура ствараецца на другой. Такога больш у сьвеце няма.**

— Аказваецца, Беларусь багатая на незвычайнасьці *(сьмяецца).*

**Гутарыў Юрка ХМЯЛЕЎСКІ**

************************************************

## "Не пакідайце мовы беларускай, каб не ўмёрлі..."

З'езд Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, які адбыўся 30 кастрычніка ў Менску, прыняў цэлы шэраг праграмных заяў. Поўны змест гэтых дакументаў глядзіце

**Зварот IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на прадмет адкрыцця Нацыянальнага універсітэта**

Беларускамоўная школьная адукацыя знаходзіцца ў крытычным стане. Штогод скасоўваюцца беларускія школы ў гарадах і вёсках. Колькасць дзяцей, якія навучаюцца па-беларуску скарацілася значна ніжэй за прыняты ЮНЕСКА мінімум, неабходны для выжывання мовы. Моўны рэжым у шматлікіх школах не вытрымліваецца, зарэгістраваныя выпадкі адмовы ў магчымасці навучання па-беларуску.

Нягледзячы на такое цяжкае становішча, 301 250 дзяцей, або 23,8% моладзі краіны, што навучаюцца па-беларуску ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах, і іх бацькі вераць у магчымасць працягнуць адукацыю на роднай мове ў вышэйшых навучальных установах. Ні ў існых дзяржаўных, ні ў прыватных ВНУ магчымасці для гэтага не створаны: адсутнічаюць беларускія плыні, колькасць беларускамоўных групаў мізэрная. Наяўная сітуацыя супярэчыць канстытуцыйнаму праву грамадзян Беларусі атрымліваць адукацыю на дзяржаўнай беларускай мове згодна артыкулам 32 Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і артыкулам V.2 Пастановы Міністэрства адукацыі № 48 "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" ад 27.08.2001 г.

Мы звяртаемся да кіраўніцтва Беларускай дзяржавы з просьбай адкрыць Нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх прадметаў на дзяржаўнай беларускай мове. Воля грамадзянаў Беларусі атрымліваць вышэйшую адукацыю па-беларуску і гарантаваць гэтую магчымасць сваім дзецям выразна адлюстравана ў 50 000 подпісаў за стварэнне Нацыянальнага універсітэта, сабраных ТБМ. Лічым абавязковым прыслухацца да волі грамадзянаў краіны і распачаць працу па адкрыцці адпаведнай навучальнай установы ў найбліжэйшы час. 50 тысяч грамадзянаў не могуць памыляцца!

**Зварот IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" "Аб адносінах Еўрапейскай Камісіі да мовы інфармацыйнага вяшчання на Беларусь"**

Мы, удзельнікі IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", рашуча выступаем супраць моўнай палітыкі, якая апошнім часам праводзіцца Еўрапейскай Камісіяй у дачыненні да Беларусі.

Яскравым прыкладам гэтай палітыкі з'яўляецца сітуацыя вакол "Нямецкай хвалі". Выклікае неразуменне той факт, што правы на вяшчанне атрымала кампанія, прадстаўнікі якой пагаджаюцца з суб'ектыўным сцверджаннем кшталту "На беларускай мове размаўляюць неадукаваныя сяляне, якія супраць незалежнасці, а на рускай – адукаваныя, і якія за незалежнасць", і дазваляюць сабе выказванні тыпу "За беларускую мову выступае невялікая група апазіцыянераў".

Усё гэта наводзіць на думку пра няведанне і неразуменне сітуацыі ў Беларусі не толькі асобнай кампаніяй, але і ў Еўрапейскай Камісіі, адзін з

прадстаўнікоў якой заявіў, што большасць насельніцтва Беларусі – гэта этнічныя рускія.

Паколькі Еўрапейская Камісія збіраецца і далей пашырыць праграму інфармацыйнага вяшчання на Беларусь, мы заклікаем арганізаваць тэндэр сярод кампаній тых краін Еўразвязу, якія яшчэ нядаўна зведалі на сабе ціск савецкай каланіяльнай сістэмы – таталітарызм, русіфікацыю, рэлігійны ўціск і г. д., якія непасрэдна мяжуюць з Беларуссю і палітычныя эліты якіх больш разумеюць сітуацыю ў нашай краіне ды значэнне беларускай мовы ў дэмакратызацыі грамадства.

**Зварот IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да ўдзельнікаў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2006 г.**

Шаноўныя суайчыннікі!

Неўзабаве нас чакае чарговая кампанія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. З гэтай нагоды мы звяртаем Вашу ўвагу на галоўную нацыянальную і дзяржаўную прыкмету – беларускую мову. Кіраўнікі краіны прыходзяць і адыходзяць, а народ і мова яго застаюцца. Пакуль жыве беларуская мова – жыве і наш народ, жыве наша нацыянальная дзяржава. Рускамоўная Беларусь існаваць самастойна ня зможа. Пацверджаннем таму з'яўляецца наша бліжэйшая гісторыя.

Мы, удзельнікі IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", звяртаемся да ўсіх удзельнікаў выбараў: кандыдатаў у прэзідэнты, супрацоўнікаў выбарчых камісій і выбарцаў з прапановай шырока выкарыстоўваць родную беларускую мову, асабліва пад час агітацыі і ў дзень выбараў. Гэтым Вы замацуеце нашу незалежнасць і яшчэ раз засведчыце, што на палітычнай карце свету існуе самастойная краіна Беларусь.

**Зварот IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" "Аб становішчы беларускай мовы ў тэлевізійным вяшчанні"**

У апошнія некалькі гадоў доля беларускамоўнага вяшчання на дзяржаўных тэлеканалах прыкметна скарацілася. Так, на Першым нацыянальным канале па-беларуску выходзіць толькі 6 праграм. На канале "Сталічнае тэлебачанне" аб'ём вяшчання на беларускай мове складае менш за 10%. У перадачах тэлеканала "АНТ" беларуская мова практычна не ўжываецца зусім. Выпускі навінаў Першага нацыянальнага тэлеканала выходзяць выключна на рускай мове, не звяртаючы ўвагі на масавыя пратэсты грамадзян Беларусі. Узровень валодання дзяржаўнай беларускай мовай некаторых вядоўцаў недаравальна нізкі: яны нават не могуць адказваць па-беларуску сваім суразмоўцам.

Нягледзячы на наяўнасць пазітыўнай дынамікі ўжывання беларускай мовы на канале "ЛАД" (каля 50%) і планы "СТВ" павялічыць аб'ём вяшчання па-беларуску да 20%, відавочнае парушэнне правоў беларускамоўных грамадзян атрымліваць інфармацыю на роднай мове. З гэтай нагоды мы звяртаемся да кіраўніка Беларускай дзяржавы з патрабаваннем забяспечыць усім грамадзянам краіны гарантаванае Канстытуцыяй права атрымліваць інфармацыю праз тэлебачанне на дзяржаўнай беларускай мове ў аб'ёме не меншым, чым на другой дзяржаўнай мове.

**Ухвала IX з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" "Сучасны стан і перспектывы развіцця беларускай мовы"**

Сённяшняя моўная сітуацыя ў Беларусі наўпрост звязана з працэсамі дэмакратызацыі і ўзмацнення грамадскай актыўнасці. Як паказваюць нашы акцыі па зборы подпісаў, грамадзяне актыўна выступаюць за належнае месца дзяржаўнай беларускай мовы ў радыё- і тэлеэфіры, у сферы банкаўскіх паслуг, у развіцці гандлю, у рэкламатворчасці.

Беларуская мова пад ціскам грамадзянаў пашырае сваё функцыянаванне і ўваходзіць у жыццё як арганічны элемент сучасных дынамічных сродкаў камунікацыі. Валоданне беларускай літаратурнай мовай становіцца прыкметай "добрага тону" і сведчыць аб прыналежнасці носьбіта да высокаадукаванай часткі грамадства, не проста нацыянальна сведамай, але з выразна акрэсленай патрыятычнай грамадзянскай пазіцыяй.

Створаны пэўныя перадумовы для паспяховага функцыянавання беларускай мовы ў заканадаўчай сферы. Аднак застаецца шэраг неразвязаных праблемаў з ужываннем беларускай мовы ў сферы адукацыі і на тэлебачанні. Менавіта гэтыя сферы патрабуюць штодзённага пільнага грамадскага кантролю…

***

# ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ**

….Я сустрэлася з Мілінкевічам. Мы размаўлялі амаль дзве гадзіны…

— Аляксандр Уладзіміравіч, Вы не раз казалі пра тое, што самым слабым месцам у сваёй біяграфіі лічыце той факт, што двойчы жанаты. Чаму? Вам ёсць што хаваць? Можа, пакінулі першую жонку без кватэры і сродкаў існавання?

— Гэта не слабае месца, а выгаднае для афіцыйнай прапаганды. Беларускае тэлебачанне можа сказаць: двойчы жанаты, значыць, ненадзейны мужчына...

— А Вы — надзейны?

— Так. Аб гэтым могуць сказаць абедзве мае жонкі. У мяне захаваліся выдатныя адносіны з першай жонкай. Дарэчы, і былая, і цяперашняя жонкі сустракаюцца, разам п'юць каву. У іх нармальныя адносіны…

— Жанчыны, якія кахаюць аднаго мужчыну, не часта сябруюць паміж сабой…

— У большай ступені гэта заслуга першай жонкі...

— Чаму, калі не сакрэт, распаўся Ваш шлюб?

— Пытанне вельмі асабістае, не хочацца пра гэта шмат казаць…

— Але ж Вы — публічная асоба. Не схаваешся...

— Разумею, што гаварыць пра прыватнае жыццё давядзецца, аднак я ж не абавязаны расказваць абсалютна ўсё, пэўныя рэчы хочацца пакінуць толькі для сябе... Падчас бываюць у сямейным жыцці такія моманты, калі разумееш, што лепш разысціся, чым жыць далей, бо вы больш не муж і жонка. Я лічу, мы абодва вінаватыя ў тым, што сям'я распалася. Развод — вельмі балючая рэч…

— Чамусьці лічыцца, што мужчыны лягчэй перажываюць разрыў…

— Я вельмі пакутаваў. Было страшэнна балюча і цяжка. Але калі застаўся б у сям'і — была б нейкая няпраўда ў адносінах.

— Таму сышлі да палюбоўніцы?

— Не, другой жанчыны не было, была іншая прычына... Здараецца, што сыход лечыць лепш, чым спробы захаваць сям'ю.

— Вы сышлі як сапраўдны мужчына, прыхапіўшы толькі ўласныя рэчы, пакінуўшы жонцы кватэру, альбо...?

— Першая жонка засталася жыць у доме, які калісьці належыў маім бацькам. А я пераехаў на вёску, там у мяне напалову дом—напалову дача. Мы ўвогуле нічога не дзялілі, паводзілі сябе вельмі прыстойна.

— Расказваюць, што Мілінкевіч — прозвішча Вашай першай жонкі…

— У мяне прозвішча ад маці. У бацькі не вельмі мілагучнае прозвішча. Калі трэба было выбіраць прозвішча, якое будзе запісана ў пашпарце, я выбраў матчына. І старэйшы брат таксама. Гэта было адразу пасля школы. Так што гэта гісторыя "з барадой".

— Між іншым, пра бараду. Чула, што паліттэхнолагі пераканаўча раілі Вам пагаліцца… ...

— На мой погляд, барада мне пасуе. Падчас апошніх парламенцкіх выбараў давялося шмат ездзіць па вёсках. Бабулькі гаварылі: "Сыночак, ты добра пра ўсё распавядаеш, але бараду пагалі...". Я паўжартам адказаў, што барада вельмі падабаецца жонцы і таму я ніколі не пагалюся.

— Відаць, пасля гэтай гісторыі Вас і пачалі называць "подкаблучником"...

— Я чалавек спакойны, ураўнаважаны і некаму можа здавацца, што я не дыктую сваю волю, Мяне маці выхавала ў вялікай павазе да Жанчыны, якая для мяне — цудоўнае боскае тварэнне. Прысутнасць побач каханай вельмі многа значыць для майго духу. Мая сіла ў тым, што я магу кахаць. Калі мужчына не здольны кахаць, паважаць жанчыну — ён слабы…

— Лукашэнка не раз падкрэсліваў, што яго падтрымліваюць жанчыны. Вы таксама робіце стаўку на прыгожую палову чалавецтва?

— Несумненна. Я люблю прыгажосць. Дый па шчырасці, калі размаўляю з людзьмі, то мне лягчэй знайсці кантакт менавіта з жанчынамі…

— Вы лічыце сябе харызматычным палітыкам? Модная расійская пісьменніца Аксана Робскі ў адной са сваіх апошніх кніжак заўважыла, што ва ўяўленні жанчын харызматычны — гэта перш за ўсё сексуальны. Робскі сцвярджае, што ўлада ўвогуле сексуальна…

— У адносінах мужчыны і жанчыны заўсёды існуе сексуальнасць, нават там, дзе сексу няма. Не ведаю, наколькі я сексуальны з пункту гледжання жанчын, але я ніколі не быў абдзелены жаноцкай увагай. Хаця не скажу, што я — лавелас. Дарэчы, я вельмі сур'ёзна стаўлюся да кахання.

— Чаму Вы носіце заручальны пярсцёнак на левай руцэ?

— У Еўропе так носяць. Я не хачу сказаць, што я ўвесь такі еўрапейскі... Проста лічу, што паколькі першы раз насіў пярсцёнак на правай руцэ, то другі раз варта надзець на левую. Каб не паўтарацца…

— Зянон Пазьняк заявіў, што будзе балатавацца ў прэзідэнты. Вы лічыце яго сур'ёзным праціўнікам?

— Лепш за ўсё, каб дэмакратычныя сілы Беларусі мелі аднаго кандыдата. Толькі супольная кампанія будзе паспяховай, пераможнай. Пазьняк — гістарычная асоба для сучаснай Беларусі. У многіх людзей ён карыстаецца вялікай павагай, некаторыя яго не церпяць. Ці будзе ён маім праціўнікам — пакажа час. Канешне, шкада, калі дэмакратычныя кандыдаты будуць спаборнічаць паміж сабой. Калі на адной вуліцы пачнуць агітаваць за аднаго, на другой — за другога, "адзінаму" будзе даволі цяжка завабліваць сімпатыі людзей. На мой погляд, падчас прэзідэнцкіх выбараў будзе конкурс не прэтэндэнтаў альбо іх праграм. Людзям прыйдзецца выбіраць, якой яны хочуць бачыць Беларусь. Дзяржавай самаізаляванай, таталітарнай, якая жыве ў страху, альбо вольнай, дэмакратычнай, заможнай, адкрытай для іншых краін.

— Пазьняк назваў выбар адзінага прэтэндэнта ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл разбуральным сцэнарыем для Беларусі, а сам Кангрэс — "чарговым спектаклем, які арганізавала падстаўная апазіцыя". Пазьняк лічыць, што беларуская апазіцыя стала прафесіянальнай і ператварыла сваю апазіцыйнасць у бізнес...

— Я не раблю бізнес на палітыцы і не падзяляю гэтыя погляды Пазьняка. Я — беспартыйны, але з самага пачатку падтрымліваў партыйную кааліцыю. Можна што заўгодна казаць пра партыі, але без іх падтрымкі сур'ёзную прэзідэнцкую кампанію не зробіш. Кааліцыя, як, дарэчы, і адзіны прэтэндэнт — такі ж інструмент, як рыдлёўка. Калі яе няма, як будзеш поле капаць? Вельмі добра, што ў кааліцыю ўваходзяць людзі самых розных поглядаў, што ў мяне кіраўнік штаба — камуніст, а я бліжэй духам да кансерватыўных поглядаў. Нам усім аднолькава абрыдла так жыць. Мы не гаворым пра погляды. Змагаемся не за ідэалогію, а за праўду. Мы хочам жыць у дэмакратычнай і вольнай Беларусі. Я не лічу, што калі сябрую ў кааліцыі з кімсьці "неадпаведным", гэта значыць, што я здрадзіў самому сабе. Я ад сваіх перакананняў не адмаўляўся нават тады, калі ва ўладзе быў. У мяне стабільныя погляды і гэта, магчыма, адна з прычын, чаму да мяне многія ставяцца з павагай.

— Акрамя Пазьняка пра свае прэзідэнцкія амбіцыі ўжо заявілі Казулін, Краўчанка і іншыя так бы мовіць "дзікарослыя" палітыкі. Калі іх зарэгіструюць, як простаму чалавеку сярод некалькіх быццам бы дэмакратаў вылучыць самага "адзінага"?

— Ясна, што на лбе ў сябе не напішаш, што ты — "адзіны". І за "адзіным" стаіць вялікая колькасць людзей, партый, грамадскіх аб'яднанняў, арганізацый. І я разлічваю на іх дапамогу. А за многімі палітыкамі, якіх я паважаю (гавару абсалютна шчыра, а не таму, што даю інтэрв'ю), альбо ўвогуле нікога няма, альбо вельмі мала людзей. Таму я лічу, што ўсім трэба аб'ядноўвацца вакол большасці. Бо, сапраўды, калі зарэгіструюць некалькі прэтэндэнтаў-дэмакратаў, людзі будуць расчараваныя…

— Ды не тое што расчараваныя, а блытаніна адбудзецца. І як Вы тады будзеце змагацца з гэтымі прэтэндэнтамі на прэзідэнцкую пасаду? Пры дапамозе "чорнага піяру"?

— Ні ў якім разе! На мой погляд, нават супраць Лукашэнкі занадта многа "чорнага" не трэба. А можа, і ўвогуле не трэба. А супраць аднадумцаў тым больш гэтага ніколі не зраблю! Гэта проста не па-мужчынску. Але маю надзею, што мы яшчэ будзем сустракацца з калегамі, размаўляць і, можа, мы ўсё ж такі аб'яднаемся... Я таксама перакананы ў тым, што падчас прэзідэнцкай кампаніі не варта казаць: маўляў, галасуйце за антыЛукашэнку. Паўтараю: трэба паказаць, што Мілінкевіч і Лукашэнка па-рознаму бачаць будучае нашай краіны.

— Хачу ўдакладніць: Вы будзеце гаварыць пра тое, якая Беларусь няшчасная пры Лукашэнку ці аб тым, якая яна будзе шчаслівая пры Мілінкевічу?

— Я не сказаў бы, што зараз Беларусь зусім такая няшчасная, але гэта не заслуга ўлады, а заслуга саміх людзей. Беларусы — народ працавіты, яны змогуць зарабляць на хлеб нават пры не вельмі добрай уладзе. Я разлічваю на падтрымку людзей неабыякавых, на тых, каму абрыдла баяцца і клапаціцца толькі пра надзённае. Страх страшэнна прыніжае годнасць чалавека, робіць слабым і яго самога, і краіну. Для мяне галоўнае — сказаць людзям, што можна жыць інакш, дастойна.

— Але Вы ўсё роўна будзеце нешта абяцаць. Напрыклад, на выбарах у 1994 годзе Лукашэнка абяцаў знішчыць карупцыю, вярнуць насельніцтву згарэўшыя ўкладанні. У 2001 годзе Уладзімір Ганчарык абнародаваў скандальныя дакументы, якія тычацца гучных знікненняў. У Расіі напярэдадні парламенцкіх выбараў Уладзімір Жырыноўскі паабяцаў кожнай жанчыне — двух мужчын. Што будзе Вашай казырнай картай?

— Мы (я не вельмі хацеў бы казаць "я", бо лічу сябе абсалютна камандным чалавекам, без каманды я нішто) абяцаем чэсную палітыку, палітыку для чалавека. Гэта вельмі сур'ёзнае абяцанне, бо сёння мала хто верыць, што ўлада можа быць справядлівай і адказнай. Многія цяперашнія чыноўнікі крадуць, хамяць, бяруць хабар. Праблема ўлады ў тым, што яна прызначаецца зверху. Адпаведна і дагаджае таму, хто прызначыў. Новая ўлада будзе сапраўды абірацца людзьмі, яна будзе залежыць ад іх, клапаціцца пра народ. Лукашэнка абяцае стабільнасць, мы — за перамены, як і большасць беларусаў. Яго стабільнасць — захаванне страху, самаізаляцыі краіны, адсутнасць перспектыў. Нашы перамены — шлях да цывілізацыі, культуры, свабоды і справядлівасці.

— І ўсё ж такі: дагэтуль з Вашых вуснаў не прагучала зразумелага паслання асноўным групам

беларускага грамадства. Невядома, што Вы прапануеце студэнтам, пенсіянерам, і чым Вашыя ідэі адрозніваюцца ад абяцанкаў Лукашэнкі?

— На Кангрэсе была прынята платформа Аб'яднаных дэмакратычных сіл. Хутка з'явіцца і больш канкрэтная, падрабязна выкладзеная праграма.

— Існуе такое меркаванне: калі Лукашэнка пойдзе на прэзідэнцкія выбары, апазіцыі трэба катэгарычна адмовіцца ад удзелу ў іх. Бо, нягледзячы на вынікі галасавання, ізноў абвесцяць "элегантную перамогу"...

— Я за тое, каб дэмакратычныя сілы Беларусі абавязкова ўдзельнічалі ў выбарах і данеслі да кожнай вёскі, кожнай хаткі сваё бачанне цывілізаванай Беларусі. Мы будзем дамагацца таго, каб выбары былі празрыстымі і справядлівымі.

— Для гэтага як мінімум трэба змяніць Выбарчае заканадаўства.

— У 1990 годзе заканадаўства было яшчэ горшым, але дэмакраты працавалі і ў мясцовых Саветах, і ў парламенце. Я лічу, што трэба ставіць перад сабой рэальныя задачы. Лукашэнка змяняў заканадаўства не для таго, каб потым дазволіць нам выйграць выбары. Таму напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў такой канкрэтнай мэты, як змена Выбарчага заканадаўства, мы не дасягнем. Але нішто не перашкаджае нам даносіць да людзей праўду, прасіць, каб яны не хадзілі на папярэдняе галасаванне...

— Вядома, што да ўсіх Вы проста фізічна не дойдзеце. А голасу апазіцыі не чуваць ні на тэлебачанні, ні на радыё, якія глядзяць і слухаюць пераважная большасць беларусаў. Як Вы ўвогуле збіраецеся прарываць інфармацыйную блакаду?

— Мы мусім дайсці да большасці. Дзякуй, што сёння ёсць масавая незалежная газета "Народная воля", іншыя, у тым ліку рэгіянальныя сродкі масавай інфармацыі, Інтэрнэт. І я буду рабіць усё, што ад мяне залежыць, каб незалежныя газеты выдаваліся большымі тыражамі, каб яны маглі трапіць да людзей.

— Але Вы не раз казалі: "Баюся, што напярэдадні выбараў, закрыюць газеты, ліквідуюць грамадскія аб'яднанні, забароняць партыі". Што робіце, каб гэтага не адбылося?

— Бясконца заціскаць людзей немагчыма і бессэнсоўна. Такія метады толькі набліжаць развязку. Але я супраць таго, каб гэтая развязка была крывавая. Я катэгарычна супраць узброенага паўстання, не жадаю, каб пралілася чыясьці кроў. Калі мы заклічам людзей выйсці на вуліцу, гэта будзе абсалютна мірная акцыя, без усялякіх пагроз насілля з нашага боку.

— Вы самі казалі пра тое, што людзі сёння запалоханыя. Многія баяцца ісці на плошчу, побач з якой стаяць БТРы, амапаўцы з дубінкамі ў руках. І гэты страх цяжка пераадолець...

— Канешне, калі ў нас не атрымаецца добрая мабілізацыйная кампанія, людзі не выйдуць на плошчу. Але выйдуць, калі мы пераможам у іх розумах. Калі яны зразумеюць, што тых, хто хоча перамен — большасць. Я не кажу, што на плошчу выйдзе ўся Беларусь, але значная частка людзей, думаю, будзе адстойваць свой выбар.

Упэўнены: у нас ёсць 100-працэнтная магчымасць дайсці да людзей, бо яны хочуць ведаць праўду і таму з задавальненнем з намі сустракаюцца. Вопыт прэзідэнцкай кампаніі 2001 года паказвае, што, напрыклад, рэйтынг Сямёна Домаша літаральна з нуля дайшоў да 25 працэнтаў. І рос нават пасля таго, як Домаш зняў сваю кандыдатуру...

— Не збіраецеся прапанаваць Домашу працу ў сваім штабе?

— Я з Домашам у добрых сяброўскіх адносінах. Так выпадкова атрымалася, што мой дом у Гродне — праз плот з домам Домаша. Я вельмі паважаю гэтага чалавека і шкадую, што ён сышоў з палітыкі. Сёння Домаш займаецца бізнесам. Напэўна, ён усцешаны маёй перамогай, але думаю, што ў выбарчай кампаніі-2006 ён удзельнічаць не будзе.

— Аляксандр Уладзіміравіч, з Вашых адказаў я не зразумела: Вы лічыце, што Лукашэнка мае права браць удзел у будучых прэзідэнцкіх выбарах?

— Не мае Лукашэнка такога права. Я катэгарычна супраць, каб ён удзельнічаў у выбарах.

— Адной Вашай нязгоды малавата будзе....

— Па-першае, трэба даносіць да людзей інфармацыю аб тым, што ён не мае на гэта права, увесь час нагадваць ім аб гэтым. Па-другое, неабходна ад самога Лукашэнкі патрабаваць, каб ён не ўдзельнічаў у выбарах. Думаю, гэта будзе рабіць і міжнародная супольнасць.

— Сваё выступленне на Кангрэсе Вы скончылі словамі: "У 1991 годзе Беларусь набыла незалежнасць, у 2006-м набудзе свабоду назаўсёды!" А калі не набудзе — застрэліцеся, як прадпісвае кодэкс афіцэрскага гонару?

— Калі не верыць у перамогу, не варта іншых заклікаць ісці за табой на барыкады. Я абсалютна веру, што мы ў стане перамагчы. Але перамога залежыць не толькі ад Мілінкевіча, але і ад працы, смеласці і мужнасці тысяч людзей.

— Наколькі мне вядома, Вы пакуль не рабілі канкрэтных прапаноў аб супрацоўніцтве таму ж Фралову, Парфяновічу, Вайтовічу, Лявонаву і іншым...

— Многім выдатным палітыкам ад мяне раней паступалі і яшчэ будуць паступаць прапановы. Напрыклад, ёсць Нацыянальны камітэт, які павінен стварыць праграму рэформ на Беларусі ва ўсіх галінах. І там досвед гэтых асоб можа быць цалкам выкарыстаны. А ўвогуле, працы — больш чым людзей.

— Зараз ствараецца так званы ценявы ўрад. Як гэтая структура будзе супрацоўнічаць з дзеючым урадам? Ці існуюць ужо дамовы аб сустрэчы за нейкім "круглым сталом"?

— Я не вельмі схільны называць Нацыянальны камітэт "ценявым урадам", таму што ў нармальных краінах ценявы ўрад — гэта людзі, якім апазіцыя прапануе замяніць міністраў. Мы ніякіх міністраў сёння прызначаць не збіраемся. Гэта не ўрад, а група экспертаў, якія аналізуюць сённяшнюю сітуацыю, раяць, што рабіць далей. Хто будзе ў будучым урадзе? Не толькі апазіцыя. Мы выдатна разумеем, колькі прафесіяналаў сёння працуе ва ўладзе на ўсіх узроўнях. І не збіраемся выкідваць іх адразу з працы. Усе тыя, хто можа быць карысны Беларусі і не здзейсніў злачынства, будуць працаваць і далей.

— Прайшоў ужо амаль месяц, як Вы сталі "адзіным". За гэты час людзі не сталі ведаць пра Вас больш. Вы не арганізавалі ніводнай акцыі...

— Усё яшчэ наперадзе...

— Мне вельмі не спадабаўся выраз у адным з Вашых інтэрв'ю: "Я нявопытны палітык і таму імкнуся ў сваіх інтэрв'ю не раздражняць Маскву". Ці не занадта высокая самаацэнка? Магчыма, нехта скажа: "А хто ён такі, што Масква павінна прыслухоўвацца да ягоных слоў?" Напрыклад, маскоўскія паліттэхнолагі заўважаюць, што Расія ніколі не зробіць стаўку на Мілінкевіча. Ці знайшлі Вы ўплывовых расійскіх саюзнікаў?

— Я ніколі так не гаварыў, гэта скажоная інфармацыя. Будучыня Беларусі залежыць не столькі ад Расіі і ад Амерыкі. Яна залежыць перш за ўсё ад нас. Змяніць сітуацыю здольны толькі мы самі. Але ў Маскве ўважліва сочаць за падзеямі, якія разгортваюцца ў Беларусі. Беларуская ўлада спрабуе ў Расіі стварыць міф, што на змену сённяшняму кіраўніку дзяржавы могуць прыйсці толькі нацыяналісты-фашысты, што дэмакратычныя сілы Беларусі — ворагі Масквы. Што тычыцца ўплывовых саюзнікаў, то аб ёй ужо заявілі такія партыі, як "Саюз правых сіл" і "Яблоко".

— Вас не палохае, што Лукашэнка даволі спакойна паставіўся да таго, што Вас абралі "адзіным"?

— Лукашэнка спрабуе трымаць удар. Зусім нядаўна ён казаў, што на Кангрэс прыедзе ўсяго сто чалавек. А было больш за тысячу. Прыехалі, нягледзячы на жорсткі пераслед. Ён казаў, што не абяруць "адзінага". Абралі. Казаў, што кааліцыя развяліцца. Не развалілася. Умацоўваецца і пашыраецца.

— Я ўважліва назірала за Вамі падчас інтэрв'ю, бачыла, што адны пытанні Вас шакіравалі, другія проста не зусім падабаліся. Аднак Вы вельмі спакойна, без усялякіх эмоцый на ўсе адказвалі. Вы калі-небудзь зрываецеся на крык, павышаеце голас?

— Вельмі рэдка. Крычаць толькі слабыя. Праўда, некалькі разоў у жыцці мяне вымусілі перайсці на крык. І я аб гэтым вельмі шкадую...

— Нядаўна Аляксандр Бухвостаў заявіў, што журналісты, крытыкуючы апазіцыю, тым самым дыскрэдытуюць яе. Як Вы ставіцеся да крытыкі, якая гучыць на Ваш адрас?

— Крытыкаваць абавязкова трэба. Але я супраць агульнага, неканструктыўнага ахайвання, супраць знішчэння парасткаў надзеі, якая з'яўляецца ў пэўны момант. Напрыклад, мяне не так даўно моцна пакрытыкавала газета "Наша ніва". Мне было балюча чытаць той артыкул, але практычна ўсё, што там напісана, для мяне добрая школа. Пакуль я магу глядзець на сябе збоку...

— Цікава, наколькі Вас хопіць...

— Не ведаю... (Смяецца. — М.К).

— Вы азартны чалавек?

— Рацыянальны.

— Якая перашкода Вам не па плячы?

— Здаецца, я такі моцны!.. З таго, што магу і планую — усё па плячы.

— Як працуеце над сваім іміджам?

— Пакуль займаюся ім самастойна, прыслухоўваючыся да сяброўскіх заўваг і парад. У бліжэйшай будучыні пачну працаваць з прафесійнымі айчыннымі спецыялістамі — стылістамі, сацыёлагамі, псіхолагамі, іміджмейкерамі.

— Што б Вы хацелі змяніць у сабе?

— Трэба вучыцца больш яскрава прамаўляць. Бо на Кангрэсе я выступіў слабей, чым магу. Вельмі хваляваўся. Буду працаваць над тым, каб прамовы былі больш выразныя, энергічныя, тэмпераментныя, бо я спакойны крыху, меланхалічны чалавек. Для палітыка гэта не зусім добра.

— Дарэчы, што хаваецца за Вашай знешняй мяккасцю і нерашучасцю?

— Ніхто не скажа, што Мілінкевіч — бесхарактарны. Калі прымаю рашэнне — іду да канца.

— Існуе меркаванне, што ўлады прагнуць закамплексаваныя мужчыны...

— Комплексаў не маю. Я ўжо некалькі разоў казаў, што ў мяне няма неабмежаванага жадання ўладарыць. Я іду ва ўладу не для таго, каб адчуць, што ад мяне залежаць лёсы мільёнаў людзей. Лічу, што для прыстойных людзей улада — гэта спосаб рабіць дабро. Не люблю выраз: "Палітыка — брудная справа". Калі ў цябе брудныя рукі, дык усё, да чаго дакранешся, зробіцца брудным...

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ЯК ДАЙСЬЦІ ДА СВАЙГО, РОДНАГА?

***На вялікі жаль, у XXI стагоддзі на зямлі нашай Бацькаўшчыны развялося мноства гора-пракракаў, якія з амаль вар'яцкім задавальненнем прадказваюць канец Беларусі. Маўляў, вымірае нацыя - і ўжо ніякага паратунку няма. Штодня бачыш і чуеш ныцікаў, якія скуголяць: і гэта дрэнна, і тое дрэнна, а ўсё айчыннае горшае, чым заморскае. Нават назву "Рэспубліка Беларусь" некаторыя не хочуць вымаўляць. Але, мне думаецца, нам трэба вучыцца любіць сваё, тутэйшае, айчыннае, беларускае - інакш з намі не захоча мець зносін цывілізаваны сьвет***

Мне падаецца, у многім такая нелюбоў да Айчыны назіраецца з-за таго, што развялося шмат "квасных" патрыётаў, людзей перакаці-поле, якім толькі трэба смачна паесці ды задаволіць свае прыродныя інстынкты. А колькі вакол добрага і светлага! Услед за аўтарам кнігі "Пачакай, затрымайся..." Аленай Васілевіч хачу звярнуцца да многіх: пачакайце, затрымайцеся на імгненне, паглядзіце, як прыгожа вакол! Зрабі гэта так, як здолела паглядзець на навакольны свет пісьменніца з сям'і ляснога аб'ездчыка, з засценка Даманшчына (цяпер вёсачка Ліпнікі Слуцкага раёна).

Нягледзячы на рознага роду катаклізмы, беларускі этнас узнёсся за апошнія дзесяцігоддзі на пачэснае месца сярод еўрапейскіх народаў, значна ўзрасла нацыянальная самасвядомасць. Беларусь - цудоўная краіна: тут прыгожая ў сваёй някідкасці і прастаце прырода. Дарэчы, выраз "сінявокая Беларусь" увёў у нашу культуру ўкраінскі паэт Уладзімір Сасюра. А вялікі сын гераічнай аршанскай зямлі Уладзімір Караткевіч напісаў нарыс "Зямля пад белымі крыламі" спачатку для ўкраінскага чытача: яму ж так хацелася распавесці пра цуды зямлі бацькоўскай. Назва кнігі даўно ўжо стала крылатай, як і птушка бусел - сімвалам Беларусі.

Я зачараваны гэтай птушкай: згодна павер'ям, яе нельга знішчыць, інакш забойцу ці яго сямейнікаў спасцігне гора. Ды і сам мой народ нечым нагадвае бусла - прыгожага, адметнага і непаўторнага.

У нас маляўнічыя лясы, азёры. Варты захаплення балоты і лясы Палесся - гэтага загадкавага і экзатычнага краю, які ўслаўлялі сын Стаўбцоўшчыны Якуб Колас, сын Хойніцкай зямлі - Іван Мележ, сын Калінкавіцкага краю - Віктар Казько, дачка Пінскай старонкі - Яўгенія Янішчыц і многія іншыя. А за азёры Віцебшчыну нездарма завуць Паазер'ем. А хіба можна не ўспомніць знакамітае возера Нарач, якое выгадавала песняра Мядзельскай зямлі Максіма Танка? А Свіцязь! Гэтае возера на Навагрудскай зямлі натхняла Адама Міцкевіча. Аркадзь Куляшоў уславіў на ўвесь свет раку Бесядзь і свой Касцюковіцкі край. Якуб Колас - раку Нёман, Алег Салтук - Заходнюю Дзвіну і Шумілінскі край. Сяргей Панізнік - Міёрскую зямлю. Беларусь многія чытачы ведаюць і па творах Васіля Быкава, славутага сына зямлі Ушацкай.

Вялікімі дарогамі і маленькімі сцяжынкамі госці Беларусі дабіраюцца да гістарычных і культурных мясцін: Мірскага замка, Брэсцкай крэпасці, Хатыні, Белавежскай пушчы, Прыпяцкага заказніка, Браслаўскіх азёр... А беларусы заўсёды пачастуюць гасцей смачнымі стравамі з другога хлеба - бульбы: бабкай, дранікамі, клёцкамі, мачанкай... Далёка ў свеце ведаюць аб фестывалі нацыянальных культур у Гродне, магілёўскім "Залатым шлягеры"... Цікава, што знаходжанне паміж Захадам і Усходам дазволіла Беларусі стаць месцам яднання розных культур. Таму многія храмы, палацы, замкі, сядзібы ўвасобілі ў сабе адначасова адценні стыляў і традыцый многіх народаў свету. А жывапіс Беларусі - таксама незвычайная з'ява ў еўрапейскім мастацтве: паралельнае існаванне іканапісу, алтарнай карціны і свецкага жывапісу не мае наогул аналагаў у мастацтве іншых краін.

Некалі Уладзімір Караткевіч назваў свайго верша сцвярджаў: "На Беларусі Бог жыве"... Мой народ верыў у сваіх багоў - Перуна, Ярылу, Цёцю. Можа, таму беларуская школа іканапісу - пачатку XVI - пачатку XIX стст. - унікальная. Хіба могуць не крануць адметныя рысы абразоў: узорыстасць, багатая і разнастайная арнаментоўка, разны раслінны арнамент? Самыя вядомыя "Маці боская Адзігітрыя", "Параскева Пятніца" - са Случчыны, "Маці боская Іерусалімская", "Нараджэнне багародзіцы", "Апосталы Лука і Сымон", "Пакланенне вешчуноў", "Тройца старазаветная" - з Брэстчыны, "Вогненнае ўшэсце Ільі", "Тройца

новазапаветная" - з Віцебшчыны...

Мая Беларусь можа па праве ганарыцца сваімі старажытнымі гарадамі: Полацкам, Туравам, Віцебскам, Бярэсцем, Гародняй, Пінскам, Мінскам, Навагрудкам, Заслаўем і г.д. Здаралася, горад поўнасцю пераносіўся на новае месца - Полацк, Клімавічы, Мінск. Полацк быў, дарэчы, вельмі, надзвычай добраўпарадкаваным. У ім вучоныя знайшлі рэшткі дрэнажных сістэм. У Давыд-Гарадку і Мінску сцены будавалі з брусоў. А ў Навагрудку не мелася аніводнага аднолькавага дома. Ганарымся мы і найстарэйшымі помнікамі пісьменства: Астраміравым і Тураўскім евангеллямі (XI ст.), помнікамі эпіграфікі: Барысавымі камянямі (на Полаччыне) і Рагвалодавым каменем (на Аршаншчыне). На ўвесь свет праславіўся майстар красамоўства Кірыла Тураўскі. Папулярнасць у народзе набыў лялечны тэатр "Батлейка".

Далёка па-за межамі краіны ведалі беларускую разьбу: нашы майстры працавалі ў Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. Максім Багдановіч уславіў у аднайменным вершы высокамастацкія слуцкія паясы. Разнастайнасцю і арыгінальнасцю вылучаліся галаўныя ўборы (у мужчын - брыль, магерка, кучомка, аблавуха, у дзяўчат - скіндачка, чылка, вянок, кубак), у жанчын - каптур, чапец, намітка, падвічка, хустка. Так што сённяшнім модніцам ёсць у каго павучыцца. Беларускі фальклор многія стагоддзі з'яўляецца невычэрпнай крыніцай ведаў, дасціпна даносіў да людзей маральныя нормы. Вельма шкада, што сучасныя школьныя праграмы па літаратуры рэкамендуюць азнаямленне са спрадвечным толькі факультатыўна. А навукоўцы выдалі амаль 30 важкіх акадэмічных тамоў фальклору, што быў запісаны ва ўсіх абласцях.

Казачны эпас Беларусі лічыцца адным з найбагацейшых і найярчэйшых сярод славян. А нашы радзінныя, валачобныя, жніўныя і восеньскія песні, наогул, не маюць адпаведнікаў у свеце. Айчыннае мастацтва занатавала больш за 100 народных танцаў і звыш 400 народных гульняў. Нават у прыгонных тэатрах (у Нясвіжы, Слуцку, Слоніме, Шклове, Гродне, Гомелі) ішлі спектаклі на розных мовах свету: на беларускай, польскай, французскай, італьянскай, нямецкай і рускай. У Нясвіжы і Слуцку былі створаны музычныя і балетныя школы.

Мінулае маёй Айчыны - гэта і Полацк, сталіца адной са старажытнейшых у Еўропе дзяржаў, Полацкага княства, гэта і Навагрудак, які стаў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Гэта і замкі, у якія быў да апантанасці закаханы Уладзімір Караткевіч. Невыпадкова ж за Уладзімірам Сямёнавічам замацавалася пачэсная літаратурная мянушка "Рыцар беларускіх замкаў".

Далёка ў свеце вядомы нашы замкі і храмы-крэпасці. А колькі яшчэ цікавых помнікаў не захавалася з-за ваенных ліхалеццяў, з-за абыякавасці некаторых чыноўнікаў ужо ў мірны час. Мы ўсе разам павінны адвучвацца ад негатыўнага стаўлення да спадчыны. Хацелася б, каб кожнага беларуса неадольна цягнула спазнаць ды звездаць блізкія і аддаленыя старонкі гісторыі гераічных земляў Беларусі. Мы нарэшце павінны ўсвядоміць, што клопаты пра духоўнае ўзвышэнне грамадства, пра адраджэнне роднай мовы і культуры забяспечаць і эканамічны рост дзяржавы, і сацыяльны дабрабыт грамадзян. Мне вельмі балюча, што родная мова ў нас пачуваецца ледзь не мёртвай латынню, а айчынная літаратура часта выконвае толькі эстэтычную функцыю ў грамадстве, а павінна абавязкова выконваць і геданістычную: прыносіць сваім чытачам вялікае пачуццё асалоды. Выкарыстоўваючы набыткі нашых слынных папярэднікаў, мы абавязаны з пакалення ў пакаленне перадаваць культурныя традыцыі народа, памнажаць духоўнае і эканамічнае багацце нацыі, дбаць не толькі дзеля сябе, але і нашчадкаў.

*Канстанцін КАРНЯЛЮК*

*****************************************************

# Нешта горла забалела...

Вольга ШАЎКО /Zv-da/

Адчуванні болю ў горле знаёмыя ўсім з самага ранняга дзяцінства. І звычайна мы прывыклі звязваць гэта з прастудай. Аднак на самай справе, адзначаюць спецыялісты, болі ў горле могуць быць праявамі самых разнастайных захворванняў, пачынаючы ад гузіка, які праглынулі, і заканчваючы захворваннем крыві.

Болі ў горле могуць быць самымі рознымі — вострымі, рэжучымі, тупымі, ныючымі, пульсуючымі і г.д. Яны могуць быць пасярэдзіне, справа ці злева, з абодвух бакоў ці па ўсяму горлу. З'яўляюцца пры глытанні ці перыядычна на працягу дня. Уся гэтая разнастайнасць боляў тлумачыцца тым, што яны выклікаюцца рознымі захворваннямі. Самім разабрацца ў тым, што ўсё ж баліць, даволі цяжка. Арыенцірамі для гэтага з'яўляецца месца болевых адчуванняў у горле, іх характар і акалічнасці з'яўлення.

Калі болі ў горле суправаджаюцца кашлем, насмаркам і агульным недамаганнем, то, хутчэй за ўсё, у вас вострае прастуднае захворванне ці грып.

У гэтым выпадку варта прыняць аспірын ці парацэтамол, піць больш вадкасці — цёплую мінеральную ваду, гарбату з мёдам ці малінай. Народная медыцына рэкамендуе і такі сродак: намачыце шарсцяную анучку воцатам, алеем і камфарай, на ноч прыкладзіце да грудзей. Можна таксама зрабіць ззаду на шыю кампрэс з цёртага хрэну. Аднак калі праз два дні вам не стане лягчэй, варта звярнуцца да ўрача.

Калі ў вас пяршыць у горле, боль набывае пастаянны характар і ўзмацняецца пры глытанні сліны ці вады, то гэта, магчыма, праяўленні вострага фарынгіту — запалення слізістай глоткі.

Болі ў горле могуць быць як лакальныя (у розных месцах горла), так і па ўсяму горлу і насіць настолькі пакутліва-востры (рэжучы) характар, што прымушаюць зажмурвацца яшчэ да таго, як даводзіцца нешта праглынуць.

Пры вострым фарынгіце звычайна рэкамендуюцца цёплыя паласканні і шчолачныя інгаляцыі. З гэтай мэтай прымяняюць цёплы раствор пітной соды і кухоннай солі з разліку па адной чвэрці чайнай лыжкі на шклянку цёплай вады. У паласканне можна дадаць 10 кропель ёду. Варта таксама пазбягаць пераахаладжэння, менш гаварыць, не есці вострых, вельмі гарачых ці халодных страў. Гэтыя меры дапамагаюць толькі зняць непрыемныя адчуванні, а асноўнае лячэнне павінен прызначыць урач.

Найбольш частай прычынай боляў у горле з'яўляецца ангіна — запаленне міндалін. Яго выклікаюць розныя мікробы, галоўным чынам стрэптакокі, якія трапляюць у глотку часцей за ўсё пры непасрэдным кантакце з хворым на ангіну, пры карыстанні брудным посудам і нямытымі прадуктамі. Ангіна можа быць і ў выніку абвастрэння хранічнага танзіліту. Хоць інфекцыя знаходзіцца ў міндалінах, ангіна з'яўляецца агульным цяжкім захворваннем арганізма з вялікай нагрузкай на сэрца, пячонку і ныркі і рэзкім зніжэннем імунітэту. Адна з праяў ангіны — павелічэнне і хваравітасць рэгіянальных лімфавузлоў на шыі пад вуглом ніжняй сківіцы.

Улічваючы, што ангіна можа быць праявай розных захворванняў арганізма, напрыклад, захворванняў крыві ці інфекцыйных захворванняў (шкарлятыны, дыфтэрыі і інш.), то пры цяжкім цячэнні ангіны варта абавязкова выклікаць урача.

Пры ангіне рэкамендуецца процізапаленчае лячэнне нестэроідными прэпаратамі (аспірын, анальгін, артафен і інш.) і багатае пiццё.

Палёгку прыносяць цёплыя паласканні з сокам алоэ, рамонкам, эўкаліптам, шалфеем.

Пасля знікнення боляў у горле і нармалізацыі тэмпературы лячэнне варта працягваць яшчэ два тыдні, бо менавіта такі час працягваецца мінімальны цыкл запаленчага працэсу.

Не варта забываць, што ангіна заразная, таму хворага трэба ізаляваць, не пускаць да яго дзяцей і людзей сталага ўзросту, у яго павінен быць свой посуд, якім на перыяд хваробы ніхто іншы не павінен карыстацца.

У якасці прафілактычных мераў пры схільнасці да ангіны рэкамендуецца наступнае. Штодзень па 5—6 разоў жаваць па маленькаму кавалачку кораня аеру, прычым трымаць кавалачак у роце трэба 15—20 хвілін. Для паласканняў прымяняюць сок каланхоэ, змяшаны ў роўных прапорцыях з вадой. Працэдуру праводзяць некалькі разоў на дзень.

Болевыя адчуванні ў горле пры глытанні, якія з'яўляюцца падчас яды, могуць быць абумоўлены пашкоджаннем слізістай іншародным целам, калі прасвет глоткі рэзка скарачацца пры глытанні.

Часцей гэта рыбныя косці ці вострыя асколкі мясной косткі, якія трапляюць у мяса, калі яго сякуць. Наяўнасць асколкаў косткі ў горле праяўляецца вострым, колючым ці рэжучым болем пры кожным глытальным руху. Рыбныя косці часцей за ўсё выклікаюць адчуванне колючага болю.

У гэтых выпадках вельмі важна не панікаваць, каб не пагоршыць стан. Натуральнае імкненне адразу пазбавіцца ад болю ў горле, выкліканага выпадковым трапляннем косткі, штурхае многіх на паспешлівыя і вельмі небяспечныя дзеянні. Напрыклад, спрабуючы прапіхнуць костку, глытаючы грубую ежу ў выглядзе скарынак хлеба і г.д. Гэта часам «дапамагае» і прапіхвае костку далей у стрававод, дзе яна можа ўваткнуцца ў слізістую стрававода, што куды больш небяспечна. Самае правільнае — гэта звярнуцца да ўрача-оталарынголага, які агледзіць горла і дастане костку, не пашкодзіўшы слізістай абалонкі.

*****************************************************

## Прэзыдэнцкія выбары прызначаныя на 19 сакавіка 2006 году

Дзейная Канстытуцыя патрабуе, каб прэзыдэнцкія выбары адбыліся не пазьней як за два месяцы да заканчэньня паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы — гэта значыць, да 20 ліпеня. Ці могуць выбары адбыцца раней, у Канстытуцыі не патлумачана. Гэтым і скарысталіся дэпутаты, якія на пазачарговым паседжаньні Палаты прызначылі выбары на 19 сакавіка.

*Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2005 годзе*

| | |
|---|---|
| Уладзімір Ракуць | $50.oo |
| Ірэна Ільчук | $60.oo |
| Кон Ворт /Вайцехоўскі/ | $50.oo |
| Мікола Латушкін | $50.oo |
| Др. Мацьвей Смаршчок | $40.oo |
| Валянціна Ваксэліс | $20.oo |
| Васіль Васільеў | $25.oo |
| Ніна Дудар | $45.oo |
| Грэнд Валей Унівэрсіты | $30.oo |
| Лёнгіна Брылеўска | $100.oo |
| Надзя Барт /Нямеччына/ | $40.oo |
| Еленора Пітушка /Канада/ | $50.oo |
| С. Будкевіч /Англія/ | $40.oo |
| Др.Александар Туркоўскі | $50.oo |
| Анна Мерляк | $50.oo |
| Міхась і Тамара Белемук | $50.oo |

# Размываньне нацыянальнай тоеснасьці...

... Шляхі тут розныя. Адзін з праверaных і ўлюбёных крэмлёўскіх спосабаў — перасяленьне людзей. Калі канаў Савецкі саюз, прыбалтыйскія краіны, адбудоўваючы дзяржаўнасьць, натуральна сталі адбудоўваць нацыянальную сыстэму адукацыі У сярэдзіне дзевяностых у Беларусь валам хлынулі "цэнныя кадры" — розныя выкладчыкі навуковага камунізму і палітычнай эканоміі, вайскоўцы. Іншымі словамі, уся тая публіка, якая не захацела мірна і арганічна ўжывацца ў літоўскае ці латышскае грамадства. Бо там-жа трэба было вучыць дзяржаўную мову, там судзяць злачынцаў-чэкістаў. Лішне казаць, што такіх бальшавіцкіх "фахоўцаў" адразу чакалі пасады на кафедрах беларускіх унівэрсітэтаў і тэхнікумаў, кватэры і пашана. Прыязджаюць у Беларусь і з расейскіх бязмежных прастораў. На Беларусь у перспектыве гэтак-жа могуць "спусьціць" найбольш саветазыванае насельніцтва Калінінградзкай вобласьці. Вось так спакваля, нібыта непрыкметна зьнешне ў нашай **краіне фармуецца пятая калона, якая зацята ненавідзіць усё беларускае...**

Так піша ў беластоцкай "Ніве" У. Хільмановіч. Піша правідлова і праўдзіва. І ўсё гэта адбываецца пры поўнай падтрымцы і заахвочваньні Лукшэнкі і яго бальшавіцка-сталінскіх халуёў. Яны пасьлядоўна і зацята зьнішчаюць на Беларусі ўсё беларускае...

*****************************************************

Увага!
У сакавіку выходзяць у Вільні ўспаміны Міхася Белемука — "Свайго лёсу не мініш".
Просім замаўляць, цана кнігі $25 даляраў.
Адрас: Michael Bielemuk
10915 Lake Ave.
Cleveland, OH 44102
USA

*****************************************************

# Дзеля нашых дзяцей і ўнукаў

Зараз наш народ перажывае вельмі складаны, можна сказаць, лёсавызначальны перыяд сучаснай гісторыі. Нахабныя павукі-інтэгратары прыкладаюць максімум намаганняў, каб, нарэшце, аблытаць сваім павуціннем нашу любую Маці-Беларусь, пазбавіць яе самых дарагіх каштоўнасцяў — незалежнасці і роднай мовы. Не даць здзейсніць гэтыя згубныя для нас злачынствы — святы доўг сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны.

Вось чаму я цалкам салідарны з тымі, хто няўхільна, смела, з адкрытым забралам выступае ў абарону нашай пакуль што кволай незалежнасці і спрадвечнай беларускай мовы. Глыбока і шчыра ўдзячны за гэта самым розным высокадухоўным і годным людзям, такім, як народны паэт Ніл Сымонавіч Гілевіч, як навукоўцы браты Лычы — Леанід і Генадзь, як сталы аўтар "Народнай волі" з Кобрынскага раёна Мікола Канаховіч і многія іншыя.

Здаецца мне, што і адзіны прэтэндэнт ад дэмакратычных сіл на ўдзел у выбарах прэзідэнта краіны ў 2006 годзе Аляксандр Уладзіміравіч Мілінкевіч, дзякуй Богу, належыць да гэтай кагорты. Гэта дае пэўную надзею на поспех дэмакратычнага развіцця нашай краіны ў перспектыве.

Як ніколі сёння нам, беларусам, патрэбны кансалідацыя ўсіх здаровых дэмакратычных сіл грамадства — дзеля годнай будучыні роднай зямлі, нашых дзяцей і ўнукаў.

Алесь ЛЯСКОЎСКІ, настаўнік-пенсіянер, 80 гадоў.

*****************************************************

# БЕЛАРУСКІ ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ У ВІКТОРЫІ — Аўстралія.

**<u>Паведамленьне:</u> Падаецца да агульнага ведама, што з прычыны сьмерці старшыні БЦК у Вікторыі /Аўстралія/ сьв. памяці Алега Шнэка, на паседжаньні Ўправы БЦК 6. 11. 2005 г. аднагалосна быў выбраны новы старшыня БЦК, сп. Янка Барысевіч.**

**Склад новае Ўправы БЦК у Вікторыі : Старшыня Янка Барысевіч, сакратар-скарбнік Аўген Груша, сябры Управы: а. Аляксандар Грыцук, Тамара Грыцук і Слава Жук.**

**<u>Мэлбурн, Аўстралія</u>**

Адзначэньне 85-х Угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, адбылося ў нядзелю 27 лістапада 2005 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй БАПЦ — Сьвятых Віленскіх пакутнікаў, адзначылі 85-я ўгодкі Слуцкага Збройнага чыну. Пасьля Літургіі а. Александар і а. Юры адслужылі паніхіду па Слуцкіх Змагарах, якія палі на полі бітвы.

Пасьля паніхіды ўсе прысутныя перайшлі ў прыцаркоўную залю. Пасьля кароткага абедняга перапынку пачалася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная падзеям на Случчыне ў 1920 годзе.

Хвілінай цішыні ушанавалі памяць усіх змагароў, што аддалі сваё жыцьцё за волю Бацькаўшчыны. Усе народы на гэтым сьвеце маюць сваіх герояў, якіх яны шануюць і паважаюць. У нас, беларусаў, дзень Беларускіх Герояў прыпадае на 20-га лістапада. У гэты дзень мы ўспамінаем усіх ведамых і няведамых герояў, якія аддалі жыцьцё за Бацькаўшчыну Беларусь.

Гэта перш за ўсё Слуцкія Змагары, жаўнеры Беларускай Краёвай Абароны БКА, беларускай Паліцыі, Самааховы, Саюзу Беларускай Моладзі СБМ.

Сёньня мы ўспамінаем усіх вышэй названых беларускіх вайсковых фарміраваньняў, скромнай акадэміяй, прысьвечанай беларускім вайсковым падзеям. Усе прысутныя ўсталі і прасьпявалі жалобны марш — " Сьпі пад курганам герояў". Тады старшыня БЦК Янка Барысевіч прачытаў рэфэрат на тэму дня. Вельмі зьмястоўны даклад, які асьвятліў падзеі на Случчыне ў лістападзе 1920 года. Хоць Слуцкі Збройны чын быў пераможаны перавышаючай сілай добра ўзброянай рэгулярнай арміяй, гэта аднак засьветчыла ўсяму сьвету, што беларусы могуць адстойваць сваю волю і незалежнасьць са зброяй у руках.

Далей Аўген Груша прадэклямаваў верш Тодара Лебяды — "Ліст з Сібіры". Урачыстая акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Вечная слава Слуцкім Змагарам!

Аўген Груша, сакратар БЦК.

# Вітаўт Кіпель: Мова паправак нагадвае мне 1940-ы сталінскі год

**Вітаўт Кіпель** адзін з найстарэйшых беларускіх дзеячаў у ЗША і дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва. Паводле яго, мэта нядаўніх паправак у Крымінальны кодэкс Беларусі – запужаць людзей перад удзелам у палітычным працэсе перад выбарамі. Ён лічыць, што нягледзячы на шырокія фармулёўкі, як напрыклад "грубае парушэньне грамадзкага парадку", якія дазволяць задушыць любую апазыцыю, закон будзе прымяняцца выбарачна, пераважна да актывістаў апазыцыі і грамадзкіх арганізацый у правінцыі, дзе апазыцыя менш загартаваная і масавая.

(Кіпель: ) "Калі б я ня бачыў даты на гэтым законе, дык падумаў бы, што гэта 1940 ці 194-ы год, калі змагаліся з лятунствам, з пераездамі з кватэры на кватэру, нерэгістрацыяй у міліцыі. Гэты закон і законы савецкага сталінскага перадваеннага часу падобныя, як дзьве кроплі вады."

"Ва ўлады ёсьць рэальны страх. Грамадзтва наэлектрызаванае, і хопіць іскры, каб яго ўзарваць. І каб не дапусьціць выбуху, трэба зьнішчыць магчымыя ачагі напружаньня. Рэжым баіцца масавага забурэньня. Усе занджы публічнай апініі, якія паказваюць Беларусь спакойнай і соннай – яны справядлівыя, але да пэўнай меры. Адзіная сапраўдная апінія – гэта апінія ў дзень выбараў. Калі ў 1991 годзе на вуліцы выйшла сто тысяч, гэта здавалася цудам, але гэты цуд можа паўтарыцца"...

"Пакуль на Беларусі будуць прамаскоўскія рэжымы, зьнішчыць дыяспару будзе мэтай тых рэжымаў. У дыяспары перахоўваецца ідэя незалежнай Беларусі. І Маскве, і прамаскоўскаму рэжыму дзейнасьць дыяспары заўсёды стаіць папярок горла. І гэтыя спробы раскалоць дыяспару, зьнішчыць беларускія цэрквы, дзе гаворыцца па-беларуску, зьнішчыць арганізацыі, якія абараняюць наш прынцып свабоднай незалежнай Беларусі, былі і ў часы савецкія, ёсьць яны і ў часы Лукашэнкі".

## У Лёндане, Англія адзначылі...

У сыботу 26 лістапада 2005 г. у залі Беларускага Культурна-рэлігійнага цэнтру ў Лёндане адбылася ўрачыстая акадэмія прысьвечаная 85-м угодкам Слуцкага Паўстаньня.

Сьвяткаваньне пачалося ў царкве сьв. Пятра і Паўла пры Holden Ave. у Лёндане. Айцец А. Надсон адслужыў паніхіду за тых змагароў, якія аддалі жыцьцё, каб жыла Беларусь.

У рэлігійна-патрыятычнай пропавядзі а. Надсон падкрэсьліў важнасьць гэтай гадавіны для беларускага народу, якая не павінна быць забытаю, а служыць як патрыятычны чын для цяперашняга пакаленьня.

Пасьля Багаслужбы прысутныя перайшлі ў Культурна-рэлігійны цэнтр. Незважаючы на халодную пагоду, сабралася даволі ладная грамада людзей.

Старшыня ЗБВБ сп-я Л. Міхалюк адкрыла акадэмію вітаючы прысутных і папрасіла а. А. Надсона памаліцца за посьпех акадэміі. Хвілінай цішыні была ўшанавана памяць сяброў ЗБВБ, якія адыйшлі на той сьвет у мінулым годзе. Сп. М. Пачкаеў прачытаў прывітаньне ад старшыні БНР — Івонкі Сурвіллы.

У другой частцы акадэміі сп. М. Пачкаеў прачытаў зьмястоўны рэфэрат на тэму дня. Сп. П. Шаўцоў прадэклямаваў некалькі патрыятычных вершаў. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Падчас пачастунку прысутныя абмяняліся сваімі думкамі пры кілішку віна. Час праляцеў хутка і трэба было разыходзіцца дамоў.

Сыльвэстар Будкевіч, Англія.

# Мячыслаў Грыб: "У Беларусі можа скласьціся сытуацыя падвойнага прэзыдэнцтва"

Палітыкі цьвердзяць, што прызначэньне датэрміновых прэзыдэнцкіх выбараў на 19 сакавіка ставіць у няроўныя ўмовы ўсіх удзельнікаў кампаніі.

Былы старшыня Вярхоўнага Савету, юрыст Мячыслаў Грыб пераканаиы, што прызначаныя на 19 сакавіка выбары – датэрміновыя. Яны адбудуцца амаль за чатыры месяцы да сканчэньня паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Але датэрміновыя выбары праводзяцца толькі ў адным выпадку - калі вакансія прэзыдэнта застаецца вольная. Прычым парадак іх прызначэньня не прапісаны ў канстытуцыі і заканадаўстве. Паводле спадара Грыба, Палата прадстаўнікоў узялася даволі вольна тлумачыць канстытуцыю, замест таго, каб прыняць адпаведны закон. Мячыслаў Грыб цьвердзіць, што пры абраньні Аляксандра Мілінкевіча або каго-небудзь іншага, у выніку, можа скласьціся сытуацыя падвойнага прэзыдэнцтва.

(Грыб:) "І тады ў нас на чатыры месяцы створыцца сытуацыя, калі будуць два прэзыдэнты. Той, які дзейнічае, скажа:" Я табе не магу аддаць пасаду, таму што ў мяне засталося па канстытуцыі 4 месяцы". А той прыме прысягу і скажа:"Не, ты павінен мне гэтую пасаду здаць". Як гэтае пытаньне будзе вырашацца, скажыце?"

Мячыслаў Грыб заўважае, што прызначэньне выбараў на 19 сакавіка стварае няроўныя ўмовы для ўсіх прэтэндэнтаў.

"Што тычыцца роўных умоваў у выбарах, то зразумела, што іх няма. Вы ж бачыце з учарашніх падзей, што ўлады рыхтаваліся раней да гэтых выбараў. І ўсё ўжо было падрыхтавана: за паўдня і пастанову прынялі, і бюджэт вылучылі, і паседжаньне Цэнтарвыбаркаму правялі... Гэта ўмовы у значнай ступені няроўныя, гэта розныя ўмовы".

Прызначэньне выбараў на 19 сакавіка – гэта спроба ўладаў перашкодзіць паўнавартаснай кампаніі Аляксандра Мілінкевіча. Так мяркуе сябра штабу адзінага кандыдата Аляксандар Дабравольск.і

"Лукашэнка больш за ўсё на сьвеце любіць сваю ўладу. І калі ён вырашыў аддаць чатыры месяцы сваёй улады – гэта значыць ня ўсё там добра. Гэта значыць, што ён бачыць вялікую небясьпеку, і каб не прадухіліць нават чатыры месяцы сваёй улады ён гатовы аддаць. Фактычна, Лукашэнка пераблытаў уласныя інтарэсы зь інтарэсамі дзяржавы. І ўсё робіць толькі дзеля ўласных інтарэсаў, дзеля захаваньня сваёй улады".

Міжнародны каардынатар "Хартыі-97" Андрэй Саньнікаў лічыць, што Лукашэнка прадэманстраваў няўпэўненасьць і таму прысьпешыў прызначэньне выбараў.

"Роўных умоваў ніколі не прадугледжвалася. Мы ведаем, што той адміністратыўны рэсурс і таталітарная сыстэма, якая існуе ў Беларусі, ніколі не прадугледжваюць роўных умоваў. Наадварот, гэта будзе ціск з боку ўладаў, будуць рэпрэсіі, і да гэтага таксама людзі павінны рыхтавацца".

Былы міністар замежных справаў Пятро Краўчанка зьбіраецца балятавацца кандыдатам на прэзыдэнта. Ён пагаджаецца, што ўсе прэтэндэнты ў параўнаньні з Лукашэнкам апынуліся ў няроўных умовах.

"Па сутнасьці, можна казаць, што гэта - бліц-кампанія, якая будзе разьвівацца для кожнага з удзельнікаў вельмі складана. Па другое, ён добра разумее, што сьвет будзе займацца іншымі падзеямі. І міжнародная супольнасьць, у тым ліку Расея, развязваюць яму рукі для фальшаваньняў і для таго, каб рабіць тое, што яму захочацца"

--- * ---

...Кажуць, што гісторыя паўтараецца, і ў гэтым адзін з найбольшых яе недахопаў. Цяжка дакладна падлічыць, пры якім рэжыме — нядаўняй дыктатуры кампартыі ці цяперашнім панаванні страху, лжы і невуцтва — было больш прыстасаванцаў, гатовых на любыя гнюснасці і прыніжэнні дзеля лустачкі хлеба з маслам. Можна толькі ўпэўнена сцвярджаць, што тады і цяпер ні на дзень не спыняецца працэс кланіравання ўладамі ўсё новых і новых спадручнікаў і халуёў.

Гэта яны, седзячы ў дэпутацкіх крэслах, бяздумна штампуюць указы і прымаюць законы пад адну канкрэтную персону альбо пад патрэбны каму-небудзь вынік.

Гэта яны, надзеўшы судовую мантыю, выносяць несправядлівыя, заказныя прыгаворы. Гэта іх рукамі перапісваюцца выбарчыя бюлетэні і забяспечваецца запланаваны працэнт тых, хто дружна прагаласаваў "за". Гэта яны, адкормленыя на дзяржаўных харчах, надрэсіраваныя, узброеныя дубінкамі і нахабствам, ваююць не са злачынцамі, а з падлеткамі, якім хочацца бачыць сваю краіну вольнай і цывілізаванай.

Гэта яны, утуліўшы галаву ў плечы і не паднімаючы вачэй, льюць з экрана гразь на кволых апанентаў рэжыму і захлёбваюцца ад захаплення, расказваючы пра нечуваныя поспехі, што дасягнуты ўсюды і ва ўсім пад мудрым кіраўніцтвам адзінага і непаўторнага, быццам не душыць людзей непамерны рост плацяжоў і цэнаў, і палова насельніцтва не жыве за мяжой беднасці. Завіхаюцца трубадуры лукашызму і каля радыёмікрафонаў, і са старонак дзяржаўных газет.

І яшчэ адноназіранне. Амаль штодня ўсе каналы Беларускага тэлебачання радуюць гледача рэпартажамі з розных нарад, пасяджэнняў і пераклічак. Калючы позірк правадыра, суровы ментарскі голас і прыгнутыя долу галовы кіраўнікоў урада, міністраў, губернатараў — людзей у большасці сваёй кваліфікаваных, вопытных спецыялістаў, часцяком і з вучонымі ступенямі, і са стажам арганізатарскай, кіраўнічай работы. Не адрываючы вачэй ад стала і папер, яны старанна ўсе канспектуюць, занатоўваюць, не спыняючы запісу нават тады, калі разгневаны лідэр абяцае адправіць чарговага непаслушэнца на Валадарку на нары. Усенародны публічны ўрок выхавання халуёў і бесхрыбетнікаў.

# Аляксей Марачкін: "Мы будзем ісьці шляхам прагрэсу й цывілізацыі.

Якія падзеі 2005 году сталіся найбольш значнымі ў жыцьці краіны? Што ёсьць самым станоўчым і самым адмоўным? Якія пэрспэктывы чакаюць Беларусь у бліжэйшай будучыні? На гэтыя пытаньні адказвае лідэр грамадзкага аб'яднаньня "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"", мастак Аляксей Марачкін.

"Безумоўна, што самая станоўчая, дадатная падзея ў жыцьці нашай краіны, гэта тое, што на Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі мы нарэшце абралі адзінага кандыдата ў прэзыдэнты. Гэта найважнейшая падзея. Яна нас акрыляе й дае надзею на тое, што мы будзем падрыхтаваныя да выбараў. Час пакажа, як яно будзе насамрэч, але я веру й мае сябры таксама вераць, што надыдзе час і гэтая дыктатура й тыранія скончацца".

"Якія падзеі ў жыцьці Беларусі сёлета вы лічыце самымі адмоўнымі?"

"Шмат чаго, канечне, але найгоршая, да прыкладу, гэта раскол у Саюзе пісьменьнікаў. Зьезд Саюзу пісьменьнікаў Беларусі пад кіраўніцтвам генэрала Чаргінца – гэта афармленьне адшчапенцаў. Яшчэ адмоўнае, гэта тое, што з кожным днём і кожным месяцам мы жывем пад усё нейкімі новымі ўказамі, новымі распараджэньнямі начальніка краіны. Калі ўжо за нейкі выступ супраць улады – вось тут я нешта кажу – а гэта ўжо дыскрэдытацыя Беларусі, то глядзіш мяне ўжо і павяжуць на два ці пяць гадоў. Так што тыранія працягваецца".

"Вашае бачаньне пэрспэктывы на бліжэйшы час?"

"Жыцьцё працягваецца й культурны працэс ідзе: пішуцца новыя вершы, песьні, ставяцца спэктаклі – як бы там ні было мы творым. І гэта ўсё ж-такі ўсяляе надзею. Ну й я думаю, што нельга вечна быць такой чорнай дзіркай сярод цывілізаваных эўрапейскіх краінаў. І нідзе мы ня дзенемся: мы будзем ісьці гэтым шляхам – шляхам прагрэсу й цывілізацыі".

